**Стольны град.** Наваградскі літаратурны альманах. № 2. На беларускай мове. 2022. 208 с.

Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ “Аб сродках масавай інфармацыі” ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-З.

Выдавец: Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства “Пружмень”.

Укладальнік: Святлана Абдулаева.
Рэдактар: Станіслаў Суднік.
Карэктар: Васіль Кузьміч.
Дызайн вокладкі: Станіслава Судніка.

У зборнік увайшлі творы наваградскіх літаратараў і творы пра Наваградак.

# НА СПАТКАННЕ З ГОСЦЯЙ НЯБЕСНАЙ

Многія, напэўна, ведаюць выслоўе, якое стала ўжо крылатым: "Паэзія - гэта госця нябесная". Безумоўна, яно нарадзілася ў творчым асяродку. Аўтар яго невядомы. Адназначна, што ім можа лічыць сябе кожны, хто ў той ці іншай меры зведаў таемнасць і слодыч творчага пошуку ў літаратуры.

Сапраўды, калі спрабуеш зразумець змястоўна-эстэтычную прыроду паэзіі, то сутыкаешся, здаецца, з нечым недаступным, яно нібы схавана за далёкім даляглядам, асабліва ў тым, што тычыцца метафарычнасці, дзе сарцавіна, сутнасць. Разгадка - ва ўменні ўлавіць падтэкставую плынь, разнастайнасць і мноства сувязей і адносін паміж з'явамі, якія ствараюцца фантазіяй паэта, і рэчаіснасцю, што вакол нас. У выніку ўтвараецца новая рэчаіснасць, у якой умоўна-метафарычнае знітавана ў адно цэлае са звычайнымі пабытовымі праявамі нашага жыцця. Напрыклад, у Андрэя Пяткевіча, мясцовага паэта, які, на жаль, ужо не з намі, чытаем: "Час, які з лавы злез, сыпле ў печ хвіліны". Гэта - паэзія. Тут няма дэкларатыўнасці, г.зн. сухіх, не раз ужытых фраз, якія не кранаюць душу. Тут - умоўнасць, што жывіцца фантазіяй аўтара, у непарушнай повязі з нашым адчуваннем праяў рэчаіснасці. Утвараецца вобраз часу, жывы і непасрэдны. Уключаем уяўленне - і вось у сваёй яснасці малюнак: нехта (час) кідае ў печ не дровы, а хвіліны. Далей уяўленне падказвае, што так мы марна трацім самае дарагое - імгненні кароткага зямнога жыцця. Сказана канкрэтна і па-мастацку запамінальна.

У вершы "Бабашы" ў Самсона Пярловіча знаходзім радкі: "Яна, ласкавая, лавіла сонейка, каб падарыць яго нам у снапах…" Чытаеш - і ўзнікае цэлая гама асацыяцый і адчуванняў. Па-першае, захапляе працавітасць матулі. Па-другое, матуля нам дорыць сонейка. Як? Хіба гэта магчыма? Яна жне сярпом, у якім люструюцца сонечныя праменні. Матуля ў снапах перадае іх сваім памочнікам - дзецям. Вобраз матулі атрымлівае дадатковае мастацкае ўвасабленне. Ён становіцца цяплейшым па-чалавечы, эстэтычна прасветленым да шчымлівага пачуцця замілавання красой і дабрынёй.

У Зміцера Арцюха ёсць зборнік вершаў "Вясна ў кароткім паліто". Адразу скажам: арыгінальная назва. Па мастацкай канкрэтнасці і вастрыні. У аўтара сваё светабачанне. Адчуваецца свежы подых думкі і ўяўлення. Так шмат месціцца ў назве. Быццам перад намі яшчэ маладзенькае дзяўчо, светлае і чыстае. Яшчэ не дзяўчына, але ўжо з моцнай прэтэнзіяй на нявесту. Яна хоча самавыяўлення, якое дасць яркую прывабнасць. Вясна (дзяўчо) імкне да сталасці і новых фарбаў, што нясуць непаўторную маладую красу. І будзе новае паліто, якраз па ўзросце, калі вясна ўбярэцца ў сілу, і ў ім вобраз атрымае мастацка-эстэтычнае завяршэнне.

Хочацца спадзявацца, што творы, змешчаныя ў альманаху "Стольны град-2", дадуць магчымасць чытачу спаткацца з паэзіяй як нябеснай госцяй.

***Васіль Кузьміч.***



# *Андрэй Пяткевіч*

*Помніцца, ён прыязджаў з Уселюба. Заходзіў у рэдакцыю газеты "Новае жыццё", каб проста пагаманіць аб розным, паслухаць навіны, выказаць свае думкі. Часцей меў узаеміны з адказным сакратаром газеты Міхасём Талочкам, з якім збліжалі ў многім непры-манне камуністычнай ідэалогіі і імкненне да грамадзянскіх свабод. Гэта быў пачатак 90-х гадоў. Ён прапаноўваў свае вершы для друку. Рэдкалегія не адмаўлялася іх змяшчаць на старонках газеты. Пачытайце некаторыя з іх. Вы ўбачыце, як аўтар тонка адчувае, што такое паэзія, і ўмее ў ёй сказаць сваё слова.*

***Васіль Кузьміч.***

* * *

Таямніцу маўклівай ахвяры
Назаўсёды знявечыла ноч.
Затухаюць спакоем абшары.
Захад сонца - скрываўлены нож.

У глыбокім бяздонні Сусвету
Зарастаюць планеты травой.
Адгалоскі галактык-суседак
Зорнай кветкай дрыжаць нада мной.

Боль патухшага промня не стыне -
Грэе чорную рану зямлі.
Шляху Млечнага белае крылле
Разлілося на мокрай раллі.

Голас Бога... і болей нічога -
Нам нашэптвае неба экран.
А з люстэрка, як рэчка, старога
Мы п'ём восеньскай ночы падман.

* * *

А. К.

Хай не плача над лёсам хлапчук,
Не яго тут у гэтым віна.
Не адчуў ён пяшчотных рук,
Бацьку ж трэба бутэлька віна.

Ад віна - крок адзін да віны,
Да бяды і няшчасця крок.
Застаюцца ў свеце адны,
Не ступіўшы на родны парог.

Хочаш плач ці скачы, ці ідзі -
А жыццё неадступна адно.
Хоць вяроўку на шыю кладзі,
Шчасця, браце, усё ж не відно.

І не ведаю, як апісаць,
Як дастануць малога з вады.
Адзінока закрэсліць сляза
Шлях яго ў нябыт праз гады.

* * *

Ю.Н.

Сонейку прысвячаю
Верш свой трошачкі горкі.
Сёння размову з адчаем
Вёў я на гіблым пагорку.

Потым пілі гарбату
Разам з крывёй чалавечай.
Потым шукаў я брата,
А хтосьці ў балоце енчыў.

Суп гатаваў з вампірам
З галоваў немаўлятаў.
Імі карміў я ліру
І Бога, што злому рады.

Потым пісаў я вершы,
Каб дагадзіць сумленню.
Думаў, што шлях мой лепшы.
З партрэта пляваўся Ленін.

Ноччу крывавілі зоркі.
Здані збіраліся ў зграю,
Верш свой трошачкі горкі
Сонейку прысвячаю.

* * *

Пярэстае кацяня
Гуляе з пустой шпулькаю.
Кветкі пасвяць каня.
Сонца ў калюзе булькае.

Дражняць гусей шпакі.
Куры праполваюць грады.
Каля нябеснай ракі
Поўзаюць воблакі з ваты.

А ля паркану бэз
Слухае гул пчаліны.
Час, які з лавы злез,
Сыпле ў печ хвіліны.

Усюды ўсё жыве -
Пяе, смяецца, красуе.
А я ляжу ў траве,
Мне вершы мураш дыктуе.

* * *

Ізноў на зямлю падае дождж.
Ноч уся мокрая ад вады.
Ты мне мінулае напрароч,
Лёс, поўны радасці і бяды.

Дажджынкі ціхую песню пяюць,
Толькі самота стаіць над душой,
Хіба ж для гэтага жыў, каб адчуць,
Што ў свеце адна рэчаіснасць - боль.

* * *

Акрываўлены голас вечных пакутаў
Дзікай зданню лунае над нашай душой.
Ненажэрная цемра малітвай прыкута
Да маланак, якія адлічваюць боль.

Рэжа вечнасць на часткі старэнькі гадзіннік,
А Хвіліны крычаць, чк у Храме званы.
Заблудзіўся ліхтар - крочыць поначы кінік.
Задаволены дождж сее кроплі маны.

Растаптаўшы адбітак азёрных люстэркаў,
Вецер зоры шпурляе ў гнёзды гадоў.
Ломіць вокны пустыя натоўп недаверкаў,
Мажа вочы і вушы свае фарбаю слоў.

Светлякамі ўсцешана марнае поле.
Адчыняе світанак прываблівы сон.
Адзічэлі шляхі ад назойлівай волі,
І смяецца над вечнай ахвяраю скон.

* * *

Сівы вечар, сіні вечар
Ля парога ціха енчыў.
Я яго пушчу у хату -
Чым багаты, тым і рады.

Хай сядае на падлогу -
У мяне падлогі многа.
Пагаворыць чынам-чын,
Потым трохі памаўчым.
Заўтра будуць іншы дзеі -
Ваўкалакі, цмокі, змеі
Папаўзуць кудысьць пад схроны,
Нам пакінуўшы харомы.
А пакуль, мой добры вечар,
Пакаштуй, што ёсць у печы, -
Сала, дранка і гарбата.
Хто ж у гэтым вінаваты,
Што ў нашым ціхім краі
Завяліся гадаў зграі?
Аж да самай дамавіны
Гнуцьмем тут на гадаў спіны.
Люд раблівы, безгалосы,
Ён не возьме вілы-косы,
Захінецца лахманамі.
Мы не з людам, люд не з намі.
Сівы вечар, сіні вечар
Ля парога ціха енчыць.
Смела ты заходзь у хату,
Бо я скінуў з вокнаў краты.

*в. Уселюб.*



# *Святлана Абдулаева*

*Святлана Абдулаева (Святлана Іосіфаўна Абдулаева (Юшкевіч) - паэтэса, публіцыст.)*

*Нарадзілася 23 снежня 1964 г. у вёсцы Ашмянцы Шчучынскага раёна Гарадзенскай вобласці ў сям'і службоўца. Скончыла Гарадзенскае музычнае вучылішча.*

*Вершы друкаваліся ў газетах і часопісах "Гродзенская праўда", "Настаўніцкая газета", "Літаратура і мастацтва", "Новае жыццё", "Маладосць", "Полымя", "Беларуская думка" (ЗША), "Гаспадыня", "Алеся" , у альманахах і калектыўных зборніках "Новы замак", "Стольны град", "Созвездие" № 1, № 2, № 3, № 5, "Ступени", "Поэт года" (2020, Масква).*

*Аўтар кніг паэзіі "Музыка дажджу" (2011), "Тайна времени" (2012), "В преддверии любви"(2017).*

*Піша на беларускай і рускай мовах. Многія вершы пакладзены на музыку.*

*Жыве ў Наваградку. Працуе ў дзіцячай школе мастацтваў настаўніцай па класе балалайкі і гітары.*

## Белы голуб

У нябеснай сінечы
Белы голуб лунае…
І мяне вабіць нечым
Воля-вольная тая.
З гэтай птушкай на роўных
Я лятаю без крылаў -
І ў снах каляровых
Шлюць анёлы мне сілаў.
У нябеснай сінечы
Белы голуб лунае -
Повязь цесная з вечным -
Траекторыя тая…

## Ах, цыганскае жыццё

Ах, цыганскае жыццё -
Вечная дарога
Ад калыскі і да дзён
У прытулак Бога.
І каб сум, як насланнё,
Не ахутваў хмарай,
Праз усё-усё жыццё
З табарам - гітара.

Ах, цыганскае жыццё -
Нібы вецер, коні…
Ды каханне, як касцёр
Яркі на сутонні.
Ах, цыганскае жыццё -
Луг квяцісты, поле…
А мілей, мілей за ўсё -
Шлях, каханне, воля!

* * *

Не хачу табе ілгаць - крывіць душой.
Не твая я… не твая… І ты - не мой.
Нам у розныя бакі з табой ісці…
Адпусці мяне на волю… адпусці…
Лістапад затрусіць лёгкі след.
Не крыўдуй і не крычы мне ўслед,
Наўздагон у роспачы: "Пастой!".
Не твая я… не твая… І ты - не мой…

## Вецер

Стукае вецер ціха ў акно -
Адсочвае кожны мой след .
А госць той, якога чакаю даўно,
Яшчэ набывае білет.
Стукае вецер ціха ў акно -
Просіцца быццам за стол.
І я наліваю ў свой келіх віно
І… незнарок - на падол.
Стукае вецер ціха ў акно…
Ды зараз ён мне, як дакор -
Чаму разліла так няспрытна віно?
Чаму не мяняю ўбор?

* * *

Мне бусел над хатаю клёкатам
Шчымлівым сваім нагадаў
Фрагменты дзяцінства далёкага
Пад музыку спеючых траў.
І я ў летуценнях - сцяжынкаю
Праз жыта іду да ракі,
А колас раз-пораз пушынкаю
Кранаецца мякка шчакі.
Зляцелі даўно завірухаю
Юнацтва імклівага дні…
І белага бусла я слухаю,
Як памяць сваю ў цішыні.

* * *

Я асцярожна ў задуменні крокі
Па вузенькай сцяжыначцы раблю.
Квітнее лён навокал сінявокі,
Нібыта неба ўпала на зямлю.
І я баюся патрывожыць гэту
І цішыню, і гэту прыгажосць.
Мая душа падобная да ветру:
Я на планеце зараз - проста госць.
Ах, гэты колер неба сіні-сіні…
Як мора, сіняя палітра і ля ног.
І гэтай фарбы з паралельных ліній
Маім вачам калісьці ўсыпаў Бог.

## Рву я рамонкаў белых пялёсткі

Рву я рамонкаў белых пялёсткі,
Хоць і не веру ў самападман.
А за ракою ціхмяную вёску
Ўжо закалыхвае белы туман.

"Прыйдзе, не прыйдзе… Скажы мне, рамонак,
Верыць, не верыць… чакаць альбо не?"
Ах, як удалечы грае гармонік!
Божа, мо гэта ўсё мроіцца мне?
З неба начнога яскравая зорка
Ўпала на шчасце пад ногі ў траву -
Вузкай сцяжынкай прайдуся па ўзгорку,
Белых рамонкаў букецік нарву.
"Прыйдзе, не прыйдзе… Скажы мне, рамонак,
Верыць, не верыць… чакаць альбо не?"
Ах, як удалечы грае гармонік!
Божа, мо гэта ўсё мроіцца мне?
Сталі прыгожа ў радочак бярозкі,
Кроны схаваўшы ў зялёны парык…
Белых рамонкаў рву я пялёсткі -
Вецер старанліва робіць падлік.
"Прыйдзе, не прыйдзе… Скажы мне, рамонак,
Верыць, не верыць… чакаць альбо не?"
Ах, як іграе далёка гармонік!
Божа, мо гэта ўсё мроіцца мне?

* * *

Іграе фарбамі вячэрні небасхіл…
Кладзецца ціш на сілуэт вярбы.
А я прашу ў неба даць мне сіл
І каб Гасподзь пачуў мае мальбы…

Наперад круціць час свой калаўрот -
Знікае сонца неўпрыкмет за лес.
А ў думках я іду наадварот -
У маленства і ўсяму наперарэз.

І фарбамі іграе небасхіл…
І падае раса з травы да ног.
І як шыфон - туманавы насціл…
І быццам у дзяцінстве, пахне стог…

* * *

Перабіраю ў памяці гады
Пад перабор гітарных струн увішна…
А за акном у квецені сады -
І там між дрэў, як у раі, зацішна…
Пяшчотна стаўлю пальцы на лады.
Ах, гукі! Нібы лёгкія пялёсткі!
Я менавіта з гэтых гукаў лёс тку,
Каб засланіцца ад духоўнай нематы.
Перабіраю ў памяці гады
Пад перабор гітарных струн няспешна…
Святое ў гуках дадзена мне, грэшнай,
Аднойчы, ды затое назаўжды.

**Мой любы край**

Мой любы край, азёрны і лясны!
Люблю твае сцяжынкі палявыя…
А як ля гнёздаў завіхаюцца буслы,
Калі ў іх з'яўляюцца малыя!
Любімы край у аздобе васількоў,
Як поясам падвязаны хлапчына.
І грэе маё сэрца, быццам кроў,
Распырсканная восенню каліна.
Мой любы край - аблокі над ракой,
Як у люстэрку іх глядзяцца пасмы.
А ноччу - залацістых зорак рой,
І неба тон - як чорны колер басмы.
Ну а зімой - у полі белы снег
І графіка бярозаў ля абочын.
Любімы край - маіх дзяцей і ўнукаў смех
І мілага мужчыны штодзень вочы.

* * *

Пастукаў дождж у маё акно,
А я чакаю ў хату госця -
Мы з ім знаёмыя даўно
І зваць яго так проста "Косця".

Пастукаў дождж, а лістапад
Прынёс да шыбы ліст кляновы -
І я кажу яму: "Віват!
І дзякуй! веснік мой барвовы!"

Пастукаў дождж, а тэлефон
Прыслаў тры сказы: "Буду хутка.
Пакінуў я вось-вось перон.
Цяпер вязе мяне маршрутка".

Пастукаў дождж, а за акном
Каханы ўжо рукой махае -
І сэрца поўніцца святлом
І радасцю душа жывая.

Пастукаў дождж, нібы прыслаў
Пасланне тайнае з нябёсаў,
Што час якраз цяпер настаў
Майму з тваім звязацца лёсам!

* * *

Снегапад… снегапад… снегапад…
Белы колер - куды ні глянь вокам.
І ліхтар адзінокі здалёку,
Як на варце застыўшы салдат.
І мярэжкай цярушыць сняжок -
Абсыпае вішняк, што ля хаты,
Абапёрся на плот зухавата,

Адступіўшы ад сцежкі на крок.
Снегапад… снегапад…снегапад… -
Між мінулым і будучым дзверы,
А сляды, як па белай паперы,
Калі хто азірнецца назад.

* * *

Даўно пакінутая хата…
І дзесьці гаспадар у Бога…
Адзін куст бэзу зухавата
Глядзіць бясконца на дарогу -
Не варухнецца на хвіліну,
Нібыта ў забыцці-чаканні…
А па шашы імчаць машыны -
Аднак, на іншыя спатканні…

* * *

Ці то вецер у полі, ці дожджык,
Ці то проста рамонкавы баль,
Я ў думках заўжды - падарожнік,
А прастора наўкол - магістраль.

Назіраю я часта: над вёскай
Як струменіць ад комінаў дым,
Уецца поле жытнёвай палоскай,
І валошкі хаваюцца ў ім.

А пасля падыйду да крыніцы,
Дзе вадой чыстай вечнасць звініць,
Я павінна была нарадзіцца
Тут, каб вершамі й музыкай жыць.



# *Зміцер Арцюх*

*Зміцер (Дзмітрый Уладзіміравіч) Арцюх нарадзіўся 2 сакавіка 1978 г. у вёсцы Рутка Наваградскага раёна. Аўтар кніг вершаў "Вясна ў кароткім паліто…", "На скрыжаванні". Друкаваўся ў беларускіх і замежных выданнях. Вершы перакладзены на рускую і балгарскую мовы, некаторыя пакладзены на музыку.*

*Скончыў Менскі педагагічны каледж імя Максіма Танка, факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.*

*Аўтар дакументальных фільмаў "Навагрудская Галгофа", дакументальна-публіцыстычнага цыклу "По имени Детство", тэлепраграмы "Монолог", тэленарысаў.*

*Заснавальнік і першы дырэктар Паэтычнага тэатра "Арт.С".*

*Працаваў на Беларускім радыё і тэлебачанні, у рэдакцыі часопіса "Промышленная безопасность", у Амерыканскім дабрачынным фондзе "The Saviour", намеснікам рэдактара партала Свята-Елісавецінскага манастыра.*

*Зараз з'яўляецца рэдактарам Праваслаўнага партала Dei Verbo.*

* * *

Мінаюць дні, мінаюць ночы.
Яшчэ жыве…
Яшчэ баліць…
Яшчэ душа з табою хоча
Пагаварыць.
Яшчэ надзея не пагасла,
Яшчэ зялёны сакавік.
Яшчэ… Яшчэ…
Але ж мне ясна:
Мы не ўдваіх.
І ўсё ж дазволь у думках ціхіх,
У вершах сонных
Сны складаць.
Дазволь табой не роўна дыхаць,
Цябе чакаць.

## **Зазімелы настрой**

Твой настрой - гэта проста сняжынка.
Дай далонь тваю… Пацалую -
Знікне сум. І ад суму скарынка
Застанецца. Зіму пачастуем.

Хай сумётніца зубы зломіць
І настрой свой далёка закіне.
Шчасце - наша. І, чуеш, нікому
Не дазволім яго зазіміць.

* * *

Памаўчым і нырнем у позіркі.
Будзем плаваць. І будзем дыхаць.
Колькі вёснаў, і колькі зім
Я чакаў цябе. Марыў. Клікаў.
І цяпер не хачу адпускаць.
Разам будзем давай плаваць
У акіяне зямнога жыцця.
Ты мая нечаканая радасць!

* * *

Сонца носіць тваё імя.
Грэцца ў промнях тваіх - асалода!
І не важна, што холад, зіма.
Не надвор'е і не прырода
Падарылі мне, сонца, цябе.
Мне цябе падарыла Неба
За пакуты, гады ў журбе…
Будзем разам! Нам сёння трэба
Стаць адзіным гучаннем. Струной!
Быць адзіным дыханнем сэрца.
Не знікай, не бяжы. Пастой,
Мы ж яшчэ не паспелі пагрэцца!

* * *

Ты - загадка мая.
Я ўжо месяц гадаю,
Варыянты кручу.
Невядомасць - грызе.
І не ведаю я:
Ці люблю, ці кахаю…
Проста думкі лічу,
Як кругі на вадзе.

Ты - загадка мая.
Дні, як дзённік, гартаю.
Кожны позірк - акно…
Час няўмольна ідзе.
І не ведаю я,
Што пішу, што чытаю.
Толькі знаю адно -
Разгадаю цябе!

* * *

Вецер нашаптаў, што ты сумуеш.
Не сумуй! Я думаю пра нас.
Слухай вецер - і тады пачуеш
Песню сэрца. У ім на ўсё адказ -
На пытанні пра маё каханне,
На пытанні пра маю любоў…
Слухай вецер. У яго шаптанні
Столькі важных, столькі цёплых слоў.

* * *

Акварыум. Рыбкі. Ты.
І цёплыя словы, гарачае сэрца.
І позіркі… Вочы… Ах, вочы! Куды
Схавацца ад позіркаў,
Збегчы, не ўмерці…
І сэрца ўцякае, бо ведае боль.
І сэрца вяртаецца - ведае шчасце.
Акварыум. Рыбкі. Ты.
І цёплыя вусны…
Не будзем спяшацца.

* * *

Мне прыснілася лета. Я марыў пра нас.
І я рады, што люты гэты сон не парушыў.
А давай патанцуем. Будзе першы наш вальс.
Вочы ў вочы… Сагрэюцца душы.

І ні дождж, і ні снег не пашкодзяць сказаць,
Што чакаць гэты танец я даўно ўжо стаміўся.
Я сягоння хачу табе сны ўсе аддаць.
Я хачу, каб сягоння наш раман нарадзіўся.

**Гараскоп**

Верыць гараскопу не хачу.
Я хачу рэальнасць не такую.
Праўда, ноччу ціхай слёзна я крычу
Ад бязвер'я ў лепшае.
Сумую -
І падушцы смутак аддаю.
Раны сэрца цемра зноў сшывае.
Адзінота абдымае ноч маю,
Ноч халодную.
Яна даўно такая.
Ну і што?..
Я гараскоп спалю.
Полымя яго мяне сагрэе.
Усё адно кахаю.
Усё адно люблю.
У сэрцы ўсё адно жыве надзея.

* * *

Шчасце - тое, што будзе далей.
А далей - будзе наша вясна
Мне не важна: Авен, Вадалей…
Важна -
Будзе наша вясна!
Безліч дзён, безліч год -
Назаўсёды
Мірнай стане з зімою вайна.
Адваюем вясну ў непагоды,
Вып'ем нашу вясну да дна.

* * *

Адзінокая раніца
Мне падорыць натхненне.
На падушцы верш з'явіцца -
Ад пакутаў збавенне.
І слязамі затушыцца
Той пажар настальгіі.
Адзінокая раніца.
Вецер болей не вые.

* * *

Напішацца верш -
І стане лягчэй,
І можна заснуць без слёз.
І стане не важна,
Дзе і як ты жывеш -
Фальшыва, банальна, усур'ёз…

Напішацца верш -
І стане святлей.
Душу будзе грэць мароз!

**Малітва**

Госпадзі, зноў прашу сілы,
Сілы чакаць і цярпець,
Сілы дайсці да магілы,
Вершаў, якім ляцець
Разам са мной у вечнасць -
Туды, дзе лагодны дом.
Даруй мне маю недарэчнасць,
Шлях мой, які фантом.
Том першы, другі ці трэці…
Не ведаю, колькі іх.
Прабач мяне…

Зоркі свяцяць,
І птушкі лагодзяць слых.
І ціха адказвае Неба:
"Жыві. Не спяшайся жыць.
Табе яшчэ доўга трэба
Вучыцца,
Вучыцца любіць!".

* * *

Капне восень на парасон
І заплача працягла, тужліва.
Гэта зноў кола дзён
Лістапад абудзіла.
І не важна, што ён
Быў балючым, пакутным.
Капне восень на парасон,
Вып'е восень атруту
І атруціць душу,
Што пакуты не цэніць.
Капне восень на парасон -
І паставіць ізноў на калені.

* * *

Мае вершы даўно напісаны,
Напісаны мной, за мяне…
Стаю адзінока на прыстані
І думаю: "Час міне,
У мяне застануцца вобразы,
І рыфма, і рытм…".
І я
Стаю адзінока на прыстані
У чаканні.
Сігнал карабля
Пакліча паплыць з паэзіяй
Па моры жыцця…
Па вечнасці…
І я бясклапотна плыву…
Жыву!
Жывы!
Жыве...

**Радзіма**

Белая, чыстая, светлая -
Краіна маіх бацькоў.
Тут кожная вёска -
                прыветная,
І ў горадзе сто сваякоў.

Тут пахне блінамі, яечняй…
А дранікі!.. Хлеб…
                Малако…
"Ну, што ж вы,
        сядайце, паешце" -
Вітаюць сваіх, чужакоў.

Тут простыя людзі.
                Тут працай
І праўдай жывуць адзінай,
І верай, што сёння, заўтра
Жыве!..
Будзе жыць Радзіма.

**Я/Мы - студзень**

А студзень - гэта першы прынц зімы.
Зімы, якая грэецца ў надзеі.
Надзея. Студзень. Гэта ўсё - Я/Мы -
Прадзём, прадзём сваёй вясны кудзелю,
І грэемся ў бялюткай пражы сноў,
Якія лета ў жніўні падарыла.
Я веру зноў.
Мы верым зноў
У сны вясны,
        у прынцаў,
                лета,
                        крылы...

## Лісты на Дзяды

У восеньскім парку…
знікаюць лісты,
І кожнае дрэва схілілася ў скрусе -
Аплаквае іх.
Ад восені гэта?
Не…
Жнівень застыў
У заплаканым парку маёй Беларусі…

Згадаем усіх…

## Недасказанае

Дай, Божа, сілы.
Дай, Божа, розуму…
Дай крылы, каб неслі
Туды, дзе святло
Жыло…
І жыве!

## Беларусь

*Зямля з блакітнымі вачамі -*
*Раздолле рэчак і лугоў!*
***Эдзі Агняцвет.***

О, мая сінявокая муза -
Край мой родны, лясы і лугі!..
Белы бусел над вёскаю кружыць,
На жытнёвых палетках - стагі.

Беларусь мая, птушка звонкая,
Ты - крыніца натхнення майго,
Ты - бяроза мая над рамонкамі…
І не мае любоў берагоў!

Ты - жыццё маё. Ты - прытулак мой.
Ты - мой першы, апошні шлях.
Я люблю цябе! Я з табой!
І любоў наша мае працяг!

**На новую раніцу**

Срэбны колер маёй Беларусі -
Гэта ранкам прайсці па расе
І паслухаць, што шэпчуць гусі,
Палічыць, што зязюля куе...

Толькі раніцай слёзныя росы
На няскошаным лузе спяць…
У лесе птушкі прызыўна галосяць:
"Прачынайцеся! Трэба ўставаць!

Навастрыць! Накляпаць трэба косы -
І для роднай зямлі працаваць!
Апусцела гумно… Стагоў просіць…
Варушыцца пара! Сена жаць!"...

Срэбны колер маёй Беларусі -
Каб на поле вярнуліся ўсе,
Каб кружыўся над вёскаю бусел,
Каб звінела каса ў расе!

## НЯХАЙКУ

* * *

Падару табе вясну,
Падару і не засну,
Як і ты.

* * *

Замыкаеш дзверы.
Чую, як ключы
У сарцавінах тахкаюць.
Зіма.

* * *

Я зусім не плачу.
Гэта проста вочы…
Вочы хочуць піць.

* * *

Я буду хадзіць па зямлі,
Пакуль не змагу не хадзіць.
А потым пачну лятаць…

* * *

Кожны мой дзень напісаны,
Кожны мой год…
Навучыцца б чытаць.

* * *

Студзеньскі дождж
Астудзіў пачуцці.
Не страшна.

* * *

Брудныя пальчаткі -
І вясна спачатку.
Люты.

* * *

Я плаваю ў промнях святла.
І мне вельмі добра.
Каханне.

* * *

Глыток вады. Глыток паветра.
І ты са мной.
Што яшчэ для шчасця трэба?

* * *

Калі нарадзіліся вершы?
Калі нарадзіўся я!
Світанак.

* * *

А холад -
ён толькі магчымасць
Сагрэцца нам
У абдымках.

* * *

Іду далей. Пішу далей.
Жыву…
І ў думках толькі вечнасць.

* * *

Алюзія… Інклюзія…
Зімы кантузія.
Усё - ілюзія.



# *Марыя Быт*

*Быт Марыя Аляксандраўна нарадзілася 30 студзеня 1955 г. у вёсцы Лозкі Наваградскага раёна Гарадзенскай вобласці. Вучылася ў Лозкаўскай васьмігадовай школе, пасля ў Шчорсаўскай сярэдняй школе. У 1975 г. скончыла Ваўкавыскае педвучылішча, у 1983 годзе - Менскі педагагічны інстытут. Увесь час працавала настаўніцай на Наваградчыне.*

*Вершы друкаваліся ў газеце "Новае жыццё", у "Гродзенскай праўдзе", у газеце "Полымя". У 2005 годзе быў выпушчаны зборнік "Лісцвяная мяцеліца". Друкавалася ў Наваградскім літаратурным альманаху "Стольны град", у літаратурна-мастацкім альманаху "Созвездие".*

**Подзвіг**

Ён упаў на зямлю ў сорак першым…
Невядомы салдат. Кім ён быў?
Неўміручым застаўся ў вершах.
Вяз чало ў жалобе схіліў.

Мы не ведаем імя героя
І пра мары, пра родных яго.
Ён застаўся навечна ў мроях
І ў памяці краю майго.
Анічога аб ім: невядомы.
Толькі знаем - ён край свой любіў.
Даражыў ён сваім родным домам,
Яго подзвіг ніхто не забыў
Невядома імя тваё, дружа.
Бессмяротны твой подзвіг у вяках.
Невядомы, бясстрашны і мужны,
Ты ў сэрцах, у песнях і снах.
І галовы схілілі матулі,
У чорных хустках панiклі ўсе,
Каб не тыя варожыя кулі,
Жыць героем бы ў поўнай красе.
І пайшлі нашы войскі ў атаку.
Да Берліна праклалі свой шлях.
Весяліўся народ наш і плакаў.
Перамога ўзяла свой размах.
Подзвіг іх не забудзем ніколі.
Невядомым, вядомым - салют!
Падарылі нам мір, шчасце, долю,
Зберагліі беларускі наш кут.

**Навагрудак - мой мілы край**

Маляўнічыя ўзгоркі і схілы
Беларуская цешыць града.
- Навагрудак, мой край, горад мілы,-
Шчыра Балтыі шэпча вада.
Рэзідэнцыя князя Міндоўга,
Для нашчадкаў Міцкевіч тварыў.
Тут зямляк мой любуецца доўга.
Тут Баторый з табой гаварыў.
На Курган Неўміручасці гляну,

Бы Міцкевіча чую сляды.
Да Парыжа, Стамбула дастану
І вярнуся назад праз гады.
А зямля! Гэта ведае кожны,
Што прывезена з многіх куткоў.
З вышыні добра глянуць на пожні,
Успомніць Кракаў, і Чылі, і Львоў.
Па баках, дзе бетонныя пліты,
Кветкі хораша ўгору растуць.
Радкі твораў паэта адкрыты,
Да яго партрэта вядуць.
Пра культуру, гісторыю свету
З глыбінь стагоддзяў гучыць
Голас звонкі, натхнёны паэта.
І захочацца цуды тварыць.

**Нёман**

Ціха сумна цячэ Нёман,
Гудуць пчолкі, птушак гоман.
Не шуміць, і не гудзе,
І не пышыцца нідзе.
Ён уперад не імчыцца,
Нібы срэбра, так іскрыцца.
Ходзіць слаўна, бы юнак, -
Хараства самога знак.
Нібы шкло, такі ён чысты,
Нібы сонца, прамяністы.
Спіць на матчыных грудзях,
Не расстанецца ніяк.
Ціхі гай ля лесу, мілы.
І гары, і грудаў схілы.
Разглядае родны край.
Бацька-Нёман, не ўздыхай.
Ты чаго схіляеш к лесу?
Абамлееш, нібы ў стрэсе?
Нёман, дзе ж ты, у цяньку?
Ты гамоніш аб дзяньку.
Ёлкі, сосны.
Устрапянецца
Ды ў поле ён імкнецца
Ззяе срэбрам, заблішчыць.
У луг квяцісты
стужкай мчыць.
Лозы нікнуць над вадою
Вабнай, пышнаю сцяною.
Пушча ўслед яму бяжыць:
"Бацька-Нёман, не тужыць."
А вярбняк у знак пашаны
Раскідаў галлё старанна.
Вецце тонкае ўніз,
Нібы звіў які карніз.
Вецце хіляць яму лозы,
Нібы матчыныя косы.

Нёман, Нёман, дарагі.
Дзе знайсці, як ты, другі?
Над табой, над небакраем
Уся прырода пяе, грае.
Родны край цвіце ярчэй.
Ты ж парадуеш яшчэ.

## У зімовай цішы

Паплылі, як шэрань хмары.
Сум спусціўся на абшары.
І нясмела, спакваля
Снегам поўніцца зямля.
Закружыліся сняжынкі,
Скрозь усыпалі сцяжынкі.
Сыпні, снег, гусцей, гусцей.
Эх, зіма! Прыйдзі хутчэй!
Бель так слепіць,
Вочы коле,
Ахінула наваколле.
Вось ужо снегу карагод,
Так і цешыцца народ.
Поле, лес і нават вёска
У цішы застылі боскай.
Снег, як быццам лёгкі пух,
Прыгажосць займае дух.
Усё застыла ў здранцвенні.
Белы сад, нібы цвіценне.
У зімовых чарах дня
Наступіла цішыня.
І бярозкі белай веццe
Не кране гарэза-вецер.
Не чуваць ніводны гук,
Ні сякеры спешны стук.
Як святочна, урачыста.
У святліцы белай, чыстай!
Так уладарыла сама
Цуда-матухна зіма.

## Кніга

Да мяне прыходзіць зноўку
Кніга - добрая сяброўка.
Кніга - мой дарадчык
І жыцця выкладчык
Прывіла любоў найпершай,
Мама мне чытала вершы.
І Купала зваў, і Колас,
І матулін спеўны голас.
Твар настаўніцы я бачу.
Успаміны. Тут я плачу.
Ужо няма яе на свеце
І нясуць пашану дзеці.
Шчорсы, школа. Нас вучылі,
Каб мы кнігай даражылі.
Не было і інтэрнэту.
Мы чыталі без сакрэту.
І скажу я зараз: "Дзякуй", -
За вышэйшую адзнаку
Так настаўніцы скажу я:
"Вамі зараз даражу я”.
Паплыло так дні за днямі
Жыццё рознымі агнямі,
Кніга ў радасці і ў горы.
Родных слоў -
ну проста мора.
Твар унучкі так і ззяе.

Вершы - радасць немалая.
Палац вобразаў, прыроды.
Маем з ёй мы асалоду.
Не грызе, сказаць я мушу, -
Думка: мне плявалі ў душу.
Слова роднае і цешыць,
Заспакоіць, душу лечыць.
Я па моры слоў вандрую.
Мову родную люблю я.
Гордасць
шчырых беларусаў.
Мы чытаем без прымусу.

**Бывай, лецейка!**

Бывай жа, лецейка, бывай.
Табе хусцінкай памахаю.
Спячэ мне восень каравай?
Ці я сама шчадрот прыдбаю?
Слязу няпрошана змахну,
Прылашчу сябра. Мой сабака
Лізне мне твар, слязу глыну,
А ён падасць мне звыкла лапу.
Жыццё ж імклівае бяжыць,
І на падзеі не зважае.
Падасць надзею годна жыць?
Абставін існасць не вяртае.
А я ўдалеч не гляджу,
Лаўлю мінуты асалоды
І нават кропелькі дажджу
Прыносяць мне
надзею, згоду.
Так хочацца цяпла яшчэ.
Я лета фарбамі сагрэта.
Мільгаюць дні ярчэй-ярчэй,
Бо нам даруе скарбы лета

**Узвышэнне**

Над горам, бядою -
Свет мудрасці раем.
Над жалем-травою -
Жыты караваем.
Над днём учарашнім -
Дзень сённяшні, звонкі.
Крок змерае сажнем.
Дасць стройнасць сасонкі.
Учарашнія глыбы -
Мялей, чым рачулка.
Учарашнія хібы -
Як гожасць завулка.
Скрозь белыя ружы -
Кудлатыя цені.
Вішнёвыя сцюжы
Атуляць калені.
Прэч цёмныя хвалі,
Прэч фарбы нямыя.
Нам шэрыя далі
Свет сонца абмые.
І восень прыспешыць
З касой залатою.
Няхай жа пацешыць
Нас, любы, з табою.

## Гары, мая зорка, гары!

Гары, мая зорка, гары
Бліскучым агнём, палымяным.
Усявышні ўсё бачыць угары:
Людское дабро і заганы.
Мне жаль, ведай, сэрца скаваў,
І сум ахінае ўжо грудзі.
А месячык слёзы схаваў.
І іх не ўбачыць вам, людзі.
Не раз азірнуся назад -
Я стужку жыццёвую бачу.
Душа то ідзе на парад,
То моліцца, стогне і плача.
Наперад я гляну - бяжыць
Ружовая стужка надзеі.
Свой шанец падасць годна жыць.
І ветрык лагодны сагрэе.
Каб зніклі з істужкі часоў
Усе фарбы, змяшаныя з сумам.
Зайграй жа, о, зорка, ізноў
Над грэшнай зямлёю, над тлумам.
Скажы, мая зорка, скажы:
Што высі мне там нагадалі?
Ці радасць, ці смех, ці грыбныя дажджы?
Застылі маўклівыя далі.
Іду і бягу за табой
І з ветрам салёным у абдымку.
Прымі мае мары з сабой
Свяці на шляху без упынку.
Гары, мая зорка, гары
Бліскучым агнём, палымяным!
Праменьчык мне свой падары,
Каб зніклі балючыя раны!

## Пакуль ты малады

Паслаў Усявышні нам дары
І для душы, для цела.
"А ты іх з розумам бяры", -
Я так сказаць хацела.
Духмяны мёд, салодкі мёд
Каб не здаваўся горкім.
Працуй, як чэсны наш народ.
Жыві, як раяць зоркі.
Калі не маеш ты даўгоў,
Не ашукаў нікога,
Сузор'і зычаць: "Будзь здароў!"
У ласцы ты ў Бога.
Адзін свядома сее блуд,
Другі слязу шле людзям.
Не спадзявайцеся на цуд,
Такога, брат, не будзе.
Не дасць Бог крыўдзе цараваць,
Тым больш узысці на неба.
Пашле патрэбу аддаваць,
Спазнаўшы кошту хлеба.
І будзе так: раздасца гром,
З усіх грамоў - о, сіла!
Напіша моцным Бог пяром:
"Як вас зямля насіла!"
Зварот асобны маладым:
"Каб ваш палёт быў доўгім,
Ляціце шляхам вы прамым,
Не збочвайце з дарогі!"
Пасейце рунь, што падрасце
Высокаю пшаніцай.
Каб родны край наш кожны дзень
Мог вамі ганарыцца.
Гадзіннік стукае: "Стук-стук", -
Жыцця пульсуюць ноткі.
Ляціць у неба вешчы гук:
"Жыццёвы міг кароткі."

## Дарыце і даруйце

Закон пісалі мудрацы,
Тварылі цуд іконы.
І найсвяцейшыя айцы
Цанілі хлеб надзённы.
А чалавек жыве - не Бог
Жадаю ў тым прызнацца:
У круцізне сівых дарог
Ён можа памыляцца.
Велікадушным будзь, прымай
Усе "за" яго і "супраць".
Спяклі духмяны каравай,
І тут слязінак сумесь.
Дарыце ласку і цяпло,
Пунсовы бэз і ружы,

Каб ваш агмень не занясло
Павевам злоснай сцюжы.
Эх, казка добрая, жыццё!
Ты шум вясны далёкай.
Зямное бачыцца быццё,
Як акіян шырокі.
Дарыце шчодра дабрыню
І радасныя ўсмешкі
Зямному велічнаму дню -
Дыханне руж на ўзмежку.
І нават лютаю зімой
Пах яблынь весніх чуйце.
Ваш сябар тут, не за гарой.
Дарыце і даруйце.

## Вясна

Яшчэ мацуе снег мароз,
Даволі востры і рашучы
Яшчэ нямала нам пагроз
Нясе зіма і снег калючы,
І вось аднойчы раніцой
Нясмела сонца прабудзіла
Лясок, атулены смугой, -
Вясна набрала моц і сілу.

Дарэмна журыцца зіма -
Ручай ужо бяжыць паволі,
І з-пад зімовага ярма
Прачнулася вясна на полі.
Здаецца, дыхае зямля,
І спеў жаўронка мілагучны
Чуваць і зблізку, і здаля:
Вясна спявае песні гучна!

## Жыццё

Жыццё - зацягнуты спектакль,
А ты - у ім актор, вядома.
Аб лёд, як рыба, ды не так, -
Замест спачыну - толькі стома.

Замест удзячнасці - падман,
Замест сяброўства - часта ліпа.
Даверу ўжо да тых няма,
Хто зухам копіцца на "джыпе".
На млыне памяці не раз -
Свае ўчынкі і сумненні.
Калісьці быў шчаслівы час
І белы снег - пакут збавенне.
Усё ў тым спектаклі ёсць,
Усё таемнасцю спавіта,
І ты ў ім - ужо як госць, -
Дарога вечнасці адкрыта.
Чакае велічная раць.
У тым тэатры ўрачыста.
О, як хацелася б сыграць
У ім удалага артыста.

## Майскі сад

Парой вясновай у час цвіцення
Люблю бываць у садзе я.
Сад белы - радасць, захапленне,
У ім пяе душа мая.
З пялёсткаў яблынь водар льецца.
Вось лёгкі ветрык набяжыць,
Кране пялёсткі, і здаецца,
Што вальса музыка гучыць.
Усё навокал белым-бела.
У сукенках пышных кроны дрэў.
Адну рабіну ў свеце цэлым
Здалёк клён позіркам сагрэў.
Нявеста-вішня трапятала,
І груша хораша цвіла.
Вясна да шлюбу іх прыбрала,
Вяночкі белыя спляла.

Стаяла белая рабіна,
Схіліўшы нізка галаву,
Нібы прыгожая дзяўчына,
Пялёсткі падалі ў траву.
А гукі музыкі чароўнай
Усё лавіў і песціў слых.
Плыў водар саду, хмеллю поўніў
Сэрцы нявестаў маладых.
І сад квітнеючы і чысты,
Нібы абмыты малаком,
І неба лёгкая празрыстасць -
Усё хвалявала майскім днём.

## Я люблю…

Я люблю неаглядныя далі -
Разудалы разгон для вачэй,
Што, як госця, мяне сустракалі,
Тут і сонца струменіць ярчэй!
Я люблю вас, сялянскія хаты,
У зяленіве спелых садоў,
Жарт дасціпны, характар багаты
Там жывучых яе спадароў.
Я люблю і прасторнае поле,
Мілы сэрцу бацькоўскі мой кут,
Збажыны залатое раздолле
Пахне хлебам і працаю тут.
Як люблю я блакітнае неба,
Што напоіць дажджамі зямлю!
Краю мой! Мне другога не трэба.
Моцна-моцна цябе я люблю.

## Я прашу…

Шчасця, верце, вельмі б хацелася,
Каб маглося, пілося і елася,

Каб жыццё па цячэнні плыло,
Каб крыло для кахання дало.
Мора кветак парою б майскаю
Ад каханых - са шчыраю ласкаю.
Кожны светлы мой дзень, кожны міг
Бачыць золата б сонечны блік.
Пазайздросце: з такою машынаю
Ён з пасадай і дачаю чыннаю.
Вынік працы, канешне, відаць, -
Вам, маэстра, высока лятаць!
Эх, жыццё! Сыплеш некаму маннаю
І малінай дыхнеш ты падманнаю.
Прападаеш - о, люд! - у мітусні
Лёгкадумна, - і так дзень пры дні.
Усё паспець. Паспытаць бы салодкага
Разыкоўнага шчасця кароткага.
Дайце кроплю святога віна, -
Выпіць ісціну ўсю і да дна.
Не аднойчы ўстану на золку я,
Каб пацешыцца яснаю зоркаю.
Зоркі б высыпаць у цемру начэй,
Каб на сэрцы вам стала лягчэй.
Вам увага мая непатрэбная?
Вас карэта ўзрадуе срэбная?
Панясе па зямлі да нябёс -
О, сюрпрызы рыхтуеш мне, лёс?
Ды часінаю думак аб вечнасці
Я прашу аднаго - чалавечнасці!

## Скажы…

Скажы, святлейшая з нябёс,
Бывае так чаму:
Нават калі пячэ мароз,
Не бачу я зіму?

А на душы маёй вясна,
І хораша так мне.
І да світання, дапазна
Дажджынка абміне.

Скажы, святлейшая з нябёс:
Каханы б'е паклон?
Падараваў цяпло мне лёс
Ці проста гэта сон?
Свяціла зорачка ў начы,
І быў цудоўны блік.
Трымай ад мудрасці ключы
У далонях, сакавік!
Смяецца зорачка мая:
Прыязні добры знак:
"Была, была я ў тых краях,
Дзе ўсё зусім не так".
Ёсць у кахання сэрца, ёсць,
Ды колькі ж ужо год
Каханы ў сцюжу - добры госць,
І сэрца крануў лёд.
І на тваю абойму слёз
Глядзіць як бы скрозь смех.
Табе ён шчасця не прынёс,
Не прынясе і ўцех.
І зорка кінула пагляд
На матухну-зямлю
Там, дзе бярозак стройны рад,
Што, як жыццё, люблю.
Удзячнасць біла цераз край.
Зямля маіх бацькоў,
Я так спяшаюся, прымай!
Мне не патрэбна лішніх слоў…

## Буслы

Кілім зялёны і блакіт.
Духмяны, свежы аксаміт.
Над нашай хатай кружыць бусел -
Наш верны сімвал Беларусі.
Ды не адзін, а нават тры
Там віражуюць угары.
Вас бачыць тут - якое шчасце!
Каб Бог збярог вас ад напасці.
Бацян крылаты над зямлёй
З табой, сусед мой, і са мной.
То заціхае, то клякоча -
У згодзе з намі жыць ён хоча.
На золку ў госці завітаў,
Гняздо ля хаты змайстраваў,
З павагай, гонарам, даверам
Ён адчыніў надзеі дзверы.
І рады мы: стары й малы
Паслаць ім словы пахвалы
За той прылёт іх нечаканы, -

Кружыся, бусел наш жаданы!
Я клекатанне чую зноў
Маіх даверлівых буслоў,
Духмяны водар жніўня, хлеба…
З трывогай я гляджу на неба.
Цяпер над хатай цішыня:
Буслоў не стала ў тлуме дня.
"Бывайце, мілыя! - гукаю, -
Аж да вясны я вас чакаю!".

**Каханне**

Кветкай пунсоваю весела гляну.
Руку да сэрца прыкладываю зноў.
Ты колькі год у маім сэрцы - каханы.
Ты маё сэрца вярэдзіш, любоў.

Не абмінуў! Гэта ж трэба - пастукаў,
Гожаю феяй прыйшла да цябе.
Як маё сэрца трапеча - паслухай,
Там мой анёл цябе грэе ў журбе.

Сінія вочы - заспела прычына.
Сінія вочы - магніт падчас.
Кужалем белым лажыцца на спіну
Служка-зіма, яна фея для нас.

Сінія вочы - я вамі хварэю.
Служка-зіма, гэта ведай і ты.
Вер, як і я, мяне мілы сагрэе.
Час перапіша начыста лісты.

**Раскоша**

Бяскрайняе неба - раскоша!
Як сонца смяецца прыгожа!

Усё б у жыцці паспытаць,
А гора нам лепей не знаць.
Раскошнае цешыць нам душу, -
Прызнацца ў гэтым я мушу.
Брыльянты і золата - вам.
Усмешкі прыгожыя - нам.
У кагосьці раскоша-машына,
Каханак - прыстойны мужчына.
Як футра на сонцы блішчыць,
І вам яго хочуць дарыць.
У тых - ох! - багацце якое!
Зайздроснікі, дайце спакою.
Я знаю раскошу адну:
Матулю маю і вясну!
Ёсць шанц на раскошу ў кватэры.
Дзе ж рыцарства дух, кавалеры?
Раскоша, прызнаюсь вам, -
Мая дарагая дзятва.
Тулюся, галублю, люляю,
Я з вамі надзей не губляю.
Дастану да зоркі рукой,
Каб свет запаліць над зямлёй.
І цешыць ваколіца вока.
Іду па жыцці мерным крокам.
А дзеткі, як кветкі, прыму, -
Мне з імі раскоша ў зіму.

## Подласць

*Уладзіміру Высоцкаму*

Паэт мой любімы, паслухай:
Не будзеш у скрусе - прыйдзі,
Бо зорка мая не патухла,
Бо ззяе сярпок-маладзік.

Хачу расказаць табе "крута"
Пра подласць. Так прама кажу.
Хто ў лапці чужыя абуты,
Таму як хадзіць па дажджу?
Цябе мне цяпер не хапае!
А думак - бы цэлы канвой.
А, можа, за шклянкаю чаю
Да ісціны прыйдзем адной?
Нічога, што п'ю адзіноту, -
Сабачкам у скрусе жыву.
Табе я скажу ўпотай
Пра мудрасць жыцця і "молву".
Кагосьці расслабяць шарманкай,
Камусьці рыхтуюць пятлю
Або сграюць абяцанкай, -
Я "праўды" такой не люблю.
Давайце, маэстра, памарым,
Як жыць тым, хто кінуты ў бруд,
Спяём - чаму ж не! - пад гітару
Пра душы без плям і атрут,
Прызнацца я шчыра мушу:
Люблю, калі падае дождж.
Мне плюнулі ў чыстую душу,
І быццам кальнуў фінскі нож.
Чаму ж так пакутуюць людзі?
Гучыць прыгавор ім: "Душыць!"
З табой гаварыць мы будзем,
Што нельга прад Богам грашыць.
Калі ж хтосьці трапіць у дарозе
Пад подлы, ганебны абстрэл,
Крыўдзіцеляў гэткіх мы возьмем
Агульным пяром пад прыцэл.



## *Уладзімір Гайдук*

*Гайдук Уладзімір Антонавіч нарадзіўся ў БССР, у 1959 годзе, 28 лютага, у суботу, у невялічкай панямонскай вёсачцы Брацянка, што на Наваградчыне. Усё жыццё яго звязана з гэтымі прыгожымі мясцінамі. Тут, у Наваградку, ім пабудавана хата, у якой нарадзіліся дзеці. Вершы пачаў пісаць зусім выпадкова, зарыфмаваўшы ўражанні ад пачутага анекдота. Гэта здарылася ў саракагадовым узросце, што стала першым штуршком, які папхнуў у гэтую прыгожую краіну, якая завецца “Паэзія”. Вынік на ваш суд, дарагія чытачы!*

### У люстэрку

**жарт**

Для горкіх слёз і долі церпкай
Малодкай згублена люстэрка.
Аб рэчы той спазнанняў слабых,
Знайшла на лузе яго жаба.
Не з розуму, з дурноты болей
Сястру пазнала ў ім Аўдолю.
- Як ты, сястрычка, пастарэла,
Падрабла тварам, ды і целам.
Ты слоў маіх пачуць не схочаш,
Бо выглядае лепш нябожчык.

Скрывіла лапы твае працай,
Здалёк відаць, што не сямнаццаць.
Уся зрыжэла ды збруднела,
Я б быць такою не хацела.
Павыпірала старасць вочы,
Наўцёк пайду, спаткаўшы ноччу.
З маленства я цябе вучыла,
Каб твар ды цела штодня мыла.
У касметычным быць салоне,
У прыклад мець таго ж Сталоне.
Цвярозасць, спорт, загартка -
Мая візітная ёсць картка.
Гады кранулі розум твой,
Бо паўтараеш усё за мной
Я ж - прыгажосць, а ты - брыдота,
З табой мець справу неахвотна.
Ды замаўчы ты, аж абрыдла,
Каля цябе стаяць мне брыдка.
На адыход кальнула злосна:
- На малпу моцна ты падобна!
Ды скок улева, скок управа,
На тым і скончылася справа

На прыгажосць сваю не дуй,
Няма люстэрка, глянь у ваду.

## Сон

Халодны сон прысніўся мне,
Нібы ляжу я ўжо ў труне.
Ды на бяду сваю ліхую
Чамусьці бачу ўсё і чую.
Вунь на стале гарэлка, закусь,
За ім людзей ва ўзросце ўсякім.
Той "гусь", што гальштук з сінявою,
Сядзіць ён блізенька з маёю.

А людзі п’юць, вядуць гамонку,
Нос аднаго ўжо і ў сподку.
У вясёлым тоне ідзе гаворка,
Ужо нехта сп’яну крыкнуў: “Горка!”
Я ж на бяду сваю ліхую
Скрозь слёзы бачу ўсё і чую.
Вось дык прыгода і праява,
Неверагодна штосьці стала.
Яшчэ мой ложак не астыў,
А ў яе ўжо тут сваты!
“Гусь” закружыў з маёю ў танцы,
Прытупваць трэба ёй, смяяцца.
Цалуе "гусь", вядзе ўжо ў спальню,
А там труна для пахавання.
І на бяду маю ліхую,
Зрабіць нічога не магу я.
Бяруць труну маю і зверху,
З акна дзясятага паверху....,
Труна як грымне моцна, лусне,
І я ад гэтага прачнуўся.

**Шчасце для дурня**

Сказ пра тое, верце слову,
Як дурны знайшоу падкову.
Яе носіць, бы ікону,
Бы талерку з супам поўну.
Усё бядак шукае месца,
Дзе б пакласці ці павесіць.
Ад суседкі чуў, ад Насты,
- Услед падкове
ходзіць шчасце!
Стаў на ганку ды цікуе:
- Не пралеціць, упільную!
Вокны, дзверы - усе насцеж,
Не мінула б хату шчасце.
Пільнаваў аж цэлы дзень,
Ну ніяк яно не ідзе!
Ноч. Уключыў святло,
Да суседа б не пайшло!
- Мо пагрэць? -
ужо думаць стаў,
Ды за пазуху паклаў.
Кіпяціў яе ў гаршчку,
Можа з’явіцца адкуль?
Яно ў хаце дзе ўжо, можа?
Заглянуў сабе пад ложак.
Пашукаў яго за печчу,
Не ступіць бы,
не скалечыць!
Пакрыжыўся тры разы,
Клаў бы шкло за абразы.
Сеў. Прыцішыўся, чакае,

Не шалпоча, не ікае!
За спіною скок, і ў дзверы.
Аж вушам ён не паверыў.
Азірнуўся - ды дарма,
Мільганула і няма.
- Эх! Не мазгамі думаў -
нечым!
Яно ж грэлася на печы!
Вось панасце, не шанцуе,
Ды падкову ў крапіву ён.

Толькі дурню так, няйначай,
Будзе шчасцем
хвост кашачы.

### Хвароба

Завяліся ліхаманкі
У Пятра ў рухавіку.
З выхлапное б'е маланка,
Кавалі бы ў ім куюць.
Не было б яшчэ і горай,
Так грукоча, чым лячыць?
Нафту хлебча без разбору,
Зверам жудасна рычыць.
Ставіць цешча свой дыягназ:
- Трэ сурок суняць яйком,
То прыціхне гэта прагнасць,
Бы ў змяі, што з'ела лом!
Да знахаркі я ў той момант,
Без зялёных з ёй ніяк,
Зразумеў я, на замовах,
Не паедзеш ты, дзівак.
Адшпіліў, хоць ад знахаркі,
Нібы мёртваму прыпаркі.
На парады ж здатны свет,
Тут і кажа мне сусед:
- Моц іскры вядома ў гуме,
У цябе ж яна рыпіць,
Драцякі тырчаць, бы струны,
Час ужо і замяніць.
Пётр да спрэчак не ахвочы,
Абнавіў абутак ёй,
А матор рабіць не хоча,
На каленях хоць ты стой.
Пётр парады слухаць кінуў,
Хоць і дворнік падказаў,
Справа тут бо не ў бабіне,
А ў слабенькіх тармазах.
- Ну вас усіх да небасхілу, -
Пётр махнуў яму рукой, -
Болей я не маю сілы,
Па маторы б качаргой.
Прадзіравіў ён кішэні,
- Быў зусім я не скупы,
Усе даляры павыменьваў,
Лепш бы новы я купіў.
А прычына: злева - справа,
За бутэльку толькі б збыць,
Танны ліў настой на травах
Ён у бак не з той трубы.

### Здзек

Казе прымералі сядло.
Адзін сказаў, як тут было!
Затым накінулі хамут.
Другі - як быў ён тут!
Праблемны ключ
у ёй знайшлі,
Казу да плуга падвялі.
Упрэглі ў плуг і:
“Но, пайшла!”
Хамут мінула і такой была!

## Даездзіўся

У маім б**а**ку нуль завёўся,
А заліў яго сусед.
Вечарком
там лічбаў досыць,
Раніцой прастыў іх след.
Раніцою я нервовы,
Штось з машынаю не так.
Ад суседа чую словы:
- Што, даездзіўся, дзівак?
Я ж у бак, сабе на шкоду
Вечарком ваду стаў ліць.
Раніцою без прыгодаў,
Еду, а сусед стаіць.
Я скрозь смех гукаю так:
- Што, даездзіўся, дзівак?

## Не даслухала

Нагадала мне цыганка,
Што памру
ў нядзельку ранкам.
Сваёй жонцы за абедам
Гаварыць пачаў пра гэта.
Не даслухала кабета,
Ставіць свечку мне ўсё лета.
Усё чакае той нядзелі,
Як у труну мяне адзене.
Ужо купіла фрак і боты,
Ды памерла пад суботу!

## На базары

Вёз нядзелькай на базар
Дзедка воўну ды казла.
Ды базар быў не дармовы,
Збыў казла ён за карову.
Кашалёк таўшчэзны, поўны,
Запіхнуу глыбей у воўну.
Воўну ж тую - о, зараза!
Дзед прадаў
з дзяружкай разам.
За капшук ён ды і ў краму,
Грошай тых на сотню
грамаў.
… Ішоў дадому пехам дзед,
Не хапіла на білет.

## Спявак
### *жарт*

- Ужо ж нязграбны
ды няўмека, -
Бэсціць певень дрывасека.
- Па калодцы бах ды бах,
Няма ж праўдачкі ў руках!
Ды няма яе ў сякеры,
І наўрад ці мне паверыш?
Ад твайго “бабах, бабах”,
Я тут ледзьве не зачах!
Я ж пяць раз як кукарэкну,
Храпака даюць пакуль.
Потым пяць раз паўтаруся,
Калі спяць, не адчаплюся.

Так на святы ён спяваў,
Усіх навокал тым дастаў.
Таго зграбнага, умеку,
Заказалі дрывасеку.
І пайшоў круты спявак
Не на сцэну, а ў панцак.

## Імідж

Не гадамі, а вякамі
Ціха дрэмле ў лузе камень
І ніхто - ён заўважае -
Яго тут не паважае,
Не пахваліць аніколі
Яго шчыра наваколле.
І пляваць усёй акрузе,
Што жыве ён тут на лузе,
Вось задумаў перад імі
Габлянуць свой гонар-імідж
І пачаў, як толькі змог,
Ганаровы дыялог:
- Зневажаць няма прычыны,
Мной цікавяцца жанчыны,
Мной тут творыцца зацішша,
Пра мяне паэты пішуць,
Ды ва мне ёсць вельмі многа
І марскога, і зямнога.
Вам, так думаю, усяроўна,
Што маю пакрыў мох
поўнач,
Бо я ў думках да пазна,
Мох - мой розум, сівізна.
Вёрст за дзесяць
вакол мусіць
Я нікога не баюся,
Са мной раяцца заўсёды,
Я ў тым месцы - ваявода. -
Секанўў ён з-за пляча
Ды знянацку замаўчаў
На яго высока з неба
Птушка справіла патрэбу.
Ён падумаў:
- Дай бог памяць,
А каровы ці лятаюць?

## Нядбайнасць

Конь стаміўся пад гару
Ды гукнуў гаспадару:
- Воз наклаў ды яшчэ сам,
Аж не верыцца вачам?
Злазь! Ідзі тут і рулюй!
Не, то воз перакулю!

- Мушу я ісці пяшком?

- Ты цяжэй усіх мяшкоў!
У стоме я, ты мне як гуз!
Ці падвойны перагруз!
Я вазіў цяжар, каменне,
Ты вагой таго не меней!

- Ногі з воза дай спушчу,
Каб табе лягчэй пачуць.
Рукі ўшыркі развяду,
Каб працей рашаць бяду.
Дам аўсу табе я ўволю,
Вупраж - срэбра
хочаш болей?

- Не! Аўсом мяне не купіш.
І нішто са срэбра вупраж.
Жылы рвуцца ад натугі,
Стань на месца сваіх слугаў!
Злазь і ўсё! Бо скіну тут!
Не? То я на воз,
а ты ў хамут!

Злез.
Ад злосці ледзь не лопнуў.
Пад гару той конь галопам.

## Дзед і бусел

Дзед пад сто адмераў і яшчэ хацеў бы.
Толькі сум прыжыўся ў хаце апусцелай.
Ужо даўно аціхлі ад вяселля гукі,
Справа ў далікатным - не хапае ўнука.
Але чуе клёкат раненька з прасоння,
Кліча сябра бусел на высокім клёне.
Ад тае нагоды ў вачах сцямнела,
Распачаў дзед просьбу важную нясмела.
- Любы дружа, бусел, слаўлю твае сцежкі,
Можа, немаўляткам ты мяне пацешыш?
Стала ў маёй хаце, ціхатна ды пуста,
Я знайду, ты толькі пакладзі ў капусту. -
Просіць так увесну і цалютка лета,
Каб цыбаты бусел усё падслухаў гэта.
Кожны ранак дзедка ходзіць у капусту,
Моцна шчыміць сэрца, бо зусім там пуста.
Пасля просьбаў шчырых і гарачых гэткіх
Бусел прысылае ў рэшце рэшт карэтай.
Немаўля - у дзеда, нават яго вочы,
Няхай меней тужыць, а калыша ноччу.
А ў небе бусел, над высокім клёнам,
Дзед на ганак выйшаў, б'е яму паклоны.

## Графік

Локшыну знаёмы Толя
Жонцы вешае, Аўдолі:
- Графік церпіць перамены,
Сёння мне ў начную змену.

А прыгожым цёплым ранкам
Шпацыруе ад каханкі.
Нос у нос у сенцах з Колем,
Збіўся графік і ў Аўдолі!

## Аптэкарка Агата

У тым Агата вінавата,
Што крыху слыхам слабавата.
Калі што вухам праміне,
Сціпла розумам дапне.
Дзед сто гадоў, куды сталей,
Яму віягра на стале.
Той лек прасіў на хворы крыж,
Прапанавала мазь для лыж.
А бабку Шуру душыць жаба,
Дала таблетку, каб расслабіць.
Стась прастудзіўся, бегаў босы,
Яму ж таблетку ад паносу.

Будзь пільным моцна, бо заўзята
Лякарствы выдае Агата!

## Варона ды піва

Вароне шэрай неяк Бог
Разжыцца півам дапамог.
Яна на дрэва з гвалтам села,
У бутэльку заглядае смела.
І піва птах бярэ на нюх,
Спіртное ёй упершыню.
Глыток адзін, другі, і ўрэшце
На донцы боўтаюцца рэшткі.
І затлуміўся ў птаха розум,
І думкі ўсе пайшлі аб розным:
- Лісіцы як адпомсціць той,
Што сыр падманам з’ела мой?
Кату, што не дае спакою,
Мець хоча ў кіпцюрах жывою?
Ды я ж іх сёння ўжо спаткаю,
Хай абыходзяць лепей, раю!

Іх абаіх адным крылом.....! -
Ды непрадбачаны аблом.
Разумных думак тых нямала,
І птаха ўрэшце задрамала.
Хвастом уніз, бяда, ляцела,
На шчасце нізенька сядзела.

Ліса з катом яе - пад пахі,
Была ў ніякім стане птаха.

**Мост**

З дурноты нехта ці са злосці
Дзве дошкі вылупіў у мосце.
І прызвычаіўся народ,
Браць рэчку тую нейк уброд.
А дошкі тыя дзень які,
Глядзяць у неба - ўверх цвікі.
Вось трэці дзень лупцуе дождж,
Ніяк уброд яе, і што ж.
Бліжэйшы мост вярсты за тры,
Хоць справы з плану ўсе сатры.
За ноччу дзень, ідзе пара,
Народ са скаргай да пяра.
Маўля, адужаць як раку,
Бо справы ўсе на тым баку.
Там школа, крама, сельсавет,
Такога ўрэшт не бачыў свет.
Каб хто прыслаў пад'ёмны кран,
Прывесці мост у спраўны стан.
Няхай паможа нам мінбуд.
Няхай заступіцца і суд,
Тут чалавек пад сто гадоў
На той бок з кульбаю ішоў.
З бядою справіўся дзядок,
Узяўшы ў рукі малаток.

### Агата вінавата

Над царквою - званы,
Святам цешаць яны.
- Сёння я, брат, не працую,
Сёння свята я святкую.
Жонка, хутка - грошы!
- Ды навошта, мой харошы?
- Без спіртнога няма свята,
Іду па пойла да Агаты!

Добра селі і святкуем.
Чарку першую, другую.
А без сваркі тут ніяк,
Жонцы падарыў сіняк.
Адзіноцтва ў п'янцы згуба,
Палічыў суседу зубы.
Сам праехаў на брывах,
Падрамаў крыху ў кустах.
Свята тое ўспомніць гадка,
Вінавата ў тым Агата.
Раніцою твар у люстэрка,
Там…….! нямытая талерка.
Рэшткі там ад вінегрэта,
Не даеў, размазаў нехта.
У тым Агата вінавата,
Пойла... моцнае занадта

Паглядзі ў акенца - вунь
Усе на свята ідуць у царкву.

### Халяўшчык

За апоўнач з рэстарана
Дзядзьку вынеслі старанна.
Ды за гальштук абармота
Прывязалі каля плоту.
Ён, бязрогая скаціна,
Быў няпрошан на хрысціны.
Ды нахабства
меўшы вельмі,
На халяву заліў бельмы.
Яшчэ ў прыцемках прычына,
Тым кірункам ішлі жанчыны.
Раптам як загаласілі:
- Во-о-ой, павесілі, забілі!
Запытаў, прадраўшы вока:
- Пахаванне ці далёка?

### Самалячэнне
***жарт***

Дзе было, скуль узялося,
Бэбах выперла ў Антося.
У пудах ён стаў за восем,
Бядака надзьмуў бы хтосьці.
Ходзіць Тося з той прычыны,
Бы цяжарная жанчына.
Ні прыгнуцца, ні падбегчы
Сам сябе разважна цешыць:
- Добры я і не дарма -
Шмат павінна быць дабра!
З-за вугла спачатку бэбах,
Усе прывыклі, як і трэба.
Потым нос, бы дзюба тая,
- Калабок! -
хтосьці падсмяхае.
- Ён табе, бы ране соль!
- Мо, працоўны то мазоль?
Ды мазоль той на няўдачу,
З-за яго калень не бачыць.
Дзе было? Адкуль узялося?
Немач дзіўная ў Антося.
Усё ён піў адвары з лісця
Не хадзіў к спецыялістам
Залячыў сваю худобу,
А ўзамен нажыў хваробу.

## Лайдак

Няголен твар, на ім сіняк,
Ля крамы блытауся лайдак.
Ён у людзей прасіў адно:
- Дабаўце крыху на віно!
Заскавытаў ажно: “Ура”, -
Калі на пляшку назбіраў.
Дрыжэлі рукі, з горла піў,
Ды не ўтрымау яе - разбіў.
Язык парэзаны аб шкло,
Лізаў віно, што пацякло.
- Што за жыццё, усё не так!
Стаяў аглушана лайдак.
Ён у людзей прасіў ізноў:
- Рубель дабаўце на віно!

## Свінарка

Мне знаёмая Прузына
Ідзе на працу балярынай.
Зграбнаногая, на шпільках.
Павадок, сабака Філька.
Падмалёваныя вочы.
Не жанчына - фея крочыць.
На губах - ну кветка ружа.
У "прыкідзе" і без мужа.
Не пазногці - кіпцюры,
Сантыметры мо па тры.
Міні верх і міні ніз,
Не Прузына, а сюрпрыз.
Рот адкрыеш, не маргнеш,
Пройдзе, дых перавядзеш.
Уся ў гонары і шпаркасць,
Так на працу ідзе свінарка.
Боты там надзене з гумы
Да свінячага парфуму.
Вось вам імідж яркі
Ад мясцовае свінаркі!

## Піва
### *гумарэска*

- Добры дзень! Каго я бачу?
Год мінуў ужо няйначай?
Я ж ляжаў усё ў шпіталі,
Дзе з дыягназам дасталі:
Так жывот заўжды бульбоча,
Асабліва моцна ноччу,
Ды з сябе пускаць
стаў крыва, -
Вось дык ліха, проста дзіва!
- То хвароба, а не дзіва:
Усе балячкі лечыць піва,
Пазбаўляе яно ліха,
Ад яго ў вантробах ціха…
П'еш ты толечкі ў нядзелю,
Усе намераў добрых дзеля,
А вантробы піва хочуць,
Ад таго заўжды булькочуць.
Што з сябе пускаеш крыва,
Ціск слабы - бракуе піва.
Твар стаў твой, нібыта сліва,
Бо ў крыві нястача піва.
Я сваім вантробам уволю,
Літрам пенным дам патолю
І табе, мой сябра, раю:
Мала п'еш - сябе караеш.

*

Ты ж парадаю не грэбуй,
Толькі розум
мець свой трэба!

## Здарэнне на ворыве

Гняды цераз поле то проста, то кругам
Цягаў за сабою аратага з плугам.
Ад ранку ўпіраўся, на "кормчага" горбіў,
А той усё больш завіхаўся ля торбы.
Дакончыў мацунак, што ў пляшцы застаўся,
На свежай раллі ледзь жывы распластаўся.
Тут конь чуе: "Но!" Ды не конь вінаваты:
То плугу абрыдзеў "пад мухай" араты.
Як полудзень жонка для мужа збірала,
У торбу не тую бутэльку паклала.

## Белая варона
***жарт***

Ніяк не дапетрыцца белай вароне,
Чаму ў чарадзе ёй усё ў забароне?
І дзюба, і крылы ў яе, як ва ўсіх,
Абразы пякучыя сыплюцца ўслых.
- Не ёсць ты раўня, бо ў брудным убранні,
Не месца табе, - кажуць, з намі!
- Ты б фарбы дарэчнай купіла,
І будзеш раўнёю хвастом і ў крылах!

Ёй тое даецца з вялікай натугай,
Ці то чарната чарады ёсць заслуга?

## Кожны аб сваім

Па пасялковай вуліцы, нібыта ад агню,
Бяжыць ад пеўня курыца, ёй "тое" ўпершыню.
Матуля ёй кудахтала: “Уцякай ці не ўцякай…!”
Стамілася, скарылася, крылом махнула: "Хай!"
Ён - прыклад далікатнасці, галантнасці ўзор:
- Дагнаў ледзь вас, спадарыня! Вось вашае пяро!



# Алесь Гоцка

*Алесь Гоцка (Аляксандр Валянцінавіч Гоцка) нарадзіўся 1.07.1944 года ў вёсцы Новыя Руткавічы Карэліцкага раёна Гарадзенскай вобласці. У 1962 годзе закончыў Карэліцкую сярэднюю школу.*

*У 1963 годзе паступіў у Гарадзенскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, пасля заканчэння якога ў 1972 годзе ён 45 гадоў адшчыраваў урачом-тэрапеўтам у Наваградскай раённай паліклініцы.*

*Мае здабыткі на прафесійнай ніве (узнагароджаны знакам "Выдатнік аховы здароўя СССР", урач-тэрапеўт вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі).*

*Служыў у Савецкай Арміі (1963-1966 гады).*

*З 2017 года - на пенсіі. Вершы пачаў пісаць яшчэ ў школьныя гады, іх друкавалі карэліцкая раёнка "Полымя", рэспубліканская газета "Піянер Беларусі". Пазней паэтычныя творы з'яўляліся ў такіх выданнях, як "Чырвоная змена", "Літаратура і мастацтва", "Краязнаўчая газета", у часопісе "Вожык", а таксама ў калектыўных зборніках паэтаў-медыкаў Беларусі.*

*Аўтар зборніка паэзіі "Іду на Парнас" (2014 г.)*

## Пра вершы

Здаўна вершы бываюць розныя:
І з усмешкамі, і сур'ёзныя.
А бываюць і сарамлівыя,
І гаротныя, і шчаслівыя,
Яшчэ - у завязі, а ўжо - спелыя,
Асцярожныя і вельмі смелыя.
Раньш былі больш "чырвоныя",
Друкавалі іх, хоць - "зялёныя".
Адхіляліся часта - белыя,
Негламурныя, хоць і спелыя.
Вершы ёсць шчэ і эратычныя,
Мадэрнова-алегарычныя.
Вершы вольныя і турэмныя,
Вершы добрыя і нікчэмныя.
Ёсць чарнілямі, што пісаліся,
Ёсць з крывёю, як нараджаліся:
Хоць былі яны самі - першыя,
Ды апошнімі сталі вершамі…
А мне ж тыя больш падабаюцца,
Што спіною не прагінаюцца,
Сэрца маючы чалавечае,
Накіроўваюць нас да вечнага.

## Лечымся вясёлым словам і гумарам
***(для паляпшэння імунітэту)***

### Не пазнаў

Юрась прыехаў з горада на вёску -
У модных туфлях, з новаю прычоскай.
Замест "дзень добры"
"здрасьце” ўсім кідаў…
Зайшоўся брэхам Тузік - не пазнаў.

## Мова і язык

"Я мову на язык не памяняю, -
Сказаў сынок мне раніцай за чаем -
Тым больш, што маю ўжо язык адзін:
Жаваць ён зараз памагае блін…"

## Кім быць?

Не хачу быць шрубкаю,
А хачу быць ключыкам.
Не хачу быць шуфлікам,
Лепей быць мне венікам.
Не магу - начальнікам,
Нат размеркавальнікам.
Стану лепей пекарам,
А найлепей лекарам,
Лячыць душы хворыя,
Каб былі здаровыя,
Праўды не баяліся,
Каранёў трымаліся.
Не магу манкуртам быць,
Беларусам буду жыць!

## Не вялікая страта

Дзядулем называюць -
Дык гэта не бяда.
Гады з яго сцякаюць,
Як з гусака вада.

На маладзіц-паненак
Ён вока палажыў.
Да пекных іх каленак,
Хоць прывяжы, -
Бяжыць.

Калючыя шыпшыны,
Халодны вечарок,
Ён пешшу, без машыны
Шыбуе праз масток.

Сярод сяброў - навіны
(Прызнаўся дзед-хадок):
- Схадзіў да той дзяўчыны
Дык - чорт! -
аж тры рабрыны
Зламаў там незнарок.

Наперад падганяе
Любошчаў прысак-жар,
На страты не зважае,
Таму што добра знае:
Рабрын ад роду мае
Ажно дванаццаць пар!

## Згода на моду

Ой, цяжка маладым,
Іх мода падганяе:
Купляй, купляй, купляй!
Што ж тым рабіць,
Хто мала зарабляе?
Перажывай, перажывай!

Аж галава баліць:
"Дзе грошай тых набрацца?"
Працуй, шчыруй, шукай!
Не горай за другіх
Жадаеш апранацца?
Не адставай, не адставай!

Прычоску трэба - шык
І з Францыі парфуму.
На лёс не наракай!
"Наклюнецца" пікнік
Ды перакур, шашлык -
Дык думай добра думу,
Сябе не прамаргай!
Смартфон сучасны мець -
І не кітайскі "фокус" -
Не забывай, не забывай!
Па вуліцы ідзеш -
Часцей навідавоку
Яго трымай, трымай!

Прыдбана хоць не ўсё,
Ды талія - у норме.
І з пірсінгам пупок
Блішчыць,
бы у рэчцы плотка…

Яшчэ, яшчэ адзін дзянёк -
А там багаты "шчупачок"
Урэшце клюне на кручок,
Раскошаю агорне…

## Халасцяк жыве вось так

Што ляжыць у партманеце,
Не трымаю я ў сакрэце.
Дзе павінен быць "партрэт" -
Фотаздымкі дзвюх кабет.
Так, на добры напамін,
Я ж усё жыву адзін.
Не бяда, што ў партманеце
Разгуляўся звонкі вецер
Серабра ды медзякоў.
Рады, бо свабоду маю -
Як хачу, жыву, гуляю!
Сумны лёс халасцякоў…

## Нягоды сабачага жыцця

Хоць у будцы цёпла,
Гаспадар харошы
Костку апетытную
Кідае штодня,
Ды ланцуг кароткі,
Закусалі вошы,
Не сагнаць спякотай
Мух і авадня…

## Вясна

Апошні снег прамоклай ватаю
Дарогу высцілае гразкую.
Вясна ідзе... Зіма за хатаю
У апошні раз зубамі ляскае.
Без шапак хлапчукі шчарбатыя
З двара вывозяць лёд каляскаю.
Вясна ідзе... Зіма за хатаю
У апошні раз зубамі ляскае.
Жаўрук, птушыначка крылатая,
Звініць у небе звонка, ласкава.
Вясна ідзе… Зіма за хатаю
У апошні раз зубамі ляскае.
Паляна, сонейкам працятая,
Глядзіць у свет пралескай-краскаю.
Вясна ідзе… Зіма за хатаю
У апошні раз зубамі ляскае.
Вясна. І буду зноў багаты я:
Душа жыве надзеяй-казкаю,
Бо ўжо зіма, зіма за хатаю
У апошні раз зубамі ляскае.



# *Міхась Зізюк*

*Зізюк Міхась Міхайлавіч нарадзіўся ў 1967 годзе ў в. Лучыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1984 годзе паступіў у Навасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, якое скончыў у 1988 годзе. Да 1993 года служыў на Далёкім Усходзе. З 1993 года жыве ў Беларусі ў Навагрудку. Скончыў Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь, юрыст. Працуе прадпрымальнікам. У 2013 годзе прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Друкаваўся ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях, празаік. Аўтар кніг "Зелянее рунь", "Оракулы Междуречья", "Пропавшая свадьба", "Храм его души", "Планктон", дзіцячых кніг "Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя", "Энерджы і дзеці з 5"а"".*

**Пілігрым**

Я нараджаю цябе для сябе,
Ты прыходзіш заўсёды ў поўню,
Грае тады анёл на трубе,
Я - пілігрым, я - вечны вадроўнік.

Я крочыў у сне, я Бога маліў
Не карай, Усявышні, мяне нематою,
І быў літасцівы тады ён наўздзіў,
Я да зор дайшоў сам пехатою.

І помарак ляснуў, і водбліск святла,
А зоры данеслі словы малення,
Слязінкай упала кропля з вясла,
Шчасце я маю, я маю сумленне.

Хай можа заўжды плакаць душа,
Хай вецер ірве чорныя цені,
І сцелецца ранкам туманаў ціша,
І падаю я  прад Ім на калені.

Знакі паўсюль, а Ён на крыжы,
Вера ў святло - яна не згасае,
Хто ты тут ёсць, не бойся, кажы,
Толькі праз боль душа ўваскрасае.

Там, дзе стаіш, там Галгофа і крыж,
Не здрадзь жа сабе - крыж трэба несці
Душам усім вера дадзена звыш,
Каб да Бога дайсці, не блукаючы дзесьці.

Пяць дваццаць ужо, не буду я спаць,
Бо дні мае круцяцца, як кінаплёнка,
Я ведаю, што мне ніколі не стаць
Чарговай ахвярай спакуслівай гонкі.

Я нараджаю цябе для сябе,
Ты прыходзіш заўсёды ў поўню,
Грае тады анёл на трубе,
Я - пілігрым, я - вечны вадроўнік.

## Прыступкі да вечнасці

Будынак ашчэрыўся, нібы акула,
Водбліск святла, вакно, кабінет.
Сіні аколыш, вострыя скулы,
Ляжыць акрываўлены, збіты паэт.

Гэта ж ты напісаў брыдкія вершы
Пра бацьку народаў, СССР?
Прызнавайся, ты ўжо не першы,
У следчым прачнуўся паранены звер.
Нерухомае цела злачынцы цягнулі,
Бурчалі пад нос: што за ночка ў нас,
Гэтых нацдэмаў трэба пад кулі,
Мы ж на допыт цягаем каторы ўжо раз.
Камера вузкая, пацучыныя твары,
Вязні хрыпяць - надзеі няма,
Смерць атуляе брудныя нары,
Паэтаў яна адпявае сама.
Тройка сляпая - вырак вядомы,
Молах вусаты глядзіць са сцяны.
Ніколі не трапяць вязні дадому,
Без вестак для блізкіх згінуць яны.
Уздымалі наганы чорныя каты,
Капала кроў на пясок,
І толькі бярозы, што ў Курапатах,
Аддавалі зямліцы свой сок.

### За лесам, за дубровай

За далёкім лесам, лесам, за дубровай
Крыж стаіць замшэлы, крыж даўно не новы,
Вецер там калыша куст каліны буйны,
Песні там спявае салавейка чуйны.
Ты спявай, салоўка, ты спявай, мой мілы,
Падымі паўстанцаў з той сырой магілы,
Касінеры ўстануць - вей жа, вольны вецер,
Каб і мы не спалі хоць на гэтым свеце,
Каб і мы адчулі боль іх застарэлы,
Нам сэрцы ажывілі іх нямыя стрэлы.
Бо яны ўбачаць, бо яны пачуюць,
Мову сваю матчыну ўнукі не шануюць.

Дзедаў і прадзедаў не красуе слова,
Так жа занядбанай засталася мова.
Дык за што злажылі вы свае галовы
А мы чаму забылі Кастусёвы словы?
З рук свайго суседа готовы ўжо карміцца,
І чужое шчасце нам так часта сніцца.
Гэй, вы, касінеры, прабудзіце волю,
Хай яна асвеціць беларусам поле.
Каб сябе адчулі мы свабодна, годна,
Каб здабылі шчасце на старонцы роднай.
Устань жа ты, народзе, са спячкі шматгадовай,
Дык скажы, народзе, што да бою ты гатовы.
Ды няма адказу, у цемры мокнуць хаты,
Што ж мы беларусы, ні бедны, ні багаты.
Скажыце, касінеры, як не стаць сляпымі?
Паўстанцы спачываюць, не збудзіць іх салоўка,
У рукі ўжо не возьмуць яны косы зноўку,
Толькі мы здабудзем шчасце і свабоду,
Толькі нам уведаць, ці станемся народам.



# *Васіль Кузьміч*

*Кузьміч Васіль Пятровіч нарадзіўся 20 студзеня 1949 года ў в. Пагост, што на Тураўшчыне. Журналіст і філолаг. Вучыўся ў Мазырскім педінстытуце і на факультэце журналістыкі БДУ, закончыў Гродзенскі дзяржаўны педінстытут імя Янкі Купалы і Менскую ВПШ. Працаваў у рэгіянальным друку. Працяглы час (1987 - 2013) рэдагаваў наваградскую раённую газету "Новае жыццё".*

*Друкаваўся ў тыднёвіку "ЛіМ", часопісе “Полымя”, іншых рэспубліканскіх і рэгіянальных СМІ. Удзельнік рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў Беларусі на возеры Svіцязь у траўні 1967 года.*

**Вершы бяру…**

Вершы бяру, як лусту хлеба ржанога,
пасоленую потам хлебароба,
які штодня згінаецца над нівай.
Вершы бяру, як журботную песню маткі,
яе недабачаныя світальныя сны,
яе пакуты і трывогі.
Вершы бяру,
як шчырую дружбу сябра,

які падзеліцца апошнім кавалкам хлеба,
які ў бядзе працягне руку дапамогі…
Таму, перш чым браць іх,
старанна слухаю сэрцам, ці не пустыя?

* * *

Я спаў пад небам зорным,
накрыўшыся коўдрай,
сатканай з туманоў світальных -
такіх халодных, як беспрытульнасць.
Я спаў у шалашах лясных,
накрыўшыся коўдрай,
сатканай з начной цемры -
такой чорнай, як туга па хаціне
роднай, спаленай вайною…
Дзе я толькі ні спаў!
Але нідзе не адчуваў такой
утульнасці, калі спаў
у залатым храме ўспамінаў,
накрыўшыся коўдрай,
сатканай з матчыных казак.

* * *

Няхай там колькі ні апавядаюць
пра вайну апошнюю:
празаікі - у раманах тоўстых,
паэты - у паэмах шматпланавых, -
усё роўна пра яе нішто не раскажа
так уражліва, як вочы матчыны,
у якіх усё яшчэ свецяцца водбліскі
яркіх кастроў партызанскіх -
водбліскі, якія ніколі не згаснуць.
Бо хто ж вас забудзе,
матчыны вочы?

* * *

Калі кладуцца залатыя зерні
на шурпатую, мазольную далоню,
якую абмывалі цёплыя ліўні,
якую цалавалі гарачыя ветры,
па якой пазнаю твар зямлі роднай, -
не бярыцеся іх узважваць.
Бо яны лёгкія,
як вера хлебароба
у пабітыя градам калоссі,
бо яны цяжкія,
як светлая радасць яго,
калі ён любуецца боханам свежым!

* * *

Вершы - сатканыя з водару траў
і колеру сонца і неба,
вершы - сатканыя з думак,
пачуццяў;
зярняты,
што спеюць гадамі ў сэрцы паэта.
І толькі пусціўшы парасткі
у шчодрую глебу сэрцаў людскіх,
дадуць яны ўсходы.
Іначай - загінуць бясследна.

* * *

Бяру я ў рукі ручнік той,
што маці родная ткала,
і не магу яго ацаніць
нат у тысячу тысяч.
Бо маці ў ручнік той
заткала: заўчасную старасць сваю,

сівую пасму валасоў,
бяссонныя цёмныя ночы,
залатое сонца надзей,
ціхую веру
ў шчасце сына…

* * *

Прырода - шавец вельмі мудры,
які сабе шые кашулі:
з палотнаў туманоў шэрых,
з сіняга паркалю неба,
вышытых промнямі сонца,
спевам птушыным,
звонам вяснога ручая…
Можа, і я сабе калі-небудзь пашыю
такую кашулю…

* * *

Трымае бацька на далоні
буйныя, залацістыя зярняты,
і ўяўляецца ён мне
зямным валадаром.
Бо трымае ён
часцінку маленькую сонца,
раскаты вясновага грому
і светлае шчасце сваё…
А гэта не кожны ўмее…

*Надрукавана ў газеце "Літаратура і мастацтва", 21.02.1967 г.*

**Вераснёвыя ліставеі**

Восень яшчэ не гукае зіму -
Раніцой у тумане сівее.

Але мацней і часцей ужо дзьмуць
Вераснёвыя ліставеі.

Здаецца, яны па ўсёй зямлі -
Нібыта казачнай явай вее.
Дарогі наўкола спрэс замялі
Вераснёвыя ліставеі.

Стаю ў роздумнай я журбе…
Сцежка памяці не травее:
Мяне вядуць па ёй да цябе
Вераснёвыя ліставеі.

Скруха з часам зусім міне.
Ранак у радасці заружавее.
Толькі глянь: у тваім акне
Вераснёвыя ліставеі.

**Я не быў…**

Даўно я не быў у родных мясцінах,
Сорам сэрца шчымліва пячэ.
…Клён ля весніц вітае гасцінна,
Як віну мне здымае з плячэй.
Я шапчу: "Ты прыгорбіўся, дружа.
Вунь бярозкі ўпрыкмет падраслі…"
Заўважаю, што ўжо не кружаць
Над гняздом апусцелым буслы,
Што ў падстрэшку пахілым сумуе
Некляпанаю з год каса,
Як калісь, яе звыкла вазьму я, -
Толькі дай рукавы закасаць.
Сонца з жалем глядзіць у вокны,
Бо закінутай хаты шкада.
Палахліва з-за ліштвы скокнуў
Верабей - адзінокі бядак…

Я прайду ўтравелым падворкам:
Кожны крок - успамін дарагі,
І на сэрцы мне стане горка,
Што забыў край бацькоўскіх магіл.
Я не госцем сюды вярнуся.
Клён удзячна абніме мяне,
У гняздо прыляціць добры бусел,
Сонца промень у вокнах бліснe…
Наталю я з дарогі смагу
У крыніцы, што побач б'е.
На падворку пракосы пралягуць,
У сябрах стане мне верабей…

**Восенню**

Нешта верасень сёлета позніцца,
І прыкмет яго не відно,
І здаецца, што сцёрлася розніца
Паміж летнім і восеньскім днём.

Цішыня сабой зачароўвае.
Далячынь - ні хмурынкі адной.
Мне рабіна гронкай чырвонаю
З лёгкім сумам зірнула ў акно.

Над прысадамі, што за ваколіцай,
Маладзік у самоце плыве.
Знічка шэптам у небе памоліцца
Перш, чым згаснуць у роснай траве.

І здаецца, што лета не скончыцца.
Я заложнік яго без віны.
Ноч асенняя казкаю просіцца
У мае летуценныя сны.

* * *

У садзе нашым першыя лісты
Атрасае вераснёўскі вецер.
Нібы сонца, яблык залаты
Зваблíва ў высокім голлі свеціць.
Быццам чараўнік цяпер які
Вершыць у прыродзе круг адвечны:
То зацягне хмараю блакіт,
То падыме вырай у сінечы…
Сакавітай чырванню-красой
Стрымана каліна ўсміхнецца.
Ты гаворыш - голас ціхі твой
Сумам аддаецца мне ў сэрцы.
Нам нялёгка, мусіць, разумець,
Што ўжо сад не ў полымі зялёным.
Лісцяў пазалочаная медзь
Ападае ў твае далоні.
Вось і апусцеў наш сад зусім,
Золкім ветрам навылёт працяты.
…Дай руку - туды мы пабяжым,
Дзе цвіценне і вясны пачатак.

* * *

Над Прыпяццю туман густы -
У ім аж нават можна заблукацца.
Над берагам схіліліся кусты
У воднай роўнядзі сабою любавацца.

І вось ужо прамень тугі
Прабіўся там, дзе неба просінь,
Упаў на волаты-стагі,
Што парыжэлі ў лузе росным.

Па сцежцы вузкай у траве
Іду за промнем асцярожна:

Баюся, восень, сны твае
У цішыні я патрывожыць.

* * *

Хваля, лізнуўшы мокры пясок,
Злёгку ўзялася ўсхліпваць.
Блíснуўшы срэбрам, лешч перасёк
Досвіткам ціхую Прыпяць.
Туман у прыбярэжнай лазе
Заблытаўся ў пошуках сховы.
Жнівень лета ў восень вязе
Як чараўнік адмысловы.
Бягу на падмогу я стрымгалоў…
Рыбак, шчаслівы бясконца,
Вудай цягне ў човен улоў -
У рацэ заспанае сонца.

**Ластаўка**

Яшчэ не паспее ў маім акне
Заружовіцца раніца ласкава,
Як імклівa ў паветры мільгне
Ужо бадзёрая ластаўка.

Здаецца, яна крылом тугім
Шэрае неба разрэзвае.
Гучыць, як радасці гімн,
Яе шчабятанне гарэзнае.

І дзіўна: абшар навакол
Прыціхне і моўчкі слухае,
Нібы гэта хор спевакоў,
Усё, што пяецца вяшчухаю.

Ужо і ўсход спакваля заірдзеў
На небасхіле з лёгкай хмурынаю.

Ластаўка жнівеньскі дзень
Спевам сваім адкрыла нам.

Пяшчотным і тонкім святлом
Разліваецца летняя раніца.
Ластаўкі вострым крылом
Яна не баіцца параніцца.

**Ля Убарці**

*Прысвячаецца памяці пісьменніка*
*Міколы Капыловіча*

Лось у падлеску, што побач, не трубіць,
Чайка на беразе нешта маўчыць.
У летнюю спёку плыткая Убарць
Спакойна разводдзе вясновае сніць.
Поплаў на травы нас заклікае,
Сонца праменні нам падае, -
Дружа, кампанія ў нас такая -
Кожны ўдзячна абняў бы яе.
Без чаркі не зладзіць шчырай гамонкі,
У ёй сябрам ніхто не ілжэ.
Нешта нам шэпча падлесак гонкі,
Схіляецца поўдзень да нас бліжэй.
Гаворка ў нас аб самым сур'ёзным
Без нейкай там зайздрасці і пахвальбы:
Калі не цягнеш да класікаў прозы,
То мусіш хоць хатнім паэтам быць;
Калі ж твая думка зусім збяднела,
А яе падмяняе слоўны туман,
Тады прызнайся без крыўды і смела,
Што ты закончаны графаман.
Цячэ праз памяць у вечнасць Убарць.
Поплаў зноў у зялёнай траве.
Хай лось для нас у падлеску затрубіць,
Хай чайка з берага нас пазаве.

## Гумарам і сатырай

*Памяці Паўла Шыбута, сатырыка-гумарыста,*
*аўтара зборніка "Кароткай чаргой" (1975 г.)*

Не браўся цягацца ён з Крапівой,
У класіку ён не пнуўся.
У гумары голас адметны меў свой,
З сатыраю быў у хаўрусе.

Ён кожны радок шмат разоў абрабляў
Да сёмага поту старанна,
Каб той наводкай прамою цаляў
Па нашых агульных заганах,

Каб гэтым радком нясцерпна пякло
Зладзюгам у самыя пяты,
Каб ім вынішчалася рознае зло
Бескампрамісна зацята.

Каб гэты радок, нібы гнуткі біч,
Сатыры агнём прыцэльным
Па прайдзісветах нястомна біў, -
Пісаліся караценькі.

Каб гэты радок наскрозь паражаў
Чыноўнікаў рангаў розных,
Якіх раўнадушша заела іржа, -
Пісаліся байкі ў прозе.

Калі небараку памылкі шматкроць
На сябе паглядзець не вучаць,
Хлысне ў гэтым радку мімаходзь
З'едліва і балюча.

У гэтым радку было многа чаго:
І гневу, і крытыкі вострай,

То грымне кароткаю ён чаргой,
То выстраліць дробным шротам.

* * *

У памяці вобраз яго не згас,
Асветлены ўсмешкай шчырай,
Ён верыў, што лепшыя лекі для нас
Гумар вясёлы з сатырай.

***Заўвага:*** *байкі ў прозе, карацелькі, шрацінкі, мімаходзь - мастацкія жанры, у якіх пісаў свае творы Павел Шыбут.*

**Дуб**

Здаецца, імклівым рыўком адным
Узняўся ён на прыпяцкі бераг,
Каб пільным паглядам сваім
Абшар навакольны абмераць.

Узняўся і раптам нібы здранцвеў,
Тутэйшай красой паланёны.
Ды так і спыніўся ў высокай траве,
У казцы яе зялёнай.

Раскінуў ушыркі сваё галлё -
Абсяг да сябе прысунуў,
Каб кожную раніцу можна было
Галубіць дзянніцу-красуню.

Макаўку кроны ў бяздонне падняў,
Куды нат вятрыску сягнуць немагчыма,
Каб лёгка і вольна да скону дня
У далонях гайдаць аблачыны.

Як толькі з пясчаных надпрыпяцкіх круч
Грамы загудуць у званіцы,
Ён тут жа гатовы цугляць аберуч
У небе агністыя бліскавіцы.

### Ляціць лісток

Захмараным восеньскім раннем
Смуга агарнула наўсцяж далячынь.
З бярозы пажоўклы лісток адарваны
Імкліва ў золкую бездань ляціць.

Ляціць ён над полем, зусім апусцелым,
Над лугам, дзе мрояць аб леце стагі,
Туды, дзе зіма неўзабаве пасцеле
Сатканыя з белі палотны-снягі.

Дажджы і вятры на яго налыталі,
І лёгкі зазімак яго закрануў.
Ён жа і ў поўдзень, і зоркай світальнай
Пад сонцам у квецені бачыў вясну.

Трымаўся на дрэве ён вельмі адчайна,
Пакуль не растраціў апошніх сіл.
Не мог аніяк усвядоміць ён тайну,
Якую ад самага мая насіў,

Што мудрасць адвечных прыроды законаў
У прадзіве дзён нібы лёсу пячаць:
Каб значную справу ў час свой закончыць,
Яе неабходна ў тэрмін пачаць.

Што росквіт вядзе за сабой адміранне,
Яго з надзеяй патрэбна прыняць.
Засвеціцца квола досвітак ранні -
Гэта прадвесце новага дня.

Ляціць пажаўцелы лісток у знямозе
Да небыцця невядомай мяжы,
Каб ранняй вясною на той жа бярозе
Зялёным і клейкім нанова ажыць.

## Шэсце сосен

*У пасёлку Наваельня, што на Дзятлаўшчыне,
сосны растуць уздоўж вуліц, ля грамадскіх
будынкаў і шматпавярховых дамоў,
на прыватных падворках.*

Калі давядзецца бываць у Наваельні -
Ці то ў гасцях, ці то проста так -
Ад'ехаць дадому спяшайся не вельмі,
Бо можна важнае страціць няўзнак.

Ці ўлетку сонца пасёлак песціць,
Ці ўзімку холад у вокны ўлез, -
Зблізку пабачыш відовішча-шэсце
Зялёных сосен - сапраўдных гарэз.

Ідуць яны па вуліцах гулкіх,
Раскінулі шаты ў многіх дварах,
Прытулак знайшлі ў ціхіх завулках, -
Водарам іх пасёлак прапах.

Бывае, псуецца надвор'е дома,
Ладу сям'я не знае даўно, -
Сасна, як добры дарадца знаёмы,
Прыветна загляне ў ваша акно.

Бывае так: маладыя каханне
Успрымуць нібыта лёгкую жарсць, -
З сасною парайся - сяброўкаю стане,
Якая падказку разумную дасць.

Сусед чамусьці не ладзіць з суседам,
Сваркі ўзнікаюць, можа, праз дзень, -
Гамонку з сасною пачніце аб гэтым, -
Яна дапаможа ў вашай бядзе.

Зімою і ўлетку, вясною і ўвосень,
У дождж і ў завею, пры яснай зары
Прыемна сустрэцца пад шатамі сосен
І шчыра з сябрамі пра ўсё гаварыць.

**Зара**

За Любчай зара вечаровая
Разліла свае яркія фарбы.
Яе прыгажосць зачароўвае
І непаўторнасць вабіць.

Прыгледзься: якая гармонія
У харастве вось гэтым!
Нездарма - успомніў я -
Тут жывуць мастакі і паэты.

На нашых вачах прырода
Шэдэўры мастацтва лепіць,
Дзе формы і зместу згода, -
Ніхто не змайструе лепей.

Колераў цёплых адценні,
Тонкія лініі ў спалучэнні,
Лёгкіх аблокаў свячэнне, -
Гэта відовішча для захаплення.

Бывае на сэрцы самотна
І ў творчыя сілы не верыш,
Не пішуцца нешта палотны
І не складаюцца вершы, -

Нядоўга сябе ўгаворвай,
У Любчу едзь без сумнення:
Тут на зары вечаровай
Азорыць цябе натхненне.

**Родная вёска**

Да цябе заўсёды - ці здалёк, ці зблізку -
Я з усіх вандровак і дарог спяшу.
Родная ты вёска, радасці калыска,
Ля цябе сагрэю я сваю душу.
Клічуць твае рэкі Прыпяць, Тур і Сцвіга
На свае ў росных травах берагі,
Каб пасля расстання павмаліцца ціха
У царкве за лёс твой, сэрцу дарагі.
Ты маё дзяцінства з любасцю люляла,
Юнаком бязвусым выпраўляла ў шлях.
Прыпяць, нібы маці, на высокіх хвалях
Несла мае мары на жыцця прасцяг.
Праплылі ў віхурах над табой стагоддзі.
Часам бедавала ў горы і журбе.
Нас жа, нібы дзетак, пры ліхой нагодзе
З ласкаю туліла шчыра да сябе.
Славілася працай на лугах і гонях,
Песняй плытагонаў, дружбай рыбакоў.
У тваім ваколлі помняць і сягоння
Подзвігі герояў - нашых землякоў.
На тваіх падворках хараства багата,
Хочацца бываць тут як мага часцей.
Нібы сонцам свецяць і цяпер нам хаты, -
Шчодра ты прымаеш у сябе гасцей.
Пяць вякоў стаіш ты хараша і годна
На вятрах імклівых часу і падзей.
Дарагая вёска, з кожным новым годам
Ты квітней і толькі маладзей.



# *Янка Паддубіцкі*

*Іван Серафімавіч Паддубіцкі (Янка Паддубіцкі) нарадзіўся 5 кастрычніка 1952 года ў вёсцы Заброддзе Салігорскага раёна Менскай вобласці ў шматдзетнай сям'і. У 1969 годзе на выдатна скончыў Чырвонаазёрскую сярэднюю школу і ў гэтым жа годзе паступіў на першы курс філалагічнага факультэта Менскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Горкага (з 1995 г. - імя М. Танка). З 1974 года па 1979 год працаваў намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце ў Скаўшынскай СШ Салігорскага р-на, з 1979 па 1986 год - у Ваўкавіцкай СШ Наваградскага р-на Гарадзенскай вобласці намеснікам дырэктара, а затым у лютым 1986 года быў накіраваны на пасаду дырэктара Шчорсаўскай СШ у гэтым жа раёне. На гэтай пасадзе працаваў амаль дваццаць годоў.*

*Памёр 25 сакавіка 2011 года.*

**Майскія сімфоніі**

Сакавік, красавік, вось і май
Шалясціць вечарамі балонню.
Ты прыйдзі да мяне - ні пра што не пытай
Я сягоння ў палоне сімфоній.

Хто спявае? Транзістар? Ды не.
Хто іх аўтар? Які кампазітар?
Гэта май прысвяціў свае гімны вясне,
Зелянінай і сонцам спавіты.

Тут спявае навокал зямля -
Сонца піша ёй нотныя станы;
Грае трактар, плугі і ралля,
Граюць гуслі жыцця закаханых.

Я сягоння ў музычным палоне,
І гучыць гэты спеў шматгалосны.
З гэтых майскіх чароўных сімфоній
Я сную сабе дзіўныя кросны.

Ты прыйдзі да мяне - ні пра што не пытай
Тут вядома ўсё без прызнання.
Ёсць вясна, як сімфонія - май,
І як многа сімфоній - каханне.

## Мая Беларусь

Па маёй Беларусі, каб з краю да краю
Праехаць, прайсці,
Чым я ганаруся і што яна мае,
Убачыць, знайсці,
Трэба годы пяшком на шашы,
Трэба годы ў гуле машын,
Між алешын, дубоў і бярозаў
Па вясковай пыліцца дарозе,
Прабірацца глухой Белавежай,
Перайсці нарачанскія плёсы
Можа, годы ад межаў да межаў
Мне і ехаць і йсці давялося б,
Каб кожны куток пераведаць, убачыць,
Па кожнай рацэ пасядзець, парыбачыць...
Ды не скінуць прасторы ўсе вокам

І не згледзець усёй мне красы,
Толькі сніцца, што дома далёка
Зацвілі ўжо ў бары верасы.
Не стаптаць ўсіх на свеце дарог...
І калі ў знямозе ўпаду я,
То прыйду на бацькоўскі парог
І скажу: "Добры вечар, матуля!"
Бо адсюль, ад калыскі, ад сенцаў,
Ад палеткаў, што крокамі мераў,
Западала Радзіма ў сэрца,
Паланіла душу маю верай.
Мае гарады, беларускія вёскі,
Родныя хаты, за хатамі тын -
Усюды я чую твае адгалоскі,
Усюды я буду, Радзіма, твой сын!

**Вішнёвая замяць**

*Песня*

Жывём, пакуль памяць снуе ўспаміны
І сённяшні дзень у вясёлках расы...
Вішнёвая замяць у гуле пчаліным
Цярушыць на плечы і на валасы.

Вэлюмам белым вішнёвая замяць
Туліць мае маладыя гады,
І ўспамінамі сэрца мне раніць
Майская квецень вясною заўжды.

Вішнёвая замяць, не дрэмле хай памяць,
Віруе жыццё, расцвітаюць сады...
Абудзіць мне памяць вішнёвая замяць,
Напоіць струменем крынічнай вады.

Пошчакам поўніцца гай салаўіны,
Пенай чароўнай сплывае туман...

Дні маладосці адны ўспаміны,
Сцежкі юнацтва дратуе дзірван.

## Абавязак

Яны
аддавалі
жыццё,
Сваімі
грудзьмі
закрывалі
дзоты,
Пад свіст
металу,
скрозь бомб
выццё
Ішлі
ў самае
пекла
грымотаў.
Два сажні
зямлі
і прабітыя
каскі,
Кавалак
бяздымнага
неба...
Яны
назаўсёды
свае
абавязкі
Зрабілі,
як
трэба.
Зрабілі,
як гэта
падказвала
сэрца,
І, мабыць,
у той
у апошні час
Думалі пра
тых,
хто застанецца,
Думалі
пра нас.
Думаюць
сёння
на плошчы
ў граніце:
Гранітнай
рукою
гранатныя
звязкі
Кінуць
гатовы
ў смерці
байніцы
Выканаць
зноўку
свае
абавязкі.

## Возера Кромань

...Возера Кромань. Сасновай жывіцай
Пушчы люстэрка на хвалях іскрыцца.
Песціцца кожны тут сонечны промень.
Казка чароўная - возера Кромань!
Колькі паданняў і розных дзівосаў
Людзям пачуць пра цябе давялося.
Вечарам летнім з утульнай дрымотай
Шэпчуць пра гэта пяшчотна чароты.
Многа з вадою такіх таямніцаў
Знесла ў Нёман рака Краманіца:
П'е твой крышталь яна і не нап'ецца,
Стужкай імклівай праз пушчу ліецца.
...Помню я першую нашу сустрэчу:
Жнівеньскі лес, авадні, камарэча...
Бліснуў прагал, абдало прахалодай,
Грудзі ўдыхнулі гаючы твой водар;
Вочы зайскрыліся, згінула стома,
Вось яна, пушчы жамчужына, Кромань!
Нібы шацёр у зялёнай аправе
Полаг раскінуў між дрэваў і траваў;
Лодку гайдаюць чароты-вятрыскі,
Нібы люляюць маленства калыску.
Раптам пачуў я твой сцішаны голас:
"Будзем знаёмы, я возера Кромань!"
Быццам твая прыцягальная сіла
Вельмі даўно аб сустрэчы прасіла:
Хваляў шаптанне, уздыхі, усхліпы,
Шолах бярозаў, алешын і ліпаў.
Шчыра ішлі да мяне тыя словы
Гэтай панятлівай нам толькі мовай.
Тут не патрэбна прывычнае вуха,
Вечную споведзь я сэрцам падслухаў...
Час той здаваўся мне вельмі імклівым...
Зноўку "так" прад табой сарамліва,

Быццам спаткаўся з нябеснай царыцай
І не магу я з яе надзівіцца;
І не магу я пазбыцца трывогі,
Як толькі ўбачу за Нёман дарогу;
Як прыгадаю твой сцішаны гоман,
Мары нясуць да цябе, мая Кромань.

**Прынёманскі край**

Край мой Прынёманскі, родныя далі
Воблікам мілым чаруюць душу;
Долю адну мы сабе нагадалі,
Песні твае я ў сэрцы нашу.
Вабяць гаі да сябе і паляны;
Ціха бярозкі пад ветрам шумяць,
Нібы нявесты, да шлюбу прыбраны,
Ва ўрачыстым чаканні стаяць.
Нёман плыве між лугоў і дубраваў,
Воды бясконца бягуць па гаях;
Ніцыя лозы, лілеі і травы
Гожым вянком аздабляюць ім шлях.
Край Прынямонскі, жытнёвыя далі,
Край працавітых і слаўных людзей.
Колькі вякоў на сабе неслі хвалі
Мілых і слаўных вяночкаў падзей!
Мы пажадаем і ў будні, і ў святы
Любаму краю шырокі прастор,
Каб не згасала надзея між хатаў,
Каб саграваў нас Купалля касцёр.
Нізка ў пояс табе пакланюся,
Край мой Прынёманскі, край дарагі!
Мілы куточак маёй Беларусі,
Дзе такі знойдзеш на свеце другі?!

## Вочы дзяцей

Вочы дзяцей, мае мілыя вочы,
Бачу ўсюды вас, дзе б я ні крочыў:
Карыя, шэрыя, нібы з блакіту,
Нібы сабралі лугоў аксаміты,
Шчодрыя, цёплыя, поўныя ласкі,
Квецяцца сёння, як летнія краскі.
Вочы дзяцей, справядлівыя вочы.
Я перад імі ніколі не збочу,
І за бацькоўскім ці школьным парогам
Не пакідаюць мяне іх трывогі.
Вочы дзяцей, задуменныя вочы,
Шчасце і радасць ім сёння прарочу.
Цалкам аддам я сябе для ахвяры,
Толькі б збыліся іх светлыя мары,
Толькі б не чуць, як у цёмныя ночы
Рэха вайны над зямлёю грукоча.
Век каб не зведалі долі сірочай
Вочы дзяцей, мае родныя вочы.

* * *

*Выпускнікам Шчорсаўскай сярэдняй*
*школы з нагоды сёлетняга яе*
*55-годдзя прысвячаю*

І дзень, і ноч ля нашай школы
Бягуць, шыпяць машынаў колы,
Лягла ва ўсе бакі дарога
Ад школы Шчорсаўскай парога.
Адна дарога - у сто дарог,
Каб кожны выбраць сваю змог.
І ўжо, чуваць, далёка ў свеце
Жывуць са Шчорсаў нашы дзеці.

Яны - вучоныя, студэнты,
Працаўнікі, інтэлігенты.
Наогул, кім бы ні былі,
Усе шчыруюць на Зямлі.
Усіх у людзі вядзе школа
І асвятляе шлях наўкола.
О, школа Шчорсаў, ты не проста,
Падобна нёманскаму мосту,
Жыцця злучаеш берагі,
І твой удзел зусім другі.
Дзяцінства светлая пара
Тут пачынае з буквара;
Бяруцца ў пер'е птушаняты,
І падрастаюць арляняты,
Пастануць хутка на крыло,
Бо так заўсёды тут было.
Ты стала роднай, наша школа.
Сям'ёю дружнай і вясёлай
Мы сустракаем кожны раз
Усіх, хто памятае нас,
І рады кожнаму тут госцю,
Хто йдзе спаткацца з маладосцю.
Прынёс у Шчорсы гэты вечар
І ўспаміны, і сустрэчы,
І кожны раз са ста дарог
Лятуць арлы на свой парог.
...І хай на вуліцы дажджыцца,
Нібы вярнуўся лістапад,
У школьным вальсе закружыцца
Я з вамі рад, я вельмі рад.

**Ефрасіння Полацкая**

Я - усіх студэнтаў маці,
Хачу слова вам сказаці:

Беларуская асвета
Цяплом рук маіх сагрэта.
Я ўчыніла подзвіг існы
Першай кнігай рукапіснай.

Цэрквы, храмы і саборы
Многа кніг сабралі ў зборы.
Святары народ вучылі
І да кніжак далучылі.
Далучаю вас па праву
Да святой навукі справы,
Прачытаць каб давялося
Наша імя на нябёсах,
Каб святы Ерусалім
Стаў для вас усіх сваім.

## Са святам, мілыя жанчыны!

Яшчэ не зніклі халады,
І часам двор у снезе,
А ўжо касачык малады
З зямлі да сонца лезе.
Заве са школьнага акна
Прыжмуранай усмешкай
Спрадвечна юная вясна
Прайсці за Шчорсы сцежкай,
Каб тут спазнаць пад спеў крыніц
Ва ўрачыстасці сустрэчы
Адну з галоўных таямніц
Прыроды чалавечай.
Вясна, жанчыны - сэнс адзін:
Працяг жыцця ці абуджэнне.
Я, нібы з лямпай Аладзін,
Прыйшоў да Вас на паслужэнне.

Вясна! Твой месяц сакавік
Узрушыў зноў зямныя сокі
І на асобны свой улік
Жаночы дзень узняў высока.
Жанчыны! Мілыя, усе,
Віншую шчыра з вашым святам!
Жадаю ў гэтакай красе
Шчаслівым быць і жыць багата!
Вам кветак сёння па вядру,
А летам цэлыя загоны
Я ад мужчын усіх дару
І іх змушаю да паклону.

**Жывіце з Богам у душы!**
*Запавет*

Хай Бог жыве ў нашых хатах
На ўсходзе сонца, у куце,
Дзе з ручніком, нібы на свята,
Ікона вышыўкай цвіце.

Вадой святою кут асвеціць
Зямны духоўнік і святар,
І пасвятлее ў белым свеце
Наш праваслаўны ўвесь абшар.

Хай Бог жыве на нашых нівах,
Там, дзе, напіўшыся расы,
З малітвай ціхай, шапатлівай
Яму паклон шлюць каласы.

О, як нам хочацца заўсёды
Жыць у спакоі і цішы!
Скажу я ўсім з такой нагоды:
- Жывіце з Богам у душы!

## Да маці
*Песня*

Гадоў нямала праплыло
У незваротны лёсу вырай…
Я еду ў роднае сяло
Да мамы любае і шчырай.

**Прыпеў:**
*Даруй, матуля, выбачай,*
*Што слёзы заліваюць вочы,*
*Мы сваю радасць і адчай*
*Нясём табе і ўдзень, і ўночы.*

Ступлю на бацькаў я парог,
Шырока расчыніўшы дзверы,
І споведзь з пройдзеных дарог
Адной табе цяпер даверу.

**Прыпеў.**

У хату родную зайду
І ў дзяцінстве апынуся,
Да рук тваіх я прыпаду,
З табою разам зажуруся.

**Прыпеў.**

Сціскае дні жыцця вязьмо,
Над нашай вёскай снег лятае,
А ў хаце мама, і пісьмо
Каторы раз ужо чытае.



# *Уладзімір Бармута*

*Бармута Уладзімір Антонавіч нарадзіўся 18 жніўня 1940 года на хутары Астравок Пружанскага раёна Берасцейскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у калгасе палyводам, рабочым на цагельні. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філалагічны факультэт Берасцейскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна (1968). Настаўнічаў у Велікарыцкай сярэдняй школе Маларыцкага раёна.*

*З 1972 года жыве ў Наваградку. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты "Новае жыццё", у партыйных органах, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў СШ № 6. Піша вершы і прозу. Друкаваўся ў розных перыядычных выданнях, у тым ліку ў часопісах "Бярозка", "Вожык", "Маладосць", "Полымя".*

**Іван Бурсаў**

**Балада пра нявыкананы загад**

У родную зямлю салдат урос.
Салдат аглух ад выбухаў і звону.
Загад аб адступленні не данёс
яму ахрыплы голас тэлефона.

Зноў пачынае, адступіўшы, бой
знямоглая, але жывая рота,
прыкрытая ад ворага ракой
і лбом упартага ручнога кулямёта.

Дарма стараўся ўладны тэлефон
праравацца да байца праз кананаду…
Быў пасмяротна ўзнагароджан ён,
салдат, які не выканаў загаду.

*Гаўрыла Шутэнка*

## Расінкі

Край Навагрудскі
светлы мой!
Ну, як не пець мне
ў дні вясновыя?
У жытняй зелені густой,
расінцы кожнай
вершы новыя.

## Буду чакаць

Прыехаў я
адведаць вас, гвардзейцы.
Данец блакітам
рэжа мірны дол.
Так не сціскалася
перад атакай сэрца,
бы ў гэты час,
хоць сонечна вакол.

Ну і чаму б
вам, хлопцы, не азвацца?..
Я трыццаць год вас клічу і заву.
Мне з гэтым краем
заўтра расставацца,
і я на памяць
лісце з дуба рву.

Схіліўшыся,
шуміць ён над зямлёю.
Мы спачывалі
пад яго шатром…
І колькі жыць яшчэ мне
пасля бою -
чакаць вас буду,
дзе стаіць
Арцём.*

** Помнік на беразе Паўночнага Данца.*

**Дубкі**

Я іду лясною паласою,
прада мной - шырокі далягляд,
а вакол, памытыя расою,
нібы выйшлі дрэўцы на парад.

Тут раней быў мёртвы стэп. Ляжала
жоўтая ад пылу і пяскоў
голая зямля, перасыхала,
трэскалася ў спёку ад вятроў.

А цяпер усюды вока бачыць
пералескі зелені густой.
Нездарма садзілі людзі, значыць,
дрэўцы тут шырокай паласой.

Свежы ветрык між дубкоў імчыцца,
нахіляе лісце да мяне,
і шуміць высокая пшаніца
ў прывольнай гэтай старане.

Я кранаю дрэўца асцярожна,
цёплага лісточка лашчу край.

Гэта ён ад сухавеяў грозных
сцеражэ ў палетках ураджай.

***Яраслаў Яраш***
*(Украіна)*

**Прадчуванне**

Непазбыўны мой сум -
прадчуванне апошняй разлукі -
лебядзіным крылом
закрануў усе струны душы.
Сцерагуць, можа, нас
невыказныя болі і мукі,
дык за тое адно,
што мы іншых пачуць не спяшым.

Што нам шэпча трава,
палынамі напоены вецер?
Залатое лісцё,
перад тым як навекі згарэць?
Колькі добрых людзей
размінуліся ў спешцы на свеце,
не сумеўшы сябе
цеплынёй патаемнай сагрэць!

Мне б убачыць яшчэ
хоць на міг старадаўняга друга,
падзяліцца бядой,
пажадаць яму новых удач.
...Горкі лебедзяў крык
над маўкліваю стыне акругай,
як пакутлівы боль,
як апошняе слова "прабач".

*__Аляксандр Пушкін__*

## Анчар

Пустэльны грунт і нежывы,
на ім, ад спёкі амярцвелым,
анчар, як грозны вартавы,
адзін стаіць у свеце цэлым.

Прырода прагнае зямлі
яго ў дзень гневу нарадзіла,
яд разліла па ўсім галлі
і карані ім напаіла.

Па кроплі яд цячэ з кары,
растоплены гарачынёю,
і застывае ўвечары
густой празрыстаю смалою.

Абыдзе звер, птах абляціць,
і толькі віхар каламутны
на дрэва смерці набяжыць
і мчыцца прэч, ужо атрутны.

Калі ж, блукаючы вакол,
пральле хмурына дождж гаючы,
з галін анчара ўжо на дол
сцякае яд у жвір сыпучы.

Але да дрэва князь паслаў
свайго раба адным паглядам,
і той нічога не сказаў
і раніцой вярнуўся з ядам.

Была ў яго руках смала,
галіна з вялымі лісткамі,

і са збялелага чала
цёк пот халодны ручаямі.

Прынёсшы ўсё, аслаб і лёг
у будане каля паркана
і там памёр, бядак, ля ног
неперсаможнага тырана.

А ядам князь паначыняў
свае паслужлівыя стрэлы
і з імі гібель разаслаў
суседзям у чуждыя ўдзелы.

***Уладзімір Высоцкі***

**Да вяршыні**

Ты ступіў нагой на ледавік,
позірку не зводзячы з вяршыні.
Воблакі ўдыхае горны пік,
выдыхае снег лавінаў сіні.

І з цябе не зводзіць ён вачэй,
быццам тут спакой табе абвешчан,
перасцерагчы спяшаць хутчэй
і каменяпад, і пашчы трэшчын.

Горы чуюць - блізка да бяды -
дымам зацягнула перавалы.
Блытаў ты, нявопытны, тады
выбухі і горныя абвалы.

А аб дапамозе ты прасіў -
гучным рэхам прамаўлялі скалы,
па цяснінах вецер гор насіў
рэха, нібы радыёсігналы.

А калі ў гарах здараўся бой, -
каб не быў ты ворагам прыкмечан, -
кожны камень затуляў сабой,
скалы самі падстаўлялі плечы.

Не шукаў ты сцежак у абход,
праставаў заўсёды, моцны духам,
і граніт мякчэў, тапіўся лёд,
і туман пад ногі слаўся пухам.

А калі пад снег навекі ты
ляжаш - над табою, як над блізкім,
горныя нахіляцца хрыбты
самым непарушным абеліскам.

**Цунамі**

Нам прыказка падказвае, дзе выйсце:
мінулагоднім не хваліся небам
і не вяртайся - дзе быў рай калісьці,
дзе ты не быў - туды ісці і трэба.

Што робіць там адна прырода з намі!
У краі тым рамантыка жыве.
Сустрэчны кожны - што яму цунамі! -
са штормамі ў душы і ў галаве.

Спакой тут, праўда, ні за што не купіш,
аднак у хлопцаў ты не будзеш лішні,
насуперак той прыказцы паступіш
і вернешся ў знаёмы рай калішні.

Што робіць тут адна прырода з намі!
Вядома, тут рамантыка жыве.
І часам нараджаюцца цунамі,
каб знесці ўсё ў душы і ў галаве.

На моры штыль, але няма спакою -
лакатар цэль намацвае рукамі.
Трывога - значыць, нешта ўжо такое -
або сігнал: рыхтуйцеся - цунамі!

Я паднімаю сёння тост з сябрамі!
Цунамі - абыякая вада.
Бывае радасць большай за цунамі,
і горшая здараецца бяда.

***Валерый Брусаў***

**Пад журчанне Гадаверы**

Ліст шырокі, ліст банана,
пад журчанне Гадаверы,
ціхім ранкам - рана, рана -
памажы кахаць і верыць!

Архідэі і мімозы
несучы па плёсе сонным,
асушы надзеяй слёзы,
захавай вянок мой поўным.

А калі па-за туманам
не пабачу цябе болей,
ліст шырокі, ліст банана,
я маліцца выйду ў поле.

Для цябе, багіня Шчасця,
для цябе, суровы Кама,
завушніцы і запясці
пакладу я каля храма.

Ліст шырокі, ліст банана,
калі зрынеш ношу ў Лету,

ціхім ранкам - рана, рана -
скіну я ўсе амулеты.

Пад журчанне Гадаверы
панясу тугу я ў далі,
каб вар'ятцы баядэры
памагла багіня Калі!

***Зінаіда Гіпіўс***

**Ля парога**

Неўразуменне ў сэрцы і трывога,
трызненняў цёмная гурма.
Уперадзе чарнеецца дарога,
а можа, там зусім яе няма.
Але я словам закрануць не ўмею,
што ў цішыні жыве і што ва мне.
Яго адчуць я нават не сумею:
яно, як сон. Яно, як сон у сне.
О, невыразная мая трывога!
Яна штодня расце ў душы маёй.
І знаю: боль, які ўжо ля парога,
увесь той боль - не для мяне адной.

***Максіміліян Валошын***

* * *

Чакаў пакуты шмат гадоў
усёю цэльнасцю нязведанага шчасця.
Як ціхі сіні ранак, боль прыйшоў
і сэрца мне абвіў, нібы запясце.

Прамень жаданы мне прынёс
такія палкія, пакутлівыя ласкі.

Праз вейкі, мокрыя ад слёз,
убачыў: зацвілі дзівоснейшыя краскі.

І сэрца стала як са шкла,
і ў ім спявала тонка рана:
"Калі б, пакута, ні прыйшла,
заўжды прыходзіш вельмі рана."

***Уладзіслаў Хадасевіч***

* * *

Люблю людзей, люблю прыроду,
ды не люблю хадзіць гуляць
і цвёрда ведаю: народу
маіх тварэнняў не спазнаць.

Малым здаволен, сузіраю,
што мне дае няшчодры лёс:
вяз бокам хлеўчык падпірае,
грудок у засені бяроз…

Я грубай славы не чакаю,
як і ганенняў, - ніадкуль,
кусты сам бэзу падстрыгаю
вакол тэрасы і ў садку.

***Юна Морыц***

* * *

***І мой сурок са мною…***
*Песня Бетховена*

І мой сурок са мною, ён са мной,
самотны рыцар музыкі і музы,

ён з лужын піў, карміўся ля піўной
і брыў скакаць пад скрыпку ў Сіракузы.

Паўсюдна ў печах ён гарэў - о жах! -
ды, спалены зімой, ажыў вясною -
цудоўна жыць! А музыка - мяжа
цудоўнага! І мой сурок са мною…

Якія слёзы ён глытаў парой,
якую лютасць бачыў і пяшчоту!
І мой сурок са мною, ён са мной -
кахання прывід, верны друг журботы.

Якісьці гук шчымлівы - паміж строф…
Адкуль ён быў пазваны цішынёю?..
Мы вечныя! А музыка - парог
той вечнасці! І мой сурок са мною…

***Аляксей Суркоў***

* * *

Калі стамлюся я ці засумую,
у вочы гляну - прозелень марскую,
адыдзе стома, і туга адстане,
і на душы лягчэй прыкметна стане.

Усё жыццё так - справы або войны.
І мірны дзень таксама неспакойны:
у Мінску сёння, заўтра ў Тэгеране, -
вось і прызнач тут загадзя спатканне.

А колькі ў спешцы кожнае сустрэчы
прызнанняў не зрабілі мы, дарэчы!
А колькі ў час расстання на вакзале
слоў запаветных так і не сказалі!

За мітуснёю, калатнечай гэтай
час адплываў беспаваротна з Летай.
Спакойна не маглі мы насядзецца,
у вочы не паспелі наглядзецца.

І ўсё ж, мой друг, сумненняў нам даволі,
не злуй на гэту качавую долю,
глядзіш мне ў твар, вачэй не апускаеш,
яны ўсё тыя ж - прозелень марская.

***Іосіф Бродскі***

**Лісты рымскаму сябру**

*З Марцыяла*

* * *

Сёння ветрана, і хвалі злыя проста.
Хутка восень, памяняецца ўсё зноўку.
Змена фарбаў гэтых больш кранае, Постум,
чым уборы, што мяняюцца сяброўкай.

Дзева стрымлівае, як бы ні карцела -
рукі звязвае. Малая ў гэтым радасць.
Нам прыўкраснае прыемней па-за целам:
ні абдымак немагчымы, ані здрада!

* * *

Дасылаю табе, Постум, гэтыя я кнігі.
Што ў сталіцы? Мякка сцелюць? Спаць не жорстка?
Як там Цэзар? Чым заняты ён? Інтрыгі?
Так, інтрыгі, верагодна, ды абжорства.

Я сяджу ў сваім садку, гарыць паходня.
Ні сяброўкі, ні прыслугі, ні знаёмых.
Пуста ў доме, на дарожках і на сходнях -
толькі згоднае гудзенне насякомых.

* * *

Тут ляжыць купец, ён азіят. З талковых
быў купцоў - някідкі, але дзелавіты.
І памёр - ад ліхаманкі. Па гандлёвых
справах ён прыплыў сюды, і вось глядзі ты.

Побач з ім - легіянер, пад грубым кварцам.
Ён Імперыю ў баталіях праславіў.
Сто разоў маглі забіць! Памёр жа старцам.
Нават тут няма ніякіх, Постум, правіл.

* * *

Хай папраўдзе, Постум, курыца - дурніца,
а з курынымі мазгамі схопіш гора.
Калі выпала ў Імперыі радзіцца,
то жыві ў глухой правінцыі ля мора.

І ад Цэзара далей, і яго пугі.
Смела ходзіць тут апошні палахлівец.
Кажаш ты, што ўсе намеснікі - зладзюгі?
Ды зладзюга мне мілей, чым крывапівец.

* * *

Я магу перачакаць з табой, гетэра,
гэтую залеву да самога ранку,
не спрачайся толькі: браць сестэрцый з цела,
што наверсе, - аддзіраць ад даху дранку.

Працякаю, кажаш? Добра, а дзе лужа?
Каб я лужу пакідаў, так не бывала.
Вось як знойдзеш хоць якога сабе мужа,
ён і будзе працякаць на пакрывала.

* * *

Вось і пройдзена ўжо больш за палавіну.
Як сказаў мне раб стары каля піўное:
"Азірнёмся - ззаду ў нас адны руіны".
Погляд варварскі, ды правільны затое.

У гарах быў. І прыйшоў адтуль з букетам.
Адшукаю збан які, вады налью ім…
Як у Лівіі, мой Постум, або дзе там?
Ну няўжо мы і цяпер яшчэ ваюем?

* * *

Помніш, Постум, у намесніка сястрыца?
Хударлявая, ды з поўнымі нагамі.
Ты з ёй спаў яшчэ… Нядаўна стала жрыцай.
Жрыцай, Постум, і ўжо водзіцца з багамі.

Прыязджай, пап'ём віна, закусім хлебам.
Або слівамі. Пагрэешся на ўзмор'і.
Пасцялю ў садку табе пад чыстым небам
і скажу, як называюцца сузор'і.

* * *

Хутка, Постум, друг твой кіне памнажэнне,
доўг заплаціць свой, нарэшце, адыманню.
Адшукаеш пад падушкай зберажэнні,
ведай, там няшмат, якраз на пахаванне.

А тады на вараной сваёй кабыле
едзь у дом гетэраў, дружа мой харошы.
Дай цану ім, за каторую любілі,
каб аплаквалі цяпер за тыя ж грошы.

* * *

Зелень лаўраў ля запушчаных дарожак.
Дзверы зеўраюць, запылена аконца.
Крэсла кінутае, непатрэбны ложак.
Ды тканіна, што ўжо выцвіла на сонцы.

Понт шуміць за чорнай загарадкай піній.
Лодка з ветрам барукаецца ля мыса.
На рассохлай лаўцы ўсеўся Старшы Пліній.
Дрозд шчабеча ў шавялюры кіпарыса.

## *Міхась Зізюк*

### Ліпа цвіце

Дарога… Бясконцаю здаецца дарога. Адно з шумам праносяцца сустрэчныя машыны, слепячы святлом фар, ды напружана ўзвывае матор пры абгоне. Суцішваецца трывога, спакайнеюць думкі, іх бязладдзе пачынае збівацца ў нейкае невядомае рэчышча, якое падпарадкоўваецца тым жа невядомым законам. Пачынаеш думаць пра нешта адно, добра знаёмае і блізкае. Што для яго блізкае, да болю знаёмае? Вядома ж - яна, радзіма, родная вёска і бацькі. Гады ідуць, а расстанне з вёскаю так і застаецца стрэмкаю ў сэрцы.

Колькі ўжо мінула з таго дня? Пад сорак гадоў падбіраецца, здаецца. А запомніўся на ўсё жыццё. Ён, Валодзька Вайтасевіч, хлапчук тады яшчэ, лежачы на сене ў хляве, нечакана для сябе зрабіў новае адкрыццё. Нічога, здавалася, асаблівага, але ж. Ён усвядоміў, што жыццё не бясконцае - гэта раз, і што некалі яму ўсяроўна давядзецца развітацца з вёскаю - гэта два. Раней жа ён быў упэўнены, што так будзе заўсёды: ён, бацькі, брат з сястрою, родная хата, вёска - усе на сваім месцы доўга-доўга. Наколькі доўга - ён ніколі над гэтым не задумваўся.

Такое нечаканае адкрыццё агаломшыла. Час спыніўся, цішыня прыціснула. І вусцішна неяк зрабілася аднаму, жудасна нават. Ён не стрываў, спусціўся ўніз  і падыйшоў да адзінае блізкае жывое душы - каровы Мілкі, абняў яе за шыю, прыціснуўся шчыльна-шчыльна. І яна нібы зразумела, што хлопчыку ніякавата ў гэты момант: лізнула ў твар, пачухалася вухам аб худыя плечукі.

З чаго ўсё пачалося? У той дзень хавалі старшыню сельсавета, які нечакана памёр у саракачатырохгадовым узросце. І ім, школьнікам, таксама загадалі ісці на пахаванне: несці партрэт памерлага ў чорнай рамцы, жалобныя вянкі, жывыя кветкі. Наперадзе паважна крочыў стары калгасны брыгадзір Харламецкі, трымаючы ў руках крыж з датамі жыцця. Валодзька ішоў разам з аднакласнікамі, бачыў белы і нейкі зусім чужы твар нябожчыка, яго злёгку пасівелыя скроні, заплюшчаныя вочы, услухоўваўся ў ледзяняча-жалобныя гукі духавога аркестра, і яго сцінаў незразумелы страх.

Але чым жа яго так уразіў нябожчык? Тады ён не ведаў. І вось цяпер прычына нечакана адкрылася. Ён ляжаў, думаў, разважаў пра тату, маму… І сэрца абарвалася. Тата ж амаль равеснік старшыні, на год усяго малодшы. Дык выходзіць, што і тата можа памерці ў любы момант. І мама, і брат, і ён сам. Як жа так? Няўжо іх не будзе? Няўжо жыццё будзе працягвацца без іх? Так не павінна быць, такога не можа быць. І Валодзька ледзь не заплакаў.

А яшчэ ён узгадаў, што тата нярэдка нагадвае: вучыся, сынок, вучыся, калі не хочаш да канца жыцця поркацца ў гноі. Вось вывучышся, паступіш у інстытут і застанешся ў горадзе. Усе з'язджаюць, і ты паедзеш. А ён не хацеў, хоць падсвядома адчуваў: так, хутка і яму прыйдзецца пакінуць вёску, ён зробіць так, як і большасць яго аднагодкаў. Усе, дакладней, амаль усе едуць у горад у пошуках лепшай долі. Няўжо ніхто з іх не спыніўся, не азірнуўся на вёску, на бацькоўскую хату?

А тут усё сваё, роднае. Валодзьку падабаецца ляжаць на свежым, мяккім і пахкім сене, адчуваць пад сабою водар мінулага лета, слухаць, як у хляве шумна ўздыхае карова, як за

сцяною на курасадні кешкаюцца куры, як у загарадзі сонна парохкваюць парсюкі, а праз маленькую дзірку ў страсе відаць далёкую зорку. Зорка тая свеціць і грэе душу ўжо каторы год, як грэе яго ўтульная і цёплая печ, дзе маці штораніцы пячэ дужа смачныя і пульхныя бліны. А які ўтульны і блізкі родны двор, дзе ён ведае кожную дзеравінку, кожную былінку.

Яму падабаецца гойсаць з сябрамі на рэчцы, лавіць прагных і хуткіх акунёў, бяскрыўдных пячкуроў. Любіць ён лета, калі спякотнаю парою гудуць пчолы над ліпаю, што зялёным шатром атуляе старую дзедаву хату. І чуецца ў тым гудзенні нейкая дзіўная музыка. Таму ўпотайкі ён узлазіць на ліпу і слухае, слухае, як завіхаюцца над кветкамі руплівіцы-пчолы. Валодзя не баіцца іх, ён ведае: галоўнае - не перашкаджаць ім, не замінаць. Ён сядзіць і проста назірае, глядзіць, як пчолка кружляе над кветачкай, як садзіцца на яе, шукае нектар, як цяжка ўздымаецца і знікае ў лістоце з каштоўным грузам.

Любая сэрцу і тая, ужо не ўзапрэлая восень, калі знемагае гарачыня, і, канчаткова скаціўшыся пад адхон, аддае належнае месца ціхім і мяккім вераснёўскім дням, лагодным і яшчэ цёплым начам. Калі ўсе гэтыя дні і ночы пахнуць скошаным бульбоўнікам, крыху падвялаю атаваю, грыбамі і нязменным водарам буйное антонаўкі. Тады яшчэ зранку чамусьці трывожна і працягла крычаць свойскія гусі, махаюць крыламі і з гучным гаганнем спрабуюць падняцца ў паветра. А вясковая вуліца поўніцца асеннім клопатам, мяхамі і дзецьмі з заплечнікамі. І толькі гэтак жа хапатліва грэбаюцца ў пяску куры, ды бестурботна адлежвае бакі руды суседскі кот.

А якія цудоўныя зімовыя дні наперадзе. Калі першы крохкі асенні лядок з настылымі камлыгамі ў брудных калюжынах змяняецца свежасцю першага снегу, які ціха і асцярожна ўкрывае шэрыя стрэхі, блізкае поле з азімінаю, чорны самотны альшанік на лузе за вёскаю. Калі радасць новага дня адчуваецца напоўніцу, бо ты дыхаеш і не можаш надыхацца бадзёрачым, ясным і празрыстым, як крынічная вада, вясковым паветрам. І бель заварожвае, прымушае спыніцца, глядзець на яе да рэзі ўваччу і салодкага болю ў сэрцы.

Любата, калі першыя вясновыя дні прыносяць адчуванне нечага новага, нечага даўно чаканага, якое наступае, але так ніколі і не наступіць. І весялее хрыплае вароніна карканне, узбуджана скачуць і ціўкаюць на хлеўчку вераб'і, задзірыста трасе грэбенем певень на кучы гною. Капяжы ўсё часцей нагадваюць пра радасць і хуткаплыннасць вясновых дзён, снег сцішана і пакорліва асядае пад наступам такога цёплага і лагоднага сонца.

Ехаць, куды ехаць? У якую такую далеч? Але ён паехаў. Ужо ў дзесятым класе на прызыўной камісіі ўгаварыў яго вясёлы ваенкаматаўскі капітан паступіць у ваеннае вучылішча. Як па праўдзе, то была ў яго на той час нейкая дзіцячая цяга да зброі, магутнай вайсковай тэхнікі, хацелася паспрабаваць сябе ў сапраўднай "мужчынскай справе", як гэта тады яму ўяўлялася. Ён паступіў. Не адразу далася вясковаму хлопцу нялёгкая вайсковая навука, але беларуская цягавітасць і настойлівасць прынеслі плён: паспяхова скончыўшы вучылішча, малады лейтэнант паехаў на невядомы Далёкі Усход.

Але вёска так і не адпусціла яго. І ў першыя месяцы вучобы, калі было асабліва цяжка, і пасля, калі ён ўцягнуўся ў навуку і муштру, і на службе ў далёкай старане. Пасля паступлення кінуць было ніяк - сорамна, брыдка. Паступіў з такой цяжкасцю, бацькі ганарыліся ім - як-ніяк, сын афіцэрам будзе, на свой хлеб пайшоў. А потым, уцягнуўшыся, імкнуўся за лепшымі, дый з'явілася цікавасць да навукі, цяга да вайсковага жыцця, такога новага, нязведанага. Вучоба далася лёгка, а сяброўства і сталенне прыносілі радасць. Туга па вёсцы прыхавалася ў закуток, іншым разам асцярожна выглядаючы адтуль лёгкімі хвалямі шчымлівай тугі.

У гарнізоне турбот хапіла праз край - дзень і ноч у казарме, стрэльбы, пастраенні, бясконцыя клопаты з салдатамі. Здавалася, яшчэ трошкі, яшчэ крупельку, а там будзе лягчэй - падзабудзецца вёска. А яна нярэдка прыходзіла ў снах, нагадвала аб сабе скупымі лістамі з дому ды ўспамінамі пра яе. Першы лейтэнанцкі водпуск выпаў на зімовыя халады. Як тады ў войску жартавалі: "Во дворе январь холодный - в отпуск едет

ванька-взводный". Якраз такую пасаду ён займеў па заканчэнні вучылішча. Выйшаў з аўтобуса, і сэрца здрыганулася, як і ў першы курсанцкі водпуск: ліпа, яе здалёк бачна, яна першай сустракае. А там родная хата з пафарбаванымі ліштвамі, светла-блакітнымі паркалёвымі фіранкамі ды новымі дубовымі веснічкамі - бацька расстараўся некалькі год таму.

Ён тады ўволю насалодзіўся хадою па заснежаным лесе, мясцінах, знаёмых з ранняга дзяцінства. А куды больш было ехаць ці ісці? Старэйшы брат, што нядаўна ажаніўся, жыў побач, у райцэнтры, сястра вучылася ў Мінску, аднакласнікі амаль усе раз'ехаліся. А дома тою парою якая работа? Таму толькі так, няспешным крокам па вясковых прасторах, можна было адвесці душу. Пасля ён доўга ўспамінаў той першы і ці не адзіны бесклапотны водпуск. Бо літаральна праз год сустрэў сваё каханне, ажаніўся, следам пайшоў на новую пасаду. А там пакацілася звычайнае жыццё вайскоўца: гарнізоны, пераезды, дзеці, новыя пасады, новыя службовыя клопаты. Але ўпрогся ў воз, то цягні. І ён цягнуў. Марыў: вось выйдзе на пенсію - і адразу ў вёску. І больш нічога не трэба. Тады зноў будуць ціхія раніцы над соннаю рэчкаю, белыя клубы млявага і цёплага туману, галаснае кліканне вясковых пеўняў ды працяжнае каровінае гуканне. А ўдзень з асалодаю можна разлегчыся пад ліпаю, папіць халоднага, з кіслінкаю, бярозавіка са старога вышчарбленага кубка. І павячэраць кругленькаю і чамусьці вельмі смачнаю - бо свая ж! - бульбачкаю з кісляком ці маласольнымі гурочкамі ў кропе. Ці можна параўнаць вось такое жыццё з нейкім іншым. І, галоўнае, гэта не прыхамаць. Ніхто не верыў яму, але ён ніколі не марыў жыць так, як мараць многія: у багата аздобленым палацы з разнамаснаю прыслугаю, з круасанамі ды каваю ў вытанчаных парцалянавых філіжанках? Не, хто ніколі не жыў у вёсцы, той не зразумее прыгажосці і шчасця вясковага жыцця. А ён разумее, і ўсё ў яго яшчэ будзе. Так, прынамсі, яму думалася.

Чалавек маракуе, а Бог выракуе. Пасля вірлівых падзей дзевяноста першага ён хацеў пераехаць у Беларусь, на радзіму, каб там даслужваць. Трэба было мяняць грамадзянства, у чар-

говы раз зрушвацца з абжытага месца. Таму жонка заўпарцілася, папракнула дзецьмі. Да таго ж яна, руская па нацыянальнасці, не хацела ехаць туды, дзе іх ніхто не чакаў і нічога не абяцаў. Ён здаўся: чым не паахвяруеш дзеля сям'і.

Нічога вечнага няма, скончыліся і доўгія блуканні па гарнізонах: урэшце, разам пагонамі падпалкоўніка, ён атрымаў новае прызначэнне - у Вязьму. Ён радаваўся - бліжэй да радзімы. У Вязьме яны займелі добрую кватэру, там выраслі дзеці. Сын пайшоў па яго слядах, абраўшы прафесію вайскоўца, праз два гады дачка паступіла на архітэктара. Адразу пасля яе паступлення ён падаў рапарт на звальненне. Мара была адна - перабрацца ў вёску, дзе дажывалі свой век бацькі, куды прагла душа. Але жонка нават слухаць не захацела. Яна не любіла вёску і за ўсе гады сумеснага жыцця была там толькі два разы. І калі жонка паставіла пытанне рубам, ён зноў змірыўся, вырашыў яшчэ пачакаць: трохі дапаможа дачцы стаць на ногі, дый і ў сына хутка выпуск. А тады паедзе, што ўжо будзе, тое будзе. Падчас службы ў вёсцы бываў раз на два-тры гады, вырашыў, што цяпер будзе там часцей. Але пакуль не атрымалася, хоць і прыдбаў машыну: знайшоў працу, трэба ж недзе рабіць.

Сёння раніцай патэлефанаваў брат. Шмат не гаварыў, адно нейкім здушаным голасам паведаміў: тату блага, прыязджай, астатняе пры сустрэчы. Штосьці абарвалася ўнутры пасля званка, з паўгадзіны ён сядзеў і не ведаў, што рабіць. Улагодзіўшы ўсё на працы, як навобмацак, скінуў у валізку нейкія рэчы, дакументы, грошы і выехаў з горада ў другой палове дня. Толькі ў дарозе неяк адпусціла, ён паспакайнеў. Брат больш не турбаваў, можа, бацьку і палепшала. Ах, як добра было б, калі гэта так. Ён адпрасіўся з работы на цэлы тыдзень. Калі што якое, пакладуць старога ў бальніцу, падлечаць - грошы ёсць. Бо ў апошні свой прыезд ён не паспеў добра нагаварыцца з татам, распытаць старога, усё былі нейкія клопаты, усё ўподбежкі.

Даехаць збіраўся яшчэ да змяркання - лета ж - але зборы і мяжа змарнавалі колькі часу. Таму і прыпазніўся. У святле

фар праскочыў дарожны знак - да вёскі засталося трыццаць кіламетраў, усяго нічога. І тут зняцейкі яму падалося, што пад колы аўтамабіля штосьці кінулася - мільгнуў няясны цень. Устрывожаны, спыніўся. Абыйшоў вакол машыны, агледзеў дарогу - не, нічога, здалося. А трывога не пакідала. Трэба паспяшацца.

Фары высвецілі ліпу. Акурат трапіў на цвіценне. Не здаецца, родная. Колькі ж ёй? Некалі дзед пасадзіў у маладыя гады каля сваёй хаты. Дзеда пахавалі амаль дваццаць гадоў таму, калі яму было каля васьмідзесяці пяці, і хату знеслі ўжо, а яна жыве. Ён нават і не ўяўляе родны двор без гэтай ліпы. Патухлі фары, усё навокал патанула ў цемры, толькі падае на вуліцу святло з вакон бацькоўскай хаты. Ляпнулі дзверы - паказаўся брат. Падыйшоў, абняліся.

- Як там тата?

- Цябе чакае.

Выбегла маці:

- А мой ты сынок! Бачыш як, злёг наш бацька, слабы надта. Нарабілася так. Што ж гэта будзе?

Згорбіўшыся, усхліпнула, жаласліва неяк.

- Можа ты паеў бы што з дарогі, га? Я падагрэю.

- Не трэба, мама, не галодны я.

Ён абняў маці, увайшоў у хату. Тата ляжаў на ложку, каля яго сядзела сястра. Памкнулася да брата, а ў самой у вачах слёзы. Чаму яны ўсе так, нібы на пахаванні? Зноў успыхнула трывога. Сястра абняла.

- Здароў, брацік.

Тата слаба ўсміхнуўся: схуднелы, адны вочы, ледзьве падняў руку для прывітання.

- Бач, як яно. Першы раз сына сустракаю лежачы.

- Нічога, тата. Заўтра мы цябе ў бальнічку, падлечым, паставім на ногі. Яшчэ пабегаеш.

- Адбегаў я сваё, сынок.

- Не кажы так. Я на цэлы тыдзень прыехаў. Мы з табою яшчэ столькі зробім, ты ж яшчэ мне павінен расказаць пра ўсе вясковыя навіны. Як ты?

- Баліць надта.

Ён пасядзеў з паўгадзіны са старым і заўважыў, з якой цяжкасцю давалася таму кожнае слова. Такім слабым і бездапаможным ён бацьку ніколі не бачыў. Сястра прынесла старому нейкія лекі, ён выйшаў на вуліцу разам з братам. Яны паселі на лаўку пад ліпаю.

- Не хацелі табе тэлефанаваць, як даведаліся. Даўно яго брала, а ён жа нікому не казаў. Ты ж яго ведаеш, ніколі не паскардзіцца. А тыдзень таму, калі зусім зблажэў, маці патэлефанавала. Адвёз яго ў раённую паліклініку, а там толькі рукамі развялі. Жывы нябожчык, сказалі. От так.

Брат змоўк, выцягнуў цыгарэты, закурыў, зацягнуўся, і кончык цыгарэты ярка ўспыхнуў у цемры. А тата ж таксама любіць ліпу, бярог яе. Неяк пярун ударыў у самы верх, адшчапіла тоўстую галіну. Дрэва з верхавіны сохнуць пачало. Дык ён наверх лазіў, нечым замазваў, лячыў. І адыйшла. Не раз улетку, азірнуўшыся на яе, задаволена казаў:

- Уга, цвіце ліпа, хараша цвіце. Жывем яшчэ.

Цішыня і ліпавы водар неяк прыцярушылі нядобрыя і цяжкія думкі. Эх, вось сесці б тут, пад ліпаю, усім разам, пагаманіць. Тата любіць паразважаць, расказаць пра вёску, пра тое, што было некалі. Усё не атрымлівалася, адкладвалася на пасля, на потым. А пасля не наступіла, не паспеў ён на тое пасля. І ці паспее?

Будзем жыць. Толькі як? Што рабіць? Раптам штосьці прымусіла яго навастрыць слых. Няйнакш, нехта плача. Дзе гэта? Брат падскочыў, шпурнуў недакурак.

- Тата!

Яны кінуліся ў хату. Плакала сястра, маці выцірала ражком хусткі слёзы. Татаў твар, сцішаны навек. Нібы заснуў, толькі нос нейкі не татаў, завастрыўся. І спрацаваныя рукі знерухомелі.

Ён не змог доўга стаяць у хаце, выскачыў на вуліцу, хацеў памкнуцца, каб некуды пайсці. А існі больш няма куды, ён жа дома. Хата, да якой ён не даехаў. Пасля, якое пакуль не наступіла. І толькі ліпа цвіце. І бацькава: “Жывем”.



*Раіса Крывальцэвіч, нарадзілася ў 1960 г. у в. Слухавічы на Наваградчыне.*

*Вучылася ў СШ №1 г. Наваградка. У 1982 г. скончыла вучобу на гістарычным факультэце Менскага пед-інстытута імя М. Горкага. Працавала настаўніцай.*

*Аўтарка дзвюх кніжак: "Дарога" (2014) і "Блізкі свет. Хатні слоўнік-успамін".*

# ***Раіса Крывальцэвіч***

На двары - Восень 2021-га. Надышла нечакана, як гэта часта бывае ў нашым жыцці. Каб пагрэцца на сонейку бабінага лета, зазірнула ў дзённік свае душы. Вяртаюся ў мінулыя восені і дзякую Нябёсам, што ніколі не пакідаюць нас - любою парою размаўляюць з намі мовай Любові…

* * *

Ніколі не любіла"замалёвак," цярпець не магла апісанняў прыроды, старалася прапусціць іх у кніжках, якія "глытала". Даўно гэта было. А зараз… Здаецца, што гэтыя некалькі радкоў - самыя каштоўныя, бо ты не магла іх не напісаць, яны выспелі ў тваёй душы…

* * *

Кляновы лісток згубіў фарбы, выцвіў, пабляк, паляжаўшы пад дажджом і холадам. Хутка ператворыцца ў мокрую плямку - адбітак  на асфальце. Але гэты сыход - пачаткам новага жыцця, бо вясной з'явіцца новае, маладое лісце…

Увосень адчуваеш сябе рамантыкам і філосафам адначасова. Шматгранная Восень-пара. У верасні апынаешся ў гарачых абдымках лета, кастрычніцкім дажджлівым вечарам разумееш, што лета не вернецца, лістападаўскі парыўны вецер,  пах апалага лісця вяртаюць у пачатак вясны …

Восень - час спеласці,час жніва. Пара ўспамінання і памінання, агледзінаў пражытага і пераржытага.

Восень жыцця падкрадаецца няспешна, надыходзіць няўмольна. Перадзім'е… Аднойчы прачынаешся, а восень ужо скончылася. Рыса падведзена -  белым снегам па чорнай зямлі…

Няхай за гэтай рысаю яшчэ ставяцца новыя коскі, пытальнікі і клічнікі, з якіх складаецца хвалістая лінія Жыцця.

… І надыдзе новая Восень…

*4 лістапада 2009 г.*

* * *

Восень плача
Дажджом -
Не сустрэлася
З Летам.
Зазірае ў вокны -
Можа, Лета
Засталося ў сценах
Дамоў.
Слёзы на шыбах.
Пайшла,
Не застаўшы.
*1 верасня 2010 г.*

**Каштаны ў верасні**

Канец верасня.  Горад засыпаны каштанамі. Яны  быццам згаварыліся, сталі хуліганістымі - страляюць калючымі вожыкамі схаваных усярэдзіне пладоў, барабаняць дажджом па празрыстых пласцікавых  стрэхах гарадскіх прыпынкаў. Адзін

рыкашэтам грукнуў па сумцы - прымусіў усміхнуцца. Яшчэ смяшней было б, калі б па галаве… Смяшней не мне, а людзям на прыпынку.

На асфальце - спелыя, гладкія, карычневыя плады, якія хочацца заціснуць у руцэ і не выпускаць. Каштаны нарадзіліся, прыйшлі ў гэты свет. На зямлі - пустыя ракавінкі абалонкі, у якой жылі ўсё лета, гадаваліся і раслі. Мацярынскі паслед.

Падымеш каштанчык - апрануты ў зялёнае калючае адзенне, ён хітра вызірае з растрэснутай хаткі-схованкі. Заціснеш у руцэ цвёрдае брунатна - бліскучае цельца, бы талісман. Пабудзь са мною, Восень, расквець душу тымі дзівоснымі фарбамі, як ты зрабіла гэта з клёнамі. Я люблю цябе, раннюю…

А школьнікі, якія джгаюць раніцай у школу, ужо не кідаюць хіжым вокам на дрэвы - самі плады падаюць, няма патрэбы збіваць. Нехта акуратна пазбіраў каштаны ў горбачкі…

*30 верасня 2009 г.*

* * *

Першага кастрычніка. Дробны дожджык, імжа, халодны вецер. Можа, што Восень упала з неба на зямлю, так сумуецца…

На мокрым асфальце, у лужынах - рознакаляровыя зорачкі кляновых лістоў. Якое спалучэнне фарбаў! Здаецца, усё гэта ты бачыў не раз за сваё, аказваецца, не такое ўжо і кароткае, жыццё… Але не наглядзецца, не надзівіцца, не нацешыцца.

Бог гаворыць з намі фарбамі і формай. Здаецца, гэта Ягонае Боскае пасланне нам. Гэтыя пяць канцоў кляновага лістка - адбітак Ягонай Боскай далоні, расквечаны радасцю колераў - дабраславенне тым, хто на Зямлі: ідзіце, не бойцеся цемры і холаду, яны мінуцца!

*1.10.2009 г.*

**Снег як птушкі**

Пасля дажджоў ад былога снегу засталіся на зямлі адно паўрасталыя, выгінастыя пляйстры. Здалёк і нават зблізку яны

нагадваюць белых птушак або коцікаў, якія разлегліся на траве…

*9 лістапада 2009 г.*

* * *

Лістапад. Чорныя голькі дрэваў хораша адлюстроўваюцца ў лужынах. Глядзяцца дзівоснымі карцінамі, калі зірнуць, быццам у люстэрка, у сталёвую гладзь вады.

Стаяў бы і ўзіраўся, калі б усяроўна было, што пра цябе людзі падумаюць.

Так некалі ў дзяцінстве зазірала ў шчылінку цацачнай пластмасавай альтанкі, якую старэйшая сястра прынесла са школы. Усярэдзіне, у нейкай невядомай далечыні можна было ўбачыць на фотаздымку сястрын твар, ён выглядаў зусім не так, як калі б яна стаяла побач…

*16 лістапада 2009 г.*

## Будзе зіма

*Калі бэз асыпаўся - будзе зіма (народная прыкмета).*

Бэз у скверы абляцеў. Увесь. Толькі некалькі зялёных лісточкаў на кусціках. Няўжо будзе зіма? Не верыцца, бо на двары дождж, то дробны, то моцны. Слота… Лужыны… Вада добра прамыла пясок на сцяжынках. А лісточкі бэзавыя так і ляжаць на зямлі зялёныя, не пажаўцеўшы.

Дубовае лісце - трывалае. Светла-карычневае, няломкае, пругкае, з выразнай "разьбой" па баках. Не баіцца людскіх ног і не збіраецца ўтоптвацца ў сцяжынку - гэта вам не пяшчотнае бярозавае. Добра, што прылятае на гарадскі асфальт, абмінаючы венікі старанных дворнікаў - весялей з ім…

У вялікіх вазах на гарадскіх вуліцах з'явіліся пухнатыя зялёныя лапкі хвойкаў. Цяпер яны замест летніх і восеньскіх кветак мінакоў цешаць. Вядома, не могуць сказаць чуламу сэрцу так шмат, як вочкі незабыўных анютак, але нагадваюць пра хуткае Раство, Новы год, пастаянства зменаў і змены ў пастаянстве…

*20 лістапада 2009 г.*

## Купанне галак

Учора была вясна. Цёмна-сінія разбэрсаныя аблокі імчаліся па небе, час ад часу праз іх прабівалася сонейка, а ў скверы, у глыбокай калюзе ля елак купалася вялікая гурма вясёлых галак. Відовішча было захапляльнае!

Стоячы пасярод лужыны, галкі радаваліся вадзе ўсім сваім птушыным цельцам: заглыбляліся дзюбамі ледзь не з галавой, трапяталі распушанымі крыламі, білі хвастамі, беспярастанна ўздымалі вадзяныя фантаны і апускалі іх на сябе, на таварышаў.

Так улетку весяляцца малыя вісусы на возеры, б'ючы рукамі па вадзе, каб пырскі дасталі суседа…

*26 лістапада 2009 г.*

## Яблыні ўвосень

У завулку з выразнай назвай Прыгожы ля Магілёўскай у Мінску - Менску яшчэ захаваліся старыя драўляныя дамы і сады. На высокіх старых яблынях звісаюць нязнятыя яблыкі. Ярка-чырвоныя, яны абцяжарваюць голыя, пачарнелыя галінкі, прымушаюць іх хіліцца долу. Празрыстасць яблыняў з чырвонымі "бомбачкамі" яблыкаў на тле замглёнага восеньскага неба нагадвае пра хуткае Раство…

*Лістапад 2009 г.*

## Пачатак верасня

Пачатак верасня. Лета яшчэ не развітваецца да канца, зелянее дрэвамі. Здаецца, восень, мастачка ад Бога, трымае палітру з развітальнымі фарбамі напагатове, але пакуль не адважваецца… Прымерваецца, дзе і з чаго пачаць. Каб зноў уразіць.

Яшчэ не восень. Каровы, гаспадарскія Падласкі і Кветкі, яшчэ скубуць у полі шорсткую траву. Жабкі на сенажаці спакойныя за сваё жыццё - буслы "з'ехалі" ў Егіпет. Птушкі на права-

дах - як ноты ў дзіцячых сшытках маіх некалі малых Настулькі і Марылькі…

Золатам адліваюць бархаткі - аксаміткі ля вясковых платоў. Яны ўпрыгожваюць гэты свет да канца сваіх дзён, да маразоў. Пад прахалодным вераснёўскім сонцам палымнеюць у гародчыках вяргіні. Чырвоныя яблыкі залеглі ў разоры на шэрай зямлі. Скаціліся на зямлю аранжавыя, з жоўтымі паскамі-прамянямі сонцы-гарбузы.

Халоднае сонца ў шыбе вакна… Цішыня хаты… Пах печаных яблыкаў… Смак варанага ў струках бобу… Хто ж тады думаў, што гэта не назаўсёды, што не паўторыцца, будзе жыць успамінам…

Светлая шэрань узаранага поля ў сонечны пагодны дзень. Капаюць бульбу. У нядзельку. Калі ж яшчэ… Бялеюць штучныя мяшкі, напоўненыя бульбай - здалёк быццам войска на парадзе.

Еду дадому. Добра назіраць жыццё з вакна аўтобуса, гэтую ілюстрацыю да вечнага закону зямлі і неба: на ўсё свой час.

Наваградак. Прайсці каля "першай" школы… Медуніцы - мілыя школьныя кветкі, што пахнуць мёдам. Пад іхні водар, у пагодны дзень, узяўшыся пад ручкі, нарэзвалі на перапынку з сяброўкай Гладкай кругі вакол школы - нешта сакаталі, стралялі вочкамі наўкола і здаваліся сабе надзвычай дарослымі.

Родны двор. Мама капае бульбу - не чакаць жа дачок…

Непрывычны пасля гораду спакой. Чырвоная каліна ля студні, агеньчыкі шыпшыны каля плоту, празрыста-чырвоныя кроплі неабабраных за лета парэчак.

Яшчэ гучыць прыглушана ўрачысты аркестар з цыкадаў. Аднекуль далятае пах смажаных каласкоў - прысмакі дзяцінства.

А за хлявом у дровах і дошках, скіданых пад навесам, завёўся пах старасці. Яго не можа перабіць нават водар ссыпаных на траве яблык.Так пахла некалі ў маім дзяцінстве ў дзеда Юзіка і бабы Марылі ў Лешчанцы.

Я ў хаце. Схіляю калені перад алтарыкам, што вісіць у

зале на покуці. Маці Божая - абразок, дадзены маме некалі ў пасаг. Ці даўно стала зазіраць у вочы святым?

……………………………………………………

Нешта адбываецца з часам… Ці са мною… Няўжо толькі ўчора ехала да бацькоў, а сёння вяртаюся? Здаецца, тыдзень мінуў. Здоўжылася… Можа, ад таго, што пракручваецца мінулае жыццё, усе гады, што не вярнуць - не паправіць…

Вяртаемся назад, у Менск. Сонца лашчыць па-восеньску. Падаюць на дарогу цені ад прысадаў, што вядуць да вёсачкі. Алешыны пры рэчцы Рутцы, што ля Карэлічаў, яшчэ і не думаюць жаўцець. Недзе ў Вільні ходзіць мая сяброўка Рута, тоненькая, вузенькая, як гэтая рэчка…

Вільня, Вільня…"Скажы мэні,чому нэ можу
Забуты тэ, чого нэма?"

Кветкі ў полі… Жоўтых, рознага адцення, шмат. Купкамі-сямейкамі ля дарогі, на выгане, дзе кароўкі. Хвалююць, кідаюцца ў вочы сінія - надта ж люблю зорачкі цыкорыі.

Едзем праз вёску. Пры дарозе на імправізаваным прылаўку-скрыні - "дары восені": яблыкі, бульба, слівы жоўтыя, сінія… Вясёлыя часнычыны, задраўшы ўгору сцяблiны-хвасты, вышыхтаваліся ў рад. "Купляйце беларускае!"

А сонца раптам з-за хмаркі - вялікай нечаканай радасцю!

Яе Вялікасць Вечнасць… Яна ўзнікла з-за лесу хвалюючым заходам сонца на неспасцігальнай бясконцасці неба, прымусіла ўсміхнуцца, каб усмешкай прагнаць сум, які заўсёды агортвае ў гэтую пару, і сказала: "Убачымся заўтра!"

*Менск - Наваградак - Менск,*
*5-6 верасня 2010 г.*

## Бабіна лета

Пад музыку лёгкага ветрыку танчыць у лесе Восень. У сонечным паветры - завіруха з апалага лісця. Вясёлым кружэннем сыплецца яно з шалі танцоркі, нешта пяшчотнае нашэптвае зямлі, прытуляючыся да яе. Адзін жоўты бярозавы ромбік

прылёг на чорнавалосую галаву мае Марылькі, каб упрыгожыць.

Доўга праз лясны пах апалага лісця ідзём да возера. Хвалі б'юць у бераг, наганяючы белую пену. Добра разуцца і пахадзіць уздоўж берага ў прахалоднай вадзе, марачы пра марскі прыбой. Каляровы кляновы лісток, што калышацца ў вадзяной празрыстасці, не дае забыцца, што на двары - восень.

Котка Муся, па-свойму ўзрушаная боскай прыгажосцю дня, раптам разганяецца і апынаецца на высокай бярозе. Адпрацоўваем цыркавы нумар - Марыля ўзбіраецца мне на плечы і сцягвае з дрэва котку. Муся адразу робіцца паслухмянай - адчувае сваю віну.

Вяртаемся дадому. На вуліцы Мірашнічэнкі, дзе транспартная рака не заціхае ні на хвіліну, адзін тоненькі клёнік так засаромеўся пяшчоты прыгажуні-восені, што счырванеў да апошняга ліста. Стаіць, палымнеючы, і думае, што яму ўжо не вярнуцца ў той час, калі быў малады і зялёны, як ягоныя браты навокал…

*14 верасня 2010 г.*

* * *

Аднекуль прыходзіць -
Чуеш, набліжаецца? -
Стукае дождж за вакном.
Плача
Зусім не так, як у горадзе,
Калі ўспрымаеш яго
З вышыні сёмага паверха.

Начны матылёк
Распасцёр крылцы
На цёмнай
Шыбе вакна,
Быццам грэецца
Ад святла ў пакоі
*15.09.2010 г.*

**Успамін**

Познім вечарам збірала і перабірала яблыкі. Лайма не зводзіла з мяне адданых сабачых вачэй. Сачыла за кожным рухам, цярпліва чакала, калі прайду побач, хапала зубамі за руку і мякка, небалюча пакусвала. Асабліва цяжка было "сабачыцы", аж скуголіла, калі не магла дацягнуцца да мяне, што зусім блізкаваждалася з яблыкамі.

Вечар той быў незвычайны. Месяц сваволіў, жартуючы з хмаркамі, прытуляўся да іх то так, то гэтак. Даганяў кудлатага, вялікага, як сен-бернар, сабаку-воблак, каб стаць ягоным жоўтым вокам. Клаўся на спіну, як стомлены плывец, і з захапленнем пазіраў на далёкую недасягальную зорку.

Кацiная брацiя раздзяляла са мною радасць існавання. Малая пужлівая Бялянка старалася трымацца бліжэй, думала, што гуляю з ёю, адкатваючы ў бок падгнілыя яблычныя шарыкі. Чорны пухнаты Казік узляцеў на высачэзны, ростам з хлеў, сланэчнік і замёр пад сланэчнікавай барадою. Месяц уплываў на нас усіх…

*18 верасня 2010 г.*

* * *

Ідучы па горадзе
У жоўтым плашчы
Так лёгка ператварыцца
У жоўты кляновы лісток
З чырвонай аблямоўкай па баках
І ўзнесціся над жыццём,
Распусціцца ў восені
Спачатку пяшчотна прашаргацеўшы
Некаму міламу
Пад ногі.
*29.09.2010 г.*

* * *

Дажджлівымі пальцамі
Барабаніць па шкле восень,
Кляновыя зоркі
На мокрым асфальце.
Абдыму сябе
Адною рукою,
Пашкадую.
*Канец верасня 2010 г.*

* * *

З вакна -
Жывая карціна восені.
Няўжо аднойчы знікне
Яркая чырвань
І жаўцізна клёнаў,
Што выпраменьваюць святло
Нават, калі пахмурна.
*03.10.2010 г.*

* * *

Ярка-жоўтым пясочкам
У гадзінніку часу
Павольна і бесперапынна
Сплываюць лісты клёнаў
Ля школьнага двара.

Стары чалавек
З кульбаю
Сустракае тут раніцу -
Напаў адарваны лісточак.
*17.10.2010 г.*

* * *

Шэрхне пабялелая трава,
Зямлі холадна.
У ранішнім
Сонечным паветры
Танец жоўтых
Кляновых матылькоў.

Спяшаюцца прыкрыць
Зямлю
Сваімі бязважкімі
Крылцамі.
Міласэрнасць
У прыродзе.
*17.10.2010 г.*

* * *

Падгледзела,
Чакаючы
Зялёнага светлафора
На гарадской вуліцы,
Запоўненай
Шумам аўто
І людской мітуснёй,
Кастрычніцкі вецер
Жартуе
З апалым лісцем,
Што прыбілася
Да дарогі
І знерухомела.
Раптам
Захадзіла хвалямі,
Захвалявалася,
Быццам
Спрактыкаваны
Жанглёр у цырку,
Лёгка дэманструе
Хвалістую хаду
Вясёлай у ягоных руках
Чырвонай атласнай
Стужкі.

… А потым -
Вулічны пераход
Пад нагамі
І дасканаласць
Адарванага з дрэва
Лістка.
*28.10.2010 г.*

**У Вільні**

Снег у Вільні
Засыпае штучныя кветкі,
Што сведчаць на могілках
Пра памяць.
Мерзнуць прадаўцы
На базарнай вуліцы,

Што вядзе
Да Вострай Брамы.

Месца,
Дзе сустрэла цябе.
Так спяшалася тады,
Баючыся спазніцца.
Па высокіх сходах
Да Маці Божай
На хворых нагах
І на мыліцах.

Як цяжка з гадамі
Падымацца да Бога
Целам
І ўсё лягчэй
Душой.

У капліцы
Сціпла апранутыя
Немаладыя жанчыны
Страсаюць снег,
Ставяць у кут парасоны,
Прыветна ўсміхаюцца
Адна адной.

А потым пяюць
Хвалу Маці Божай
Голасам дрыготкім,
Адвечна жаночым,
Які чула ў свае мамы,
Складзены з любові
Да жыцця і да Бога.

На Неменчынес
Туляцца да кіёска
З назвай
"Karstai uzkandziai"
("Гарачыя закускі")
Два распушаныя галубкі,
Быццам умеюць чытаць.

У 19-м тралейбусе
Адразу некалькі моваў
З вуснаў аднае жанчыны.
Літоўская, руская - да мяне,
Польская - па тэлефоне:
"Na razie!"
Заканчваецца размова.

Беларускую чула
Аднойчы,
Адной серад трох.
Рознаколернасць моваў.

Вецер рве
Яркі сцяжок
На шапіку
З вуліцы Львово.

Здаецца,
Вось-вось ператворыць
У карабель
Хатку-кіёск,
Панясе разам
З танклявай кіяскёршай.
Ад непагадзі
Праз ярка-вясёлую лужыну,
У якой патанулі
Кляновыя жоўтыя зоркі,
Ва ўтульна-казённыя
Сцены гатэля.

Чакаю цябе,

Салодкая радасць
Чакання.

Вакно
У слязах дажджавых,
Якія хутка высыхаюць,
Бо
Ты прыйшоў.
*22.10.2010 г.*
*Wilnja, Hotel "Экатэль"*

**На яблыні**

Здымаючы
Апошнія,
Самыя смачныя
І самыя прыгожыя
Яблыкі,
Дацягнуцца
Да вышыні,
Не аддаць марозу.

У небе,
Бліжэй да птушак
І да дзяцінства
Тая ж радасць
Дзіцячая
Вяртаецца.
І думка:
Яшчэ магу
Узляцець
*25.10. 2010 г.*

* * *

На гарышчы
Так шмат яблык,
Накрытых
бацькавымі рукамі
Ад зімовага холаду,
Які вось-вось надыдзе.
Але мне патрэбныя
Цёмна-бардовыя,
Бясконца смачныя
І сакавітыя,
Каб завезці
У снежні
Табе ў Вільню

Цяпер разумею
Да канца,
Чаму сяброўка
Перадавала
Мінулай зімою
Квашаную капусту
Для свае дачкі
У Варшаву.

Такая вось
Матэрыялізацыя любові.
Прыадчыняю дзяружку
Ці, як казала
Баба Аўдоля,
Радзюжку,
І дзівосны водар яблык
Усплывае.

Пахне каханнем яблычным
У паветры,
Накрываю,
Супакоеная,
Далікатныя яблыкі,
Жывыя.
*1.11.2010 г.*

* * *

Па мокрых кляновых зорках
На асфальце,
Як па небе
Ты сказаў,
Што хацеў
Пачуць мой голас.
*10.11.2010 г.*

## З Мішкам

Канец верасня. Сонца прыграе. Жоўты матылёк трапеча крылцамі пад восеньскімі дрэвамі, нагадваючы адарваны лісток, што кружляе ў апошнім танцы, перш чым легчы на зямлю.

Адчуванне, як увесну: нешта павінна змяніцца. Прадчуванне свята, што набліжаецца, вось-вось пачнецца. Свята ўрачыстага памірання. "На клёнах зноў лісцё згарае…" Хлопчык-школьнік ідзе з букетам кляновага лісця. Потым яшчэ адзін…

Восень хвалюе не менш,чым вясна. Сум растання ўзрушвае, як і радасць нараджэння. Прыгожае ўсё гэта. Боскае. Водар апалага лісця цешыць гэтак жа, як і пах першых маладых лісточкаў

Тоўстыя таполі не даюць ветру разгуляцца на зямлі - размаўляюць з ім наверсе. На сонцы горача, як улетку. Конікі-цвыркуны звіняць у траве. Аса кружыцца. Чырвоная канюшынка цвіце.

І ўсё ж гэта восень. Бо падае лісце, і прыемная жанчына-дворнічыха штодня збірае яго ў ружовую посцілку. Яна ў акулярах, якія так вабяць малога Мішку... Усё большаюць шапаткія лісцёвыя горбы-капцы.

Ля кургана з лісця знаходжу вялізны ружовы яблык - восеньскі падарунак ад старой яблыні. Яна высокая, з такім здрабнелым лісцем, што прыняла яе за ліпу. Прыемная нечаканасць… Гэта мне за тое, што Мішку даглядаю.

Дворнікаў сам-насам з восенню пакінулі. У іх супраць апалага лісця зброя ёсць - зручныя шчыльныя граблі. Дзядзька з дзіцячага садка шчыруе імі на асфальце - Мішка ізноў моцна зацікавіўся…

Жанчына-дворнічыха працуе доўга. Маладзейшы за яе мужчына спыніўся паразмаўляць. "Бярэш трохлітровы слоік, кіпяціш…" О, гэта сумна, калі тэмай гутаркі робяцца закаткі. А можа, не важна, пра што, галоўнае - прыязная размова…

Мішка спіць,закалыханы восеньскімі дрэвамі, у вазку. Цені ад дрэваў гуляюць у сонечным святле па Малым. Дзяўчынка пайшла са школы. На твары задаволенасць - адвучылася на сёння! Старэнькая бабуля ледзьве ўскараскалася на горачку. Пастаяла, аддыхалася. Рушыла далей.

У верасні прылятаюць каштаны - восеньскія госці. Яны падаюць з неба. Удар аб зямлю змякчаецца калючкамі-шыпамі, што на "касмічным апараце". Бумс! Прызямліліся. Пры сустрэчы з зямлёю касмічны апарат раскрываецца - расколваецца каштанавы дамок. Ідзеш па сцяжынцы, а на ёй - неміргаючае каштанавае вока. Карычневае, сур'ёзнае, з белым павекам-шкуркай - усланай белай прасціною ракавінцы. І вейкі-калючкі над вокам.

Цяпер разумею, чаму паводле друідаў ты - каштан. Каштаны - вандроўнікі, касманаўты. Яны вяртаюцца на зямлю. Яны хочуць, каб іх чакалі, любілі. Ты так казаў пра сябе ў той кастрычніцкі вечар…

І сапраўды, іх тут чакаюць, ім радуюцца, з іх цешацца і малыя, і старыя. Бабулькі, што прагульваюць унукаў, падскокваюць угору, як маладыя, стараючыся займець для дарагой душы жаданы плод.

Каштаны - каштоўныя камяні восені. Яны розныя - вялікія, як смачныя шакаладныя цукеркі з дарагой каробкі (пушкі), і зусім маленькія, як гузічкі ў жаночым каптаніку, "каштанавага" колеру або цёмныя да чарнаты. Нават светлыя трапляюцца.

Дзяўчынка ў модным плашчыку вяртаецца з заняткаў, з

радасцю паведамляе па мабільніку: такі дзівосны каштан толькі што падабрала - амаль белы, альбінос!

…. "А мы будем выяснять, из чего состоят каштаны?" Гэта ў наваградскім парку дзеці выйшлі на шпацыр з настаўніцай. Усё павінна быць па правілах - з пазнавальнаю мэтай. Хлопцы далёка наперадзе, яны хочуць адкрываць гэты свет самастойна. Дзяўчынкі ціснуцца да настаўніцы, а пытанне задала тая, што туліцца найболей. Аднакласніцы дапамагаюць настаўніцы трымаць хлопцаў пад кантролем - жаночая салідарнасць!- груба аклікаюць іх. Настаўніца грае сваю ролю - дзеліцца сціплымі ведамі пра каштаны: "Некоторые их едят… У нас это не принято. Это на любителя".

Каштаны - вузкія карычневыя шчылінкі прымружаных вачэй у зялёным шары-вачніцы. Мішкава мама прыкладае іх да сваіх вочак - новы, восеньскі пагляд.

Сухі каштанавы лісток заблытаўся ў коле дзіцячага вазка. Яшчэ адзін падае на вазок, і Мішка, доўга не чакаючы, адпраўляе яго ў рот. Малы яшчэ. Падгадуецца за восень...

*25 верасня 2011 г.*

* * *

Празрыстасць думкаў,
Празрыстасць пачуццяў.

Клёны восеньскія
Іскрацца, гарацць фарбамі
Толькі на сонцы.
*1.10.2011 г.*

* * *

Сам-насам з Восенню
Іду па алеі парку,
Ужо мроіцца:

Бардовая чырвань клёнаў
Хутка ляжа пад ногі.

Здаецца, ззаду засталася
Маленькая хатка,
Аблытаная серабрыстым
Павуціннем
Успамінаў.
Там жыве Лета.

У ейным вакне
Не тухне агеньчык
Цяпла,
Што ты падараваў мне аднойчы.

Туды заўсёды можна вярнуцца,
Калі стане холадна.

А пакуль
Сонечныя блікі асляпляюць,
Песціць лагодны ветрык.

Бабіна лета….
*13.09.2011 г.*

* * *

Верас у верасні лілёвы, як атрамант.
Раней пісалі атрамантам.
Мы ўжо - чарнілам.
Забыліся на старое слова.
Ты раздаваў чарнілкі ў класе?
Адчуваў сябе важнай асобай?
І памятаеш,
як трэба чысціць аб пёрачыстку пяро?
А калі на ім павісала смяцінка -

Адбываласяя КЛЯКСА.
Тады без прамакаткі
Не абысціся.

Дзе нашыя дзіцячыя рукі
У чарнільных плямках?
*31.09.2011 г.*

**Настрой**

Бабінае лета закапрызіла. Стамілася цешыць і ўлагоджваць. Раніцай моцна захаладала, а ўдзень пайшоў дождж. Шэры, нудны, халодны. Вецер дадаў восеньскай безвыходнасці: наляцеў, пагнаў хвалямі высокую траву, сагнуў кусты лілёвых і жоўтых кветак. Так сцямнела ў двары ад хмарнага неба, што і ярка-чырвоная сонечнасць кляновых вяршалінаў не ратуе.

Падлеткі панасоўвалі капюшоны, уцяклі з арэляў. Курткі і джынсы выручаюць! Усе, прыгнуўшыся, імкнуцца да дзвярэй дома, машыны. Дык вось чаму так моцна хіліла да сну!

… А дождж скончыўся. І на душы пацяплела. Проста трэба памятаць, што ён - не назаўсёды…

*24.09.2011 г.*

* * *

Нахмураны дзень
Раптам расплакаўся,
І пасвятлеў яго твар.
*15.11.2011 г.*

**У Наваградку - туман**

Рваны, згублены свет. Зліццё ў вадно. Патананне. Гублянне абрысаў. Не размаітасць - размытасць. Заблуканасць. Расталасць. Знікненне. Завільготненасць. Шэрасць. Прывіднасць. Туман…

Аўтобус нясецца з раніцы па дарозе, а па баках - туман. Выйсці з аўтобуса, збочыць і праваліцца. Проста сысці з краю дарогі і знікнуць у тумане…

Туман крадзецца на мяккіх лапках па горадзе і туманіць, туманіць… Затуманьвае далягляд. Паглынае, скарачае прастору і без таго кароткага лістападаўскага дня.

Туман - неба, што засумавала па зямлі.

Атульвае мякка, пяшчотна - і вось ужо ліхтары на плошчы павіслі ў паветры. Абняў Замкавую гару і схаваў у абдымках - яна з вышынёй злілася. Асеў у глыбокім рове вакол замка, залёг, бы вораг падступны.

Туман топкі. У тумановым балоце дарогі блішчуць ноздрамі-фарамі бегемоты-аўто.

Туман сівы. Тульчыць - топчацца, як стары нямоглы дзед, развешваючы запраную да дзірак, зношаную кашулю.

Туман - самотны. Бы сабачка прыблудны - туліцца да плоту.

Туман турбуецца - хоча апярэдзіць той дух, што йдзе ўвечары з печаў сціплых наваградскіх хатаў. Яшчэ паспее прапахнуць комінавым дымам, абняўшыся з ім па-братэрску ў вільготным паветры позняй восені.

Брыду ў тумановым тунэлі. Уперадзе - постаць жанчыны, так падобная да мамінай. Доўгае, "з разрэзам", паліто на худзенькіх плячах, хустачка, доўгія халявы боцікаў і ад таго - характэрная паходка маленькай беларускай жанчыны, руплівай і працаванай. Мама сустракала мяне з аўтобуса ў восеньскія вечары…

Туман учора, туман сёння…

"Туман… Але хоць пылу няма…" Бацька з раніцы згадаў

мусіць, пра "пыль да туман"… Бацька не любіць тумановай вільгаці. Кажа, што туман з'ядае людзей, як памідоры. Тумановы стан надвор'я мае ў яго дакладную характарыстыку: "Азыро". Сёння - азыро.

І чым вечар бліжэй, тым гусцей тумановае цеста. Да неба расце і хавае гару, на якой - Наваградак…

*25.11.2011 г.*

* * *

Хутка настане час астраў - рознаколерных восеньскіх зорак…

*12.08.2012 г.*

**Восень у Слухавічах**

Восень. Шчымліва-ўтульна пахне дымком, як заўсёды тхне ад вясковага жытла, калі прамінае лета.

Усё паўтараецца. Гэтым летам вывела формулу шчасця. Яно - у паўтарэнні шчаслівага...

Верасень. Дзе-нідзе дзьмухаўцы расцвілі. Бы вясна зноў настала. Толькі не пялёстачкі ружовыя з яблыняў аблятаюць пад подыхам ветру - яблычкі ляцяць. Не па аднаму, а яблыкападам, грукаценнем. Ту-ду-дух! - і замерлі ў зялёнай траве ці на шэрай раллі.

Ізноў загарэла. Апошняй загарай ранняй восені - ужо не садзячы, не полючы, а "жнучы". Сціплае маё "жніво"…

Ізноў збіраю яблыкі. Жарты - дзевяць яблыняў! Бялянка апетытна хрумсціць на траве варанай рыбінай галавешкай.

Зноў заліваюцца на антэне - на самым краёчку, бліжэй па натхненне да Неба - восеньскія птушкі. Ці не дразды гэта? Альбо шпакі так у лесе адкарміліся? Дрэнна ведаю птушак. Новы кватарант выглядае з пакінутай шпакоўні. Калі б не бачыў іхніх доўгіх закручастых на канцы дзюбаў, а толькі слухаў пералівы - трэлі ды высвістванне, сказаў бы: шпакі - нагэтулькі

аднолькава апяваюць яны радасць жыцця, трымцяць крылцамі.

Калі ў восеньскай цемры іду па ваду - цешаць пахам мацейкі-вячэрнікі. Нагадваюць пра лета.

Яшчэ нядаўна кветкавы водар прылятаў з-пад брамкі, лёгка завярнуўшы за рог, ажно да дзвярэй хаты, на лаўку, дзе любіла пасядзець увечары.

Летась гэтыя сціплыя на выгляд, але такія духмяныя кветкі цвілі ў суседзяў, і калі аднойчы жнівеньскім вечарам вярталася дадому, яны пахлі - хіба забудзешся! - Шчасцем!

*15.09.2012 г.*

## Зманлівы верасень

Зманлівы ён, верасень. Учора - сонца і лета, сёння - туман і восень з самай раніцы. Сумна кракаюць вароны, змрочныя хмары хаваюць неба. Затое другая палова дня - лагодная, з сонейкам. Мо, так і жыццё маё…

Калі па вадуісці ўдзень, то ўзрадуе на градзе сярод зялёнай травы апошні чырвоны мачак. Апошні, таму такі каштоўны. Чатэры яркія пялёстачкі калышуцца пад верасьнёўскім ветрыкам. То надзьме ён іх, бы круглы балёнік, і тады з мяккай чырвонай прыгаршчы пялёсткаў вызірне чорны павучок сарцавінкі, то нахіліць, заламае пяшчотныя кветкавыя лапінкі, і глядзяцца яны тады як аблавухія вушы старога сабакі, што выскачыў брахануць на нас для парадку, калі ішлі сёння з Людкай у грыбы.

Мілая мая кветачка… Аскепачак лета… Цешыш, як Пачуццё - ёсць яно, ёсць, не знікла! Грэеш сярод восеньскай сонечнай прахалоды. Цвіцеш, бы Кветка Любові ў сэрцы - тонкая, далікатная, пяшчотная…

*16.09.2012 г.*

## Капатальніца

Хіба гэтае калупанне з рыдлёўкаю і драпцамі можна назваць копкаю бульбы? Зямля не родзіць без любові: пасадзіла

бульбу - выкапала гарох... Ці падыходзяць тут сур'ёзныя словы "капатальніца", "выгарацъ"? Нават бульбяніку - "гічоўя" - не знайсці - выдрала разам з зеллем, што буяла на прыволлі зялёным дыванам. Цяпер капаю ўсляпую…

Бульба глыбока, "на тым свеце", як мама казала. Дробная, уклееная ў балота, - дождж прайшоў - праз дзірку ў кошыку правальваецца. Мама, каб устала, перацягнула б па спіне драпцамі ад прыкрасці. Як спераза́ла б! Не - уганасіла б - уклала б усю злосць! І пайшла б я са слязьмі ў хату…

Але мама пайшла на вечны спакой, а я мушу навучыцца спраўляцца з агародам без яе."Намучышся - навучышся!" - бацькавыя словы.

Курачка суседская жоўтая прыйшла дапамагаць. Рахманая, пад рукі лезе, чарвячкоў выглядае. Еш, курачка, глытай іх. Можа, знясеш сваёй гаспадыні залатое яечка - няхай яна будзе шчаслівая. А шчасце нашае цяпер найбольш - у дзецях, ва ўнуках - каб ім добра было. Ну, і сабе каб трошкі - хочацца.

Сёння магла яго раздорваць - мела шмат-шмат. Сядзела на лаўцы, грызла яблык, адпачывала, і раптам такая шчаслівая стала!..

Весялей мне з курачкай. Люблю яе болей за суседку, што цераз дарогу за плотам. Учора яблыкі насіла, а Валя за кілометар як заенчыць, ажно ледзь з драбінаў не звалілася: "Дурная, хто ж гэто бітыя яблыкі на гару носіць - пагніюць!" І ў якіх кустах яна схавалася?

Курачка, ты і не падазраеш, як табе са мною пашанцавала. Тут прынята ганяць чужых курэй - "Акыжа!" Ці сварыцца з-за іх. Альбо нават адкручваць галовы і кідаць на дарогу…

Курачка ўжо стамілася паляваць на чарвячкоў. А я яшчэ не стомленая. Галоўнае - разнастаіць працу. Надакучыць варочаць зямлю - рві "скулячку", што агарод апанавала. Церабі моркву, буракі, насі зелле да кучы - цэлы трактар, як бацька кажа - найбольш яго і выгадавала. А яшчэ можна назіраць прыгожых матылькоў - яны любяць сядаць на згнілыя грушы.

Вось і Месячык на небе… Яркая-яркая палавінка! Расце… Свеціць з далечыні…

На ўрачыста-белым, цудоўным Міхайлаўскім касцёле,

што на плошчы, чуваць, званы зайгралі - яшчэ адна гадзінка жыцця прабегла…

*24.09.2012 г.*

## Познім вечарам

Позні вераснёўскі вечар, цёмны, калі не запаліць ліхтара. Усё замерла ў начной цішыні, быццам па камандзе з дзіцячай гульні, у якую мы некалі малыя гулялі:"Раз, два, три, морская фигура, на месте замри!"

Месячык, спачатку замглёны, у мяккім срэбным цені свайго святла, разгарэўся у чорным небе. Добра бачныя на начным абрусе неба сузор'і - вось калі пашкадавала, што не разгортвала падручніка па астраноміі!

Захацелася апынуцца ў лодачцы-чарпаку Вялікай Мядзведзіцы, звесіць ногі і весела імі пабоўтаць, як на арэлях …

Чырвонымі агнямі свеціцца ў далёкім небе бязгучны самалёт - Божа, беражы ўсіх, хто ў нябеснай дарозе!

Здаецца, нічога не змянілася, як і ў тую першую восень, і ў другую… Яблыні - ізноў з казачнымі маладзільнымі яблыкамі, што, як зоркі, ляцяць да зямлі.

Час ад часу чуваць "зладжаны хор" уедлівых слухавіцкіх сабакаў - брахуноў і падбрэхічаў. Здаецца, яны помсцяць гаспадарам за тое, што тыя не пускаюць іх на волю - брэхам спаць не даюць.

І ў нас у двары неспакойна. Чорны Казік куляю скочыў на яблыню - уцякаў ад Белага. На яблыні гатунку "Слава победителю" адбылася кароткая бітва, якая суправаджалася пранізлівым каціным енкатам. Лайма выскачыла з будкі, пагрымваючы ланцугом аб бляху-навес, пад якім бацька ставіць ёй, сваёй "Мушцы", дзённую норму: "Ну, колькі можна?"

Начное жыццё працягваецца. Я цісну сок - заўтра не будзе калі! Мыю яблыкі, сяку секачом, выціскаю прэсам і думаю пра чацвёртую восень... Сёння ішла па горадзе і падалася сабе бярозаю, што сцякае сокам - так шмат адчуваю ў сабе Пачуцця…

Здаецца, усё тое ж у прыродзе ў верасні, іначай - у жыцці.

Прыйшоў у гэты свет мой унук Марцін, пайшла мама. Раптам убачыла, што бацька стары...

Сок цурчыць, звініць, падаючы на алюміневае дно каструлі - рондаля, быццам Валоўка пад мостам. Мая дарагая рэчка, ад якой не раз тэлефанавала... Цешыць і натхняе...

*25.09.2012 г.*

**Пад месяцам**

Месяц - яркая дзірачка ў нябесным падоле, бліскучая жоўтая адтуліна ў калейдаскопе неба.

Месяц-кавалер сустракаецца ўвечары з хмаркамі-дзяўчатамі. Ніколі сустрэчаў не прапускае. Любіць хавацца ў іхніх абдымках…

Месяц - ярка-жоўты шар у абажуры-засьні з хмаркаў.

Месяц - яйко, устаўленае ў чарачку-хмарачку - можна падсілкавацца.

Месяц - як на малюнку ў дзіцячай кніжцы. Падобны на мужчыну сярэдніх гадоў - круглы і распаўнелы. Поўня, значыць. Высунуў лысую галаву з-за аблокаў - цікавіцца, што на Зямлі адбываецца. Тут прагульваюць сабакаў (я - котку), гуляюць з дзецьмі і без дзяцей.

Месяц-поўня гарэзіць у небе - то патанае ў аблокавым моры -  ледзь галаву відаць, то вочы сабе вузкім шалікам з хмаркаў завяжа, то хула-хуп з аблокаў круціць...

Адзінокі конік цвыркоча-звініць на ўсю акругу, пяе славу Лету, якое вось-вось міне. Вячэрні паўзмрок робіць горад рамантычным. Знікае рэзкасць абрысаў, фігуры людзей набываюць загадкавасць. Здаецца, ён мяняе людзей, сцішвае і прымірае з пражытым днём…

*29.09.2012 г. Мінск- Менск.*

* * *

Шэрым кастрычніцкім днём
Ярка гараць свечкі клёнаў.

Сплывае на зямлю
Цёплы воск
Жоўта-чырвонага лісця.
*02.10.2012 г.*

* * *

Маё пачуццё,
Як грыбы-апенькі ў нашым двары,

Даўно прынесеныя,
Прыжыліся
І не знікаюць.

Зрэжаш -
Праз ноч новыя ў траве выскачаць,
Пад нагамі,
У самым няўдалым месцы.

Растуць, нават калі
Іхні натхняльнік -
Дрэва -
Далёка.
*02.10.2012 г.*

* * *

Маўчыш, любы...
Гэтая восень
З імжой і туманам,
Кажуць, замест цябе.

Але
Раптоўны летні лівень-дождж
Пасярод тумановай восені,
Нечаканы, з Перуном і бліскавіцамі,
Абнадзейвае -

Будзе цяпло,
І спадзявацца варта.
*03.10.2012 г.*

## Пра Сонца

Сонейко!.. Шмат разоў на дзень з замілаваннем кажу гэтае слова. Бо рэдка стала выглядваць. Падзеяй стала. Сонейка недахоп.

Сонейко!.. Услых адзначаю, дзялюся радасцю. І адчуваю ягоную ласку і цеплыню.

Сонейко!... - цешуся ўдвая мацней. Бо гэта яшчэ і тваё імя.

*05.10.2012 г.*

## У старых Слухавічах

Вечар. Поўня на небе. Раптам высунулася, да гэтага жаўцеў акрайчык у аблоках. Мы і не чакалі. Гуляем у слухавіцкіх прасторах - горы і даліна. У даліне - возера, скошаныя, прыбраныя палі, лес удалечыні і сучасны вятрак, як у Нямеччыне, - Лілька яго "дароблай" называе, - намалочвае электрычнасць...

Вечар ціхі, лагодны, пяшчотны, як гэта бывае ў другой палове жніўня, калі лета заканчваецца, і ты ў сонечным цяпле і кветкавай яркасці позняга лета міжволі шукаеш прыкметаў восені - іх усё болей - каб прывучыць сэрца да думкі, што надыход халадоў - непазбежны...

*20.08.2013 г.*

## Ціхі дожджык

Раніцай пайшоў ціхі дожджык, зашапацеў, пабудзіў. Устала з думкай прылегчы ізноў, папрасіць, памаліцца, падумаць, але ў ложак не вярнулася - захацелася пабыць з дожджыкам.

Шэра, і ўсё яшчэ злёгку дажджыць. Хутка настануць восеньскія раніцы, падобныя на гэтую. Як жа выйду ў такую без пачуцця ў душы? Не, не змагу, яно застанецца са мною. Вось і адказ на пытанне, што ўчора ўвечары мучыла - цяжкія думкі заядала дзедавымі цукеркамі і пернікамі.

Вогненная палоска неба на ўсходзе - натхнёны мазок Стваральніка. Чырвоны шар Сонца павольна выплывае з нябеснай глыбіні...

Гэта ж якое Сонейка працавітае - пакуль за дзень да дальняга слухавіцкага лесу дакоціцца, каб там зайсці... Яно ўстала, каб падтрымаць людзей - глядзеце, я не стамляюся любіць вас і пайду побач з вамі, буду падтрымкай на працягу дня. І вы будзьце, як я - цяплом і падтрымкаю адно другому. Працуйце, як я - да заходу. А там вас чакае лагодны жнівеньскі вечар з пахам мацейкаў і ўрачыстай музыкай звонкіх цвыркуноў. Будзеце шчасліва ўсміхацца - мінуламу, сённяшняму...

Дожджык тупае па плітах на дарожцы надворку. Жабка ўцякае - смешна слізгаецца - няма аб што адпіхнуцца заднімі лапкамі на гладкай паверхні пліты.

Суседка Ленка выйшла: "Чаго, Райка, устала так рана? Я дык спала б, каб не на работу... Вечарам магу доўга сядзець, а не магу раніцай устаць. Можа, каб было натхненне..." О, Ленка, як я табою здзіўленая - ты, здаецца, такая прыземленая, а пра натхненне гаворыш!

Вось і адказ мне ад Неба - любі! Няма без Любові натхнення. Духу няма, жыцця...

*22.08.2013 г.*

## Мая восень

Як твая восень?

Мая - сялянка. Шырокай касці, працавітая. "Трудзяш-

чая" - столькі трэба ўсяго падняць з зямлі, з дрэваў зняць. Грудзістая - на шыі каралі, пацеркі з пупіхаў фізалісаў - надзіманых аранжавых сонейкаў. Хустка ў яе каляровая, у лісцікі кляновыя - на галаве. Боцікі мяккія, ярка-зялёныя, з моху ляснога - замшавыя! Якуб Колас сказаў бы - "машастовыя". А тварам падобная на маму Рыгора Барадуліна - то вясёлы, то трошкі зажураны. Уражаная магутным струменем Любові, чытала нядаўна ліставанне паэта з маці - "Паслаў бы табе душу"…

Сёння гулялі з Малым па лесе. Па зямлі жоўтыя зорачкі рассыпаныя - бярозавыя лісточкі ляжаць. Дрэвы змяніліся, расквеціліся - вясну ў восені перажываюць. Зялёную вопратку на рознакаляровую змянілі.Стаяць сабе ў радок каля Цнянкі - светла-, цёмна-жоўтыя, пунсовыя - чырвоным жарам адсвечваюць.

Клёны найболей па сонейку зажурыліся. Расфарбавалі лісце ў колеры любові і растання. З вакна на іх добра глядзець - здалёк яркай фарбай цешаць.

Сыходзіць каштанавая пара. Пацямнелі зялёныя лодачкі, памякчэлі калючкі перакуленых ракавінкаў. Вецер абкалаціў апошнія. Шмат на доле ў абарваным ветрам лісці ляжыць. Мартусю калючыя вожыкі каштанавых шкарлупкаў мяккія дзіцячыя пальчыкі колюць. Але так хочацца трымаць у ручках расколатыя палавінкі, укладаць каштанчык наноў!

*25.09. 2013 г.*

## Звіжанне

Звіжанне. З раніцы хмурна і паказвае на дождж. Па "точцы" расказваюць пра неспрыяльныя ўмовы ўборкі. У Жлобіне сёння "Дажынкі".

Неба насупленае, пагрозлівае. Цёмнымі хмарамі-маршчынамі ўвабралася. Світанне халоднае - пяць градусаў цяпла. Калі лета прамінула? Нават бацька не заўважыў, хоць і меў на гэта час - сядзеў на сонцы ў крэсле, на агарод пазіраў.

Холад рушыў. Зямля сцялася ад халоднага ўночы дажджу. Дзве птушачкі на правадах доўга сядзяць. Добра ім разам. Хоць абняць адно аднаго не могуць, а цёпла побач.

Катам Лайміная будка спадабалася. Зазіраюць - як там, усярэдзіне? Можа, лепей, чым у хляве на сене?

Гады - вужакі сёння ў норы вяртаюцца - у лес хадзіць нельга. Змяіны цар сёння карону аддасць таму, хто яму пакло-ніцца. А з ёю - мудрасць, праніклівасць у чужыя думкі. Але і без кароны можам зразумець іншых, калі захочам. Калі ёсць Любоў.

Бацька сварыцца - няправільна печ палю. Ручнікі з вяроўкі не паздымала - загарацца. Трэскі на пакладунэ не так паклала. Шыбар замала адцягнула, каб дым выпускаць.

А дровы гараць, ідзе цяпло ад вагню. Проста бацька сла-бы - раздражнёны ад таго, што не малады, не спрытны, не сам робіць, і ўсё ні па яго… Устаў са словамі, што не жыве, а муча-ецца - "за грахе", што жывым у зямлю не палезеш...

У агародчыку паменела сланэчнікаў-сонейкаў. Пачарне-лі - у разбітыя ліхтары ператварыліся. Але некалькі жоўтых галовак яшчэ свецяць у вакно спальні.

Восень яшчэ адным цудам надарыла - апенькі з'явіліся. Зноў поўна грыбоў у двары, як пазалетась. Каля шулаў-слупоў, што плот трымаюць, ціснуцца. Адзін каля ўваходу ў склеп затрымаўся. Усярэдзіну просіцца - ля драўлянага ганка стаіць. Грыбы заступілі сцяжынку пад вокнамі. У кусты пазалазілі - у півоні, да туі вялікай сям'ёй прыляпіліся. Трэба расхінаць траву, каб дастаць. Зараз і вядро набярэцца.

Сонейко праз вакно натхняе. З'явілася зыркае, кліча, цягне на двор. Выйдзеш - не грэе. Згубіло цяпло.

Фізалісы яшчэ мацней загарэліся - аранжавыя восеньскія ліхтарыкі. Хоць вачыма пагрэцца…

І цыкорыі каля Валоўкі паярчэлі ад холаду - не апалі, а сінія-сінія сталі, з летніх блакітных зорачак у сінія восеньскія ператварыліся. Трывалыя прыдарожныя кветкі. Цешаць, калі ідзеш дарогаю.

Як апусцела груша! - скінула лісце долу, апошнія грушкі відаць.

Матылёк грэе крылцы - расклаў, схаваўшыся ў траве - побач з лістком - адразу не заўважыш.

Яблыневым лісцем дарожку засыпала. Сёння падграбаць

не буду - свята!

Каты вярнуліся да пачатку - ловяць цяпло, як у першыя дзянькі вясны. На страсе Лаймінай будкі бавяцца. Толькі цяпер іх паболела. Трое кацянят - Каці і Муркі дзеці - лашчацца каля мамак. А тыя ім бакі і хвасты клапатліва-пяшчотна аблізваюць. Малыя ж доўга не заседжваюцца - гуляць карціць з яблынявымі лісточкамі - мышкамі шапатлівымі. Шах-шах лапкаю!

Старыя каты ад кармушкі - цэментавага ганка, што стаў лапам халодны, на траву перабраліся. Там дзвярэй пільнуюць.

Вецер здуў лісце ў адну лінію - уздоўж выкладзенай дарожкі да травы прыбіў. Бялянка весела пранеслася па каляровым сухім ручайку - восень!

Бацька сёння мыцца не хоча - хто ж на Звіжанне мыецца?! Нічого рабіць не можно... Заўтра печ яшчэ болей напалім.

Лета мінула. Цяпло адышло. Замкнёная зямля. Зачыненая. Згубленыя ад яе ключы - зязюлька ў вырай панесла. Гэта людзі так паэтычна выказаліся.

Толькі незамкнёнае сэрца...

Ліст яблынявы, яшчэ зялёны, вясёлы, на ганак упаў - прывітанне!

Можна яшчэ паспрабаваць затрымаць цяпло. Зняць са стала, за якім так шмат было летам гасцей, дошку, што бацька паклаў, каб вецер цыратку не здзёр. Паставіць, як улетку, букецік сланэчнікаў у гліняным збаночку - хутка Люся прыедзе! Крэсла дзедава, у якім Мартусёк-галячок у чэрвені бавіўся, выкрыкваючы патрабавальна: "Цік!" (цырк), - і "баба Вяка" рабілася для малога цыркачкай з мячыкам, - не прыбіраць пакуль з калідорчыка ў хату - яшчэ спатрэбіцца...

*27.09.2013 г. Наваградак.*

## У Наваградку

### На былой Віленскай

Зноў восень. Зноў дзівосныя птушкі - ці не шпакі адляцелыя летам на волю ў шпакоўні вярнуліся? - спяваюць. У

шапаценні вераснёвага лісця - звон веснавы з вышыні правадоў і антэнаў. Прахалоду паветра, празрыстую - хочацца піць - птушкі ў сябе набіраюць, залівістай песняй вяртаюць. Што за вясна ў восені, што за цуд! Неба нас суцяшае - не пакідае без успамінаў пра цяпло...

## На татарскіх могілках

Пахне шчымліва дымам - згарэла на вогнішчы Лета. Памяці водар. Па мінулым туга. Па нядаўняй пяшчоце - праляцела, пранеслася. Наляціць - у душы зашчыміць - зноў развеецца…

## Па Гродзенскай - туды і назад

Удзень ты мне сонейкам. Вызірнуло - радая, як табе. Цяпло і пяшчота.

Увечары - зорачкай. Свеціць - быццам з табой размаўляю. Далёкасць і недасягальнасць.

Заплачу ўголас - ніхто не пачуе. Боль Небу аддам.

Вярнуся дадому вясёлая.

*28.09.2013 г.*

## Холадна

Холадам тхне. Чуецца холад у прасторы. Ідзе з дальнягадальняга лесу, адтуль, дзе ляжыць белым снегам, спіць да пары да часу Зіма. Патыхае з далечыні яловымі лапкамі - цёплая Восень заснула. Так здаецца на досвітку, у шэсць раніцы, калі высунуць нос у люфцік.

Нейкія гукі... Выйшла - у небе крычаць жураўлі, два трохкутнічкі птушак - адзін насупраць другога, быццам паміж сабою развітваюцца. Але сонечна, і крык - хто прыдумаў, што яны "курлыкаюць"? - не гучыць сумна. Проста восень, і птушкам пара вяртацца.

*02.10.2013 г.*

## У дарозе

Выбіраемся з Люсяю на вакзал. З бацькам развіталася. Барада ў бацькі дрыжыць - цяжка даецца растанне…

Еду ў восень, ва ўспаміны...

З кім падзяліцца прыгажосцю дубоў за вакном?

Шэрыя, шорсткія палі - пацямнелае шчацінне зжатай збажыны.

Кукурузнік - на сілас - сцяною стаіць, згубіўшы зялёнасць.

Маладзенькая рунь узышла - радок да радка - зялёнай вясною ў полі.

У Міры ля царквы - клён да чаго прыгожы! Восенню зацалаваны - сляды чырвонай шмінкі не сцёр.

Дзіцятка малое, ідучы ўслед за мамай, бразгае вялікім вядром па зямлі - барабанны стукат атрымліваецца. Нейкая жанчына старанна хрысціцца на ганку царквы, перш чым увайсці.

Стог саломы ад дарогі ў полі - помнікам лету. Кароткі ў анфас, мінаем - доўгі ў профіль. Карабель саламяны.

Едзем праз вёску. Пабачыш дагледжанасць - усцешыцца вока. Сум запусцення вярэдзіць душу, асабліва ўвосень.

Агонь у агародзе - непатрэбнае паляць. А я закопваю - угнаенне. Ліліная навука. Лілю полымя ратавала ў дзяцінстве: пакрыўдзяць хатнія - яна на агонь глядзіць. Там казачны свет, незвычайны… Забудзецца Ліля пра злое, у полымя пазіраючы. Супакоіцца і прабачыць крыўду…

Скупое кастрычніцкае сонца ў халодным люстры вады - рэчачка прамільгнула за вакном аўтобуса.

Вось ужо і схавалася сонейко. Без яго пахмурнее ўсё на зямлі. Толькі ў аблоках яшчэ адбіваецца нядаўняя зіхатлівая радасць.

Ціхмянасць вечара - восеньскі дзень рана кладзецца спаць. Палова на сёмую. Ліля здзіўляецца часта - гэта ж мы без дваццаці дзевяць у лес па ажыны ўваходзілі!

Цёпла, ціха, спакойна. Паўзмрок у аўтобусе і за вакном.

Бярозкі яшчэ спрабуюць рассеяць змярканне, што насоўваецца непазбежна - бялеюць камлямі- каленкамі дзявочымі ў прыдарожным лесе.

Засынаецца. Спіцца нядоўга ды соладка...

*05.10.2013 г.*

## Восеньскі баль

Вечар, а ў вачах усё тая дзённая краса - "калейдаскоп агнёў"…

Дарога з Наваградка была незвычайнай. Нясліся праз восеньскі баль, які спраўлялі дрэвы - апошні, непаўторны, развітальны. І хоць не затрымаліся на ім, усё стаіць ён уваччу - яркі, раскошны фарбамі.

… Лес падступаў- мядовы, лімонны, вохрысты - усімі адценнямі жоўтага і чырвонага. Ці гэта ліпы, ці ясені, ці алешыны - цяжка было разгледзець. Бярозкі сыпалі залатое канфецці з дробных лісточкаў, вогненна-празрыста гарэлі клёны. Нават строгія, стрыманыя, велічныя дубы каля Наваградка пераанялі восеньскую моду, адмовіліся ад прывычнага зялёнага адзення.

Каб мы памяталі сярод аднастайнасці белай зімы гэтую радасць фарбаў!

Кажуць - незямная краса. Бо падораная Небам…

*12.10.2013 г.*

## У Вільні

У Вільні шэра. Ды вуліцы засыпаныя вясёлым восеньскім лісцем - добра і воку, і назе! Яшчэ лепей - душы...

Усё па-ранейшаму - каты ў кацiным царстве фраў Анэліз Арндт насупраць гатэля - адзін гострыць кіпці аб елачку, другі адпачывае на подсцілцы з кардону. Царства акуратна абгароджанае, чыстыя місачкі напаўнення чакаюць.

Сёння Пакровы, і бацьку няма каму чарговы раз - ён застаўся адзін - Ліля пазней зазірне - распавесці з раніцы, як у 1950-м (тады яму было 19!) ехаў з бацькамі і суседзямі ў

Сянежычы на фэст. У касцюме. Там старыя бабулькі на каленях ішлі да Святога рова. Назад вяртаўся на возе - холад лез пад пінжак...

Цёмныя вожыкі з пацямнелага лісця, намеценыя дворнікамі (маюць для гэтага граблі, на венікі падобныя), скруціліся клубкамі ля дарогі, што бяжыць ля сумнага Тускуленскага парку спакою - Тускуленай рымціас паркас.

Дзякую Небу за тое, што гляджу на свет шчаслівымі вачыма. "Дзекою", - папраўляе Марытэ, - націск - на другі склад". Гэта мы са Светай пасля занятку выбраліся ў бухгалтэрыю. У Марытэ з вакна ярка свеціць пафарбаванымі дрэвамі восень - а сонейка ўчора, у нядзелю было.

Пайду гуляць адна - Света сустрэла Лену, і добра - хочацца пабыць сам-насам з Вільняй.

Хораша ў Вільні - горад падперазаўся яркім кастрычніцкім пасам з расквечаных восенню лясістых віленскіх узгоркаў.

Пазалочаныя ўзгорачкі віленскія. Апошні дар восені - шчодры. Таполі і клёны стаяць урачыстыя - назбіранае золата не шкадуючы раскідаюць. У цэнтры, там, дзе ходзяць турысты, ім упрыгожылі кружкі зямлі вакол дрэваў, закаваных у асфальт.

На гары Гедыміна - карцінныя фарбы восені. Хрэстаматыя колераў - класіка восеньская - не адарваць вачэй. Гэта ruduo - перадзімовая пара. Залацістыя горы з лісця - у парках і скверах. Руды колер - разам з жоўтым, чырвоным - на жывых агароджах з кустоў. Вільня цяпер - у мядовым ліпавым лісці. Вельмі шмат гэтых дрэваў на вуліцах.

Дробныя бярозавыя лісточкі ўздымаюцца, кружацца на дарозе, быццам жывыя, гоняцца за машынамі ў восеньскім танцы.

Падарожаў праезд. Узнікла новая форма яго аплаты - "вільнечу корцяле". Змяніліся назвы аўтобусаў. А восень - усё тая ж.

Па-восеньску ўтульна ў скверыку каля Вінцаса Кудзіркі - там на лаўках сядзяць закаханыя.

У Вострай браме - усё той жа невыказны, неапісальны водар белых лілеяў ля Маці Божай. Малюся - за родных па

духу і па крыві. За малых дзяцей, за старых бацькоў - за тых, каго лёгка пакрыўдзіць. За тых, хто прыйдзе ў свет, і хто збіраецца адысці. Як гэта навучыцца абдымаць малітваю свет - за ўсіх дзяцей Божых…

Якраз на літоўскую імшу трапіла. Няведанне літоўскай - чую толькі "Вешпоті", "бролё" і "сясэре" - Госпадзі, браты і сёстры - не перашкаджае.

Вільня вакзальная і прывакзальная - старая брудная жабрачка. Запырсканыя, у разлітых тлустых плямах нямытыя ходнікі - тратуары. Жабрак у кутку ля Вострай Брамы шкрабе лыжкаю па пластмасавым дне пасудзіны, расцягнуўшыся на халодным бруку. Спітыя твары, сагнутыя постаці на прыпынку - сядзяць, змучаныя хваробай. Ідучы, размаўляюць: "Еды взял, пивка, возле телевизора посидеть, фильм посмотреть, чисто отдохнуть" ...

Сёння панядзелак.

Вяртаюся. Шара гадзіна - любімы час Харэўскага. Ён пісаў пра яе ў сваёй тоўстай кніжцы пра сто мастацкіх твораў.

"Месцы памяці" пройдзеныя - праеханыя: Слуцко, Жалясіс цілтас - Зялёны мост, Шыла. Пяройдзена нанова дарога паверсе - з прыпынку на Неменчынес плянтас - ва ўніверсітэт. Зноў перачытанае па берагах Вяллі - нябесны дыялог кахання: "Аш мілю тавя! Ір аш тавя!" Я люблю цябе! І я цябе!

Вільня восеньская - маладая дзяўчына - на далікатны абцасік лісток нанізаўся...

*14.10.2013 г.*

## Сонейко

Сонейко свеціць зусім па-летняму. Сяджу, заплюшчыўшы вочы, на ганку, перажываю вяртанне лета. Слухаю, як шаргочуць, шапочуць, шахкаюць на ветрыку зыркія, сонечныя ліхтарыкі фізалісаў. Гэта старая, саслабелая, позняя восень узгадала, прыгрэтая сонейкам, пра маладосць - страпянулася, лагодна замірае ў апошнім танцы, слабенька паігрываючы ўсё яшчэ аранжавымі кастаньетамі кветак…

*25.10.2013 г.*

## Мая Вільня

Вільня ўжо не тая, кастрычніцкая, што была… У панядзелак з раніцы надышоў моцны туман - электрычныя ліхтары гатэля Радзісон віселі проста ў паветры!

Амаль знікла золата дрэваў - толькі бярозкі дзе-нідзе цешаць. Пажухлае лісце ляжыць непрыбранае і наганяе сум. Так і з чалавечым жыццём - старэе, ападае, знікае... Але Неба падказвае, што ёсць надзея на нараджэнне наноў.

У крамах ізноў пацiху робяцца надзённымі калядныя вяночкі, свечкі і яркія торбачкі для падарункаў. Дзе-нідзе дзяды Марозы ўжо апанавалі вокны вітрынаў. Бачыла "гуляшчага", відаць, турыста, што зазіраў на іх.

Вось яшчэ як зніжкі настануць!..

Раннім вечарам у старым горадзе шмат маладых з дзецьмі - сем'ямі або з сябрамі. Не чула, каб малыя калі плакалі на старых вуліцах Вільні...

Старыя жанчыны на Гедыміна яшчэ прадаюць букецікі з апошніх восеньскіх кветак - белых і жоўтых хрызантэмаў. Сядзяць пад электрычным святлом вуліцы - рана стала цямнець. На твары адной бачыла задуменнасць, узнёсласць, заглыбленасць у сваё - відаць, вечар спрыяў...

Анёл, не заўсёды заўважны, па-ранейшаму сядзіць на галоўнай вуліцы, назірае, звесіўшы ножкі са страхі і хітра, са старэчаю мудрасцю на твары ўсміхаецца - наш добры знаёмы...

Гэтыя дні амаль без сонца. Ты будзеш мне сонейкам - надоўга, хоць мала пабачу...

*13.11.2013 г.*

## Яшчэ адна дарога

Еду пасля Вільні і Менска - Мінска ў Наваградак. Туманowая раніца лістападу, бы сакавіцкі надвячорак. Маладыя дрэўцы ў лесе плывуць у лёгкім сіняватым тумане. У позняй восені вяртаецца да нас ранняя вясна...

Думаецца, што ў свеце ёсць закон вяртання - кампенсацыі, не толькі ў прыродзе, дзе пануе Боская гармонія, але і ў людскім

жыцці, калі ім кіруе Неба.

...Так шмат не збудзецца між намі,
І збудзецца так шмат!

...У Наваградку надвор'е асаблівае. Пад Наваградкам у нізінах срэбная ад прымаразку, у фантастычным малюнку заінелай травы зямля.

Зямля, каб нарадзіць, спачатку ў белае вясельнае адзенне апрануцца павінна. З кім шлюб возьме? З Небам, вядома. Белым снегам-вэлюмам укрыецца. Пройдзе час, і мы станем шчаслівымі сведкамі новага нараджэння...

Пасля снегу і прымаразку - два яркія сонечныя дні. "Габлюю" кніжку. Сачу, як сонейка зазірае ў хату, як пад ягоным паглядам ажываюць дываны на падлозе, смяюцца кветкі на занавесках, падаюць светлыя цені на стол, на сцены, на белыя філёнгі дзвярэй, робячы іх яшчэ бялейшымі.

Хрыстос на іконе змяніўся - заззяла прастора за спіною, і дабраслаўленне рукі Яго стала яшчэ ўрачысцей...

Прамяні сонца ў хату наведаліся - быццам з табою сустрэлася...

*22.11.2013 г.*

## Пачатак верасня

Адчыняюцца далі. Хочацца ісці - кліча далячынь у сонечны дзень. Нават у горадзе - глянеш праз вакно ў скверык - гэты настрой ахоплівае…

*3 верасня 2017 г.*

* * *

Усходні Вецер надзьмуў блакітна-срэбны ветразь занавескі - шапоча, б'ецца аб вакно.

Прабуджэнне... Успрымаю, як ад цябе пасланне Слоў Любові - Вецер.

Шэры, цёплы ранак. Як табе, любы, плывецца ў Восень?

## Бабіна лета

Вецер з Сонейкам - гэта я і ты…

Каштаны як мост ляжаць на вуліцы Паштовай, дзе жыла Машка. Увечары іду. Летняга развітальнага паху кропу ўжо не чуваць.

Зоркі роем на небе - ціхія, спакойныя ў вышыні.

А на Зямлі конікі-цвыркуны неспакойныя, бо закаханыя. Клічуць сяброўак - граюць Песню Кахання, такую звонкую ў начной цішыні, што, здаецца, чуваць Небу.

Ізноў завяршэнне Кола - пах ігліцы, быццам вясна…

## Восеньскі дзень

Шэры восеньскі дзень… Толькі жоўтыя зоркі на высокіх сцяблінах тапінамбура - земляной грушы - свецяць з кутка каля плоту. Цэлы зараснік прыветных кветачак!

Дзень дажджлівы, імглівы, імжывы. Шэры ад ссунутых броваў у хмараў. Сюд-тут пускаюцца плакаць дробнымі слёзкамі. Дождж шапоча, шапеча, шапялявіць. Зусім бяссонечны дзень - хоць бы адзін праменьчык! Але ўсцешны.

Капаю бульбачку - у маміных шкарпэтках, бацькавых ботах і шапцы мамінай - усё Люсіныя падарункі бацькам. Нехта ідзе з-пад моста ў шэрым адзенні - "сьпіцоўцы". Як бацька некалі - з працы.

У агародзе столькі ўспамінаў - з году ў год тут з імі…

Пасолю рву - шмат насадзіла. Успамінаю, як у чэрвені бегала ад грады - палоць трэба было - да Маленькага. Прымушала сябе адарвацца ад хай сабе і пільнай працы - нідзе не дзенецца зелле, а мой госць дарагі тут усяго на тыдзень…

На грушу гляджу. Некалі перажывала, што не з’ясі такіх цудоўных, усё пакідала - раптам удасца пачаставаць…

Дробны дождж, цішыня і спакой. Я такая спакойная! Хочацца аддаць сваю радасць - падзяліцца з кім, з табою, вядома ж, першым! Яна - ад задавальнення капаць. Бульба

ядроная - зарадзіла! Усялякая - жоўтая, чырвоная, ружовая з лілёвым адценнем. "Лошыцкая", "Адрэта", яшчэ нейкая, бацька яе "Аганёк" называў.

Некалі клікала - прыязджай па яблыкі! А цяпер - прыязджай па бульбу! Ахвярую цэлы мех.

Якое прыгожае слова - ахвярую…

*6 верасня 2017 г. Слухавічы.*

## Да Сонейка

Сонейко маё любаё… Свеціш з раніцы. Быццам кажаш - забудзьцеся на свае турботы, на тугу сваю - паглядзеце, адчуйце, як я вас люблю! Бярэце маю Любоў і нясеце з сабою - раздорвайце іншым.

А я ў сценах, ні на дварэ. Хоць і цягне ў родны куток, ды сябе суцяшаю - у сценах добра пісаць. Нішто не адцягвае ўвагі, не кліча ў прастору, дзе бабіна лета і дзе пасаджаныя расліны чакаюць - перад вачыма стаяць…

Паздароўкаюся з Табою праз вакно. Ты цудоўнае, бясконца ласкавае, свеціш для ўсіх, усіх любіць умееш. Столькі радасці ад цябе, падарункаў столькі - і боб во ў струках на стале, і пасольку палушчыла, і аранжавы "малюгас" з Вільні зарадзіў - Рута зімою насення дала гарбузовага. Усё ты выспеліла, усё - дзякуючы твайму цяплу.

Як магла я не задумоўвацца, што жывое Ты! Хоць заўсёды любіла Цябе адчуваць. Некалі вясною, толькі прыгрэеш, хутчэй крэсла на двор выносіла, сесці каб каля шэрай сцяны дзедаўскага хлява - мамін пасаг! - ды загараць.

Каб у пацалунках Тваіх хадзіць потым…

*11 верасня 2017 г. Менск.*

## Капаю

Заканчваю агародную працу самую важную - бульбу капаю. "У гэдыкую вятрыну, Райка!" - Ленка яшчэ не перастала здзіўляцца.

Люблю Маці Зямлю, Дэметру. Зямлю-карміцельку люблю, "зямліцу", як мама казала. Датыкаюся да яе.

"Крум, крум!" - чуваць у паветры. Дык вось адкуль слова "крумкач"!

"Вось і наш час настаў!" - вароны кажуць. - Будзеце цяпер нас шанаваць, радыя будзеце птушку пачуць, паляцелі ж вашыя заморскія "пеўчыя". Нарэшце звернеце ўвагу й на нас, "тутэйшых". Любеце сваё, беларускае!"..

"Крук" - гэта воран. Бацько так казаў. На зямлі ж "кручкі" - апошнія агуркі, што не маюць сілы выцягнуцца ў рост, быццам курчацца ад холаду.

Наташка халоднай парою, "з голымі галамі" - ногі не ўцяпліла - здымае грушы. Моцны вецер, а яна - хоць бы што. Па цётцы пайшла - сквапная на плады. "Скрудж Макдак", як Лілька мяне называла. Наўрад ці варонам Наташчынае шчыраванне спадабаецца - прылятаюць штодня, каб паласавацца, пазадзяўбалі лепшыя грушы, на зямлю паскідалі.

Гарбузэ растаўсцелі і аранжавасць губляць сталі - чым далей растуць, напінаюцца ў тоўшчы сваёй. А мо, дожджык фарбу вымывае? Надта ж часты ён госць…

Холадна. Парыўны, бацька сказаў бы - "швалісты" вецер. Калі вяртаешся з агароду, нясеш з сабою восеньскую сур'ёзнасць зменаў, важнасць зробленай працы - памятаю, ад мамы гэта сыходзіла…

Без перапынкаў - ніяк. Яблычка знайшла - радасць нечаканая! - няма іх сёлета на старой антонаўцы. Яблычка скурожанае - не круглае, а выцягнутае, і скура - як сварабліва твар падлетка. І ўсё ж - даспелае і смачнае мне, акурат як - прыемна ўсведамляць! - Івану Буніну ў "Антонаўскіх яблыках".

Пранізліва, з балючай любоўю пісаў Бунін пра ўсё, што было не вярнуць…

Нечаканае сонца. Так цёпла ад яго, добра так! Як хутка адвыкла ад яго за цэлы дзень холаду!

Чарната, пустата зямлі. Шукаю пах тае вясны - учула, злавіла носам на днях халодны пах хвоі- ігліцы. Запомніўся, калі трымала на руках - першы раз на двор вынесла - сваю малую

Настуську - месяц ці быў ад нараджэння …

Пупіхі гузікаў з насеннем на кветках. Белае лісце пялёсткаў - апошнія, яшчэ не да канца адцвілыя кветкі мальвы на самых канцах высокіх, да неба, сцяблінаў. Мо, вернецца яшчэ Лета?

Рана цямнее - ледзьве паспяю сабраць накапанае.

На завяршэнне - "апошні званок" коніка- цвыркуна - самага смелага - вечар халодны…

*15 верасня 2017 г. Слухавічы.*

## Несла Боскае

Калі нясеш кветкі або дзіця на руках, адчуваеш урачыстасць моманту. Несла фізалісы для сяброўкі на другі канец горада - аранжавыя ліхтарыкі восені. Людзі глядзелі здзіўлена-раўнадушна, заклапочаныя сваім. Не было замілавання на тварах. А ў мяне было - у душы…

*1 лістапада 2017 г.*

## Наперадзе - халады

Мальва мая - дарагая кветка дзяцінства, першая кветка, што ў памяці - захацела цвісці, не зважае, што наперадзе - халады. Ловіць кропелькі сонечнага цяпла.

Зграбаю лісце пад "Джонатанам". Імпульсіўная яблыня, на мяне падобная - лісце скідае ахапкамі, нечакана, у бязветранае надвор'е.  Зграбаю, і столькі радасці ад раптам заўважанага яблыка - пад лісцем схаваўшыся ляжыць, яркі, крамяны, даўгавечны. Яблык мне, як успаміны. Раптам усплыве - цудоўны...

Учора дарога дадому была сонечная, як бярозкі на здымку Пуцатай.

Ярка-зялёная рунь... Жоўтыя чубкі лісця на бярозах… Чорная ўзараная зямля хвалявала, нагадвала пра вясну, магчымасць паўтарэння радасці і выпраўлення памылак. Некаторыя дрэвы захавалі сваю прыгажосць наперакор вятрам і марозу - вішні і слівы пры плоце пярэсцілі лістотаю не горш за клёны.

Усё ажыло пад сонцам, зарадавалася, усцешанае нечаканым цяплом…

*6.11.2017 г. Слухавічы.*

## Соладка ў сэрцы

Такое незвычайнае пачуццё - соладка ў сэрцы. Гэта Вільня. Тут пахне шчымліва дымком… А яшчэ ўчула пах кіпяцю - шорсткай, сівай лясной травы, змяшанай з лілёвым верасам. Некалі бацько шмат на подсціл касіў і прывозіў, сушыў у двары. З раніцы, як устанеш, пахла цудоўна лесам. Вярнуўся мне ўчора той хвалюючы пах!

І мамінае ўзгадалася, калі сядзела ў гатэльнай сталоўцы: "Гусі-гусі, скіньце мне па-перу, я дадому палечу." Захвалявалася…

*16 лістапада 2017 г. Вільня.*

## Ранішняе слухавіцкае

Пеўні ўжо не спяць. З касцёла чуваць, як грае гадзіннік. На дварэ развіднела, а ў хаце яшчэ паўзмрок. Згаладалыя за ноч катэ - "паразяўлялі ратэ" - бацькава рыфма - у хату ўварваліся. Накарміла - "па шыі" дала - курыныя ў магазіне прадаюцца. І не па адной, а па тры. Усё роўна пільнуюць ля дзвярэй - вымагальнікі - тэрарысты.

Дождждык ціхі пусціўся. Сцяплело. Трава зялёная, у плямках счарнелага лісця - каб нарадзіцца ізноў, трэба памерці…

У хаце не горача. Настыла за тыдні адзіноты. Але ёсць цёплы, на аўчыннай падкладцы, камізэль з Вільні - падарунак Галіны. Мама сказала б "жупан" ці - "разлятайка". А Лілька любіць казаць - "Грошы заканчваюцца, а сябры - ніколі…"

Напаліла печ. Госці мае дарагія сёння з'явяцца - койданаўскія дзяўчаткі. Смачна пахне капустаю. Паставіла у гаршчку - на частаванне. І гарбуза з пшаном - на кашу. Зусім як у мамы некалі з печы водар ідзе…

Дроў з хлява нанасіла. Дзякую Люсі - яна паклапацілася. У галаве аднекуль - удома чутае - "Палкі дроў ні рассёк!" Гэта,

калі сварыліся…

Ваду бяру. У студні дзверы не рамантаваныя - адвальваюцца ўжо. Пра студню ў Слоўніку няма. І пра будаванне хаты - нічога. Добра было б перавыдаць, дадаўшы.

Нагатавала - "настрэньчыла", як Алка кажа. І Ганна гэтае слова ўжывае. Трэба ж нешта есці… "Што пастаўлёно, то паблагаслаўлёно", - бацька казаў.

Прымерваюся - а калі б ты прыехаў, што прыгатавала б? Бульбы зварыла б абавязкова - каштуй, і ў цябе такая будзе!

*25 лістапада 2017 г., субота.*

## Ад'язджаю

Ад марозу светла на двары. Ад успаміну цёпла на душы. Старое мякенькае штучнае паўфутра - апранаю ўдома - паспела састарэць з тае нашай сустрэчы… Тады яно было новае, калі ішлі ад Камароўкі (ты вяртаўся з кнігарні). Быў моцны мароз, а я не хацела напранаць (у Гарэцкага слова ўзяла) пальчатку - руку тваю хацела адчуць…

Пара "акуіравацца" - ад'язджаю. У пакоі - чатырнаццаць градусаў. А пачыналі мы з чатырох. Быў і рэкорд - дваццаць адзін!

Учора быў марозу вястун - чырвоны захад сонца. А ці ёсць вестуны ў Любові?

*28 лістапада 2017 г. Слухавічы Наваградскія.*

## З малым Дзімкам у Мінску - Менску

Лістапад. Усё змянілася. Знікла раскоша кветак, матылькоў і конікаў у траве. Да замірання йдзецца. Вербы голыя глядзяцца ў ваду. Адзін клёнік ніяк не здаецца - трымае лісце няскінутым.

Адчуваю ўдзячнасць да гэтага месца, да возера - праз яго прагны да зямлі горад не змог забраць сабе гэты кавалак. І мы можам прыходзіць сюды, як прыходзяць да мілага сябра.

Тут зацішна. Можна схавацца ад гарадскога шуму, вар'яцкага скрыгату самазвалаў, што звозяць і звозяць пясок у на-

сыпаныя горы - будуюць чарговую станцыю метро, ад размеранага бомкання будаўнічай прылады - прабіваюцца ў зямлю, будуючы новы дом.

Крутабокая сарока на шары круглага ліхтара прыцягвае ўвагу майго маленькага ўнука. Ссохлыя цвічкі лубіну… Выцвілыя ружовыя галоўкі канюшыны… Дыяменты кропляў на лістках белай канюшынкі… Нам добра.

Тут лагода і дабрыня - ад вазёрнага люстра, па якім бяжыць, не спыняецца рабізна ў ветраны дзень. Сёння яно спакойнае, непарушнае - няма ўжо качак, паляцелі. Не плыве за птушкамі след - сталёвы трохкутнік вады…

*Восень 2017 г.*

## Першы прымаразак

Першы прымаразак. Аранжавы гарбуз, што ляжаў у траве, прымарозіў шчаку - пацямнела. Трава, скалелая ад марозу, сагрэць не магла.

Паўтарылася: ізноў у Пуцатай да позняга вечара прападала, не прыбрала ў агародзе, лёгкадумная. Так пры бацьку аднойчы кабачок самы вялікі змарозіла. Шкадавала потым. Так і чую зноў бацькава: "Ні аспадыня!"

На двары - сонца, ды нехта паліць картафлянік, і суседскі агарод весь у тумане, а ў зусім чыстае неба падымаецца ўгору белы слуп дыму.

Успамінаю ўчорашні, невядома адкуль - мо, ад самой Восені? - лёгкі пах дымку. Раптам дасягнуў носу. Уцягвала з жаданнем адчуць любоў - гэты тонкі, нябачны сум …

Кветкі прыкметна паярчэлі, узмацніліся ў фарбе. Календулы сталі сакавіта-аранжавыя, а нябесны блакіт цыкорыяў набыў глыбокую сінь. Восеньская зыркасць - перад сыходам, у адчуванні яго.

Іры Сычэўскай мама, Дуся, казала напрадвесні, што цэніць кожны дзянёчак - ніколі так не цаніла. Пайшла ўжо… Гэтым летам і пачаткам восені і Бабчыха, і Машка сыйшла, і Анфіса - жанчыны, што прыйшлі ў гэты свет у 30-я. Не, Машка

наогул з 1924-га. Партрэт застаўся - яна ў 1947-м - маладая, з моднай прычоскаю, зробленаю палонным немцам - цырульнікам са Стаўпецкага лагера ваеннапалонных. Швагер Машчын, Уладзімір Палазкоў, быў яго камендантам. Добры быў чалавек - швагер - Машка казала. Выручыў, заступіўся за былога солтыса ў вёсцы, каторы пры немцах мусіў гэтую пасаду займаць. А начальнікам у лагеры паставілі, забраўшы са штрафнога батальёна. Як трапіў? Пад Сталінградам не ўзяў у палон немцаў - ішлі здавацца. Растраляў з гарматы, артылерыстам быў. Чаму растраляў? Помсціў. Якраз прачытаў пісьмо: брат загінуў - таксама ваяваў…

Захаладала. Сплю з коцікам. Грэю целам малога - новага "дзедавага" - такі ж пухнаты і чорненькі - Казіка. Яго кінула і не падпускае да сябе мама Мурка.

Забытае адчуванне дзяцінства - тады хавала ад мацеры пад коўдрам котку. Здавалася, вуркоча яна так моцна, што вось-вось учуе, не можа не ўчуць мама, і будзе бяда!..

А ўчора сінічка тупатала лапкамі па падваконнай блясе, зусім як тою зімою, калі сядзела ў зале за кампутарам, а бацька ў сваім пакоі драмаў.

А летам, у самым канцы - вожыка ў агародзе бачыла. І зайца спалохала…

І так гэта важна і памятна, як важна жыць тут, у бацькоўскай хаце, чуць гэтых птушак, што яшчэ трымаюць на крылах бабіна лета, бачыць гэтыя яблыні...

Нядаўна яблык зваліўся перад самым носам - у няяблычны год антонаўка прапанавала пачаставацца. І грабштаў ажно тры - як словаў Любові - знайшла ў траве. Чакалі мяне…

*29 верасня 2017 г. Слухавічы.*

## Плаксіўка

Восень-плаксіўка плача па Леце - ніяк не сустрэнецца. Пастукваюць слёзы па шыбах вокнаў. Цэлыя лужыны наплакала. І валасы штодня на сабе рве - "лысеюць" прыгожыя жоўта-аранжавыя, поўныя святла клёны.

Не ведае, што спатканне ўсё ж адбудзецца - яшчэ адно Лета, толькі, найкарацейшае, апошняе з бабіных - вернецца вось-вось…

Радасць - акунуцца ў восеньскі сум дымка - паляцець душой да цябе.

"Успамінай мяне!.." - чую праз восеньскі дым смутак свае любові…

*2018 г.*

## Ласка, святло і цяпло

Грушкі апошнія, нечаканыя, выпадкова знойдзеныя за працаю - ніяк агарод не зраблю! - ласкаю бацькоўскаю. Быццам бацька "зайчыкавага хлеба" прынёс.

У парку з Малым гулялі. Святло раскідалі клёны вакол сябе - свеціць на зямлі бурштынавае лісце.

У хату ўвайшла. Печка, што так даўно не палілася, дыхнула цяплом, і стала радасна, як у дзяцінстве…

*2018 г.*

## Увосень

Любавалася бярозкамі ў скверы. Трывалая іхняя някідкая, пяшчотна-празрыстая левітанаўская жаўцізна.

Клёны амаль страцілі сваю недаўгавечную прыгажосць. Бачна праз вакно, як хораша, не па-працоўнаму апранутыя гарадскія жанчыны згарабаюць у горбы пажухлае лісце.

У пакоі цёпла, не трэба бегчы па дровы, прачнуўшыся. Люблю горад у халады.

Толькі дзе такое адчуеш? Яшчэ ўчора, выскачыўшы на слухавіцкі двор, - начныя зоркі высока з неба паглядалі, - у зімовым паветры раптам адчула такую радасць! І зноў здзівілася - чаму ўсё самае прыгожае, хвалюючае ў прыродзе адгукаецца мне радасным, усцешным успамінам…

*2018 г.*

## Лістапад

З яблыны лісце сыплецца, быццам хто вытрасае з мяха. У цішыні дня - ш-шух! - і з'ехалі лісточкі з горкі - галіны. Восень…

Хочацца затрымаць у памяці зялёна-жоўтую пярэстасць Яе вопраткі, тонкую, далікатную пераплеценасць фарбаў….

*2018 г.*

## Снег

Прачнулася, а за вакном - бела! Божа, ачысць нашыя думкі, пачуцці, няхай будуць твайго Боскага колеру снегу…

*19 лістапада 2018 г.*

## Цераз масток верасня

Ізноў сплёў пад страхою хаты Кружэлку для Восенькай песні Вялікі Павук. І яна загучала. Першы круг, першая паласа. Прыслухоўваюся.

Неба засмужанае, быццам на дождж. Гэта Восень прыйшла і схавала ў ранішні туман Лета. Але ненадоўга - Лета яшчэ ў сіле. Неба выяснілася, стала яркім і чыстым.

Ад медуніцаў так хораша пахне - няхай толькі Ветрык павее. Ёсць у мове - "заслухаесься", ёсць - "загледзісься. А тут - "занюхаесься"…

Медуніцы - старыя знаёмыя - заўсёды віталі нас увосень у школьным двары. Заўтра дзеці ў школу пойдуць. У наступны - хто ў які - клас. А мы? Хто - у якім? А я? Ці перайшла, ці не заседзелася ўсё ў тым жа? Хочацца спадзявацца…

Восень ранняя цудоўная, як усё, што толькі пачынаецца. Каханне, напрыклад. Гэта ты так казаў у Вільні, на прыпынку, недалёка ад "Гіле", што вось, пачынаецца цудоўна, а потым… Ты меў досвед, так кажучы. Мне так хацелася, каб ты памыліўся…

Ранняя восень міласэрная. Міласэрнасць Божая - у пасту-

повасці. Нас рыхтуюць да Пераходу…

Сёння першага верасня. Нядзелька. Сонца прыпякае па-летняму і смяюцца па-летняму кветкі - жоўтым смехам, аранжавым, сінім. А касмеі мае - кракавянкі - featureзнакалёрным.

Звонкія ад цыкадаў дні. Чуваць, як цягнуць Конікі срэбную Нітку Лета - у Восень вядуць. Лёгкі пах дымку, як ад падпаленых каласковых вусікаў. У дзяцінстве прысмакай былі. Лёгкі боль па мінулым…

А наперадзе - халады. У гэта цяжка паверыць, калі на двары гарачыня.

Усё чаканае нам нечакана ўсяроўна прыходзіць.

Дык падзякуем Лету за тое, што было, і што грэла, і грэе і сёння, у Першы Восені Дзень…

Пойдзем пад цыркатлівы Конікаў звон па вераснёўскім мастку ў Восень, каб асіліць дарогу, з цяплом, што назапасіла сэрца і душа за Лета, каб адолець той перавал, назва якому - Зіма…

*1 верасня 2019 г. Слухавічы Наваградскія.*

## Бабіна лета скончылася

Бабіна лета скончылася. Бацько сказаў бы - "бабско".

Начныя кветкі мацейкі духмяняць коратка, адгукаючыся на развітальную ласку Сонейка, і паціху змаўкаюць духам сваім. О, як добра натрапіць на гэты момант у сутонні дня, калі яны адказваюць любоўю на любоў!

Касмеі закручастыя пялёсткамі сталі, як і апошнія сланэчнікі. Ужо не ўсміхаюцца на ўвесь тварык, не распасціраюць пялёсткі насустрач Сонейку - захаладала.

Кветкі любыя зрываю, календулу аранжавую - Пуцатай на гарбату. Пахне і ліпне на пальцах смала.

Маміныя восеньскія кветкі на доўгіх сцяблінах да яе дня нараджэння распусціліся. І ўсё большае куст. Дзімка смешны - сцябло, што над сцяжынаю навісла, кожны раз пераступаў, высока задзіраючы ножку,замест таго, каб адвесці рукою або абысці. Вельмі на мяне падобна…

У хаце прыбіраю, як і кожны раз перад гасцямі. Мама сказала б - " гасціма". Ходнікі выбіваючы, падарунак у траве знайшла - ад яблынкі. Няма-няма яблыкаў, а вось жа знойдзецца, хоць адно. А да чаго духмянае! Госця мая - Пуцатая - узрадуецца. Ніхто так не ўмее цешыцца "сваім", "свойскім", не купленым, як яна.

І ўчора, у агародзе парадкуючы, - толькі прыехала, налящела, нацешылася, навашавалася да змору, - бульбу знаходзіла. Прыемныя сюрпрызы! Узнагароджанне.

Набыць сугучча, пабыць у сумоўі…

*15 верасня 2019 г.*

*Слухавічы.*

## Восеньскай парою ў вялікім горадзе

Гарадское шчасце нашае - заціснуты сярод "высоткаў" і прыдарожнага гулу машынаў вялікі сквер. Хоць называюць яго паркам - уздоўж рэчкі цягнецца.

Натхняльна духмяніць апалая лістота. Тапол і востраканечныя лісточкі - неперадавальны пах дрэва. Цнатлівая бярозка не прагне ўбор свой скінуць. Яшчэ пацешыць вока дробнай сетачкай залатых пацеркаў - лісточкаў. А жоўты клён ужо аддаў зямлі ўсю лісця прыгажосць - пажухла хутка.

Зноў думаецца пра Замыканне Кругу. Сыход. У дрэваў ён прыгожы - без страху і без шкадавання. Мо, ад таго, што таямніцу жыцця спасціглі - няма знікнення. Таму і радаснае аддаванне зямлі целаў з лісця - душа ж недакранальная стаіць. Вясна жыцця паўторыцца, настане! А пакуль - залатыя плямы на зямлі…

Дзімка нырае ў горбу з кляновай, ліпавай, дубовай лістоты - побач дрэвы. Па шапатлівым дыванку - уперад! Імчацца ў хвалях лісцвянога мора так захапляльна - бяжыш, бяжыш, а мора ўсё шапоча пад нагамі. Прывітанне, Восень!

Варона спрытна закідае ў дзюбку аранжавую ягадку гарабіны. Маломy таксама хочацца. Ён нецярплівы. Нават больш, чым баба! Паспрабуй растлумач, што пры дарозе, што ў го-

радзе… Добра, што прывезла слухавіцкіх ягадаў - пойдзем дадому…

*23 кастрычніка 2019 г.*
*Мінск, Брылевічы Калямалінаўскія.*

## У кватэры, у хаце

Гэтыя дні, калі зямля стала белай, адчуваецца моцна свята. Недзе побач, надыдзе вось-вось. Яно - па-над мітуснёю горада. Здаецца, што жыве ўва мне даўно, з тае віленскай сакавіцкай пары, праяўляецца час ад часу - сугучнае беламу снегу...

Вось і белыя архідэі, гледзячы ў вакно, пачалі распускацца. Адгукнуліся на святло.

Ты мне тады святлом стаў... І застаўся...

Сябрую з Агнём - доўга ўглядаюся ў зіхатлівыя скокі саламандраў. Слухаю, як гудзе і страляе ў печы елка, сіпяцьспяваюць вільгатнаватыя дровы - некалі бацькавымі рукамі часаны стары плот. Назіраю, як агонь забірае жыццёвую сілу дрэва, ператварае ў міргатлівае пяшчотнае свячэнне, вогненную субстанцыю гарачага Святла і Цяпла.

Удзячная за цяпло, расчулілася і пацалавала Печку - ніхто не бачыць…

*25 кастрычніка 2019 г.*

* * *

Ты які больш любіш час дня - усход Сонейка ці захад? Мо і смешнае пытанне - гэта як любіць левую або правую руку…

Я дык болей, мусіць, вечар люблю. Не толькі за развітальную сонечную прыгажосць, якая ніколі не перастае хваляваць, але і за супакаенне, што ён нясе.

На захадзе Сонца заўсёды так добра таўчыся ў агародзе. Быць на зямлі. Галоўнае, падымаць галаву час ад часу ўгору.

Тады раптам заўважыш прыход Маці Божай. Гэта Яе колер - пяшчотна - ружовы. Убачыш рукі - прамяні, працягнутыя здалёк - усіх нас хоча абняць, супакоіць, прылашчыць.

А можа, гэта цудоўныя пялёсткі Боскай кветкі, а Сонейко, што хаваецца за кругагляд, сарцавіна яе?

Вось і здымае Сонца ружовыя рукі-прамяні з Неба. Час абдымкаў сышоў. "Люблю! Вярнуся!" - чуваць.

Успамінаю тваё "Люблю" на развітанне - тою зімою… Ужо пазамінулай?..

Вось і сцямнела. Па-сапраўднаму. Хочацца агню. Упартымі намаганнямі - вецер, вецер! - усё ж падпаліла сваё сабранае - сцяблiння горбу.

Вось яно - агню свята! Шуганне полымя - так вецер раптам раздувае! Іскры - матылькамі - у начную цемру - тут жа і знікаюць. Не адарваць вачэй! Агеньчык папраўляю - гары яшчэ! Стаю, гляджу зачаравана. Паціху прыходзіць успамін дзяцінства - да сябе вяртаюся. Чамусьці пахне камфарай, як ад таполі…

Пах дыму. Цяпельца дагарае… Яшчэ - агню! Яшчэ - сцяблінкаў, хоць колькі, апошніх. Чакаю хвіліны ўспалымнення... Новая ўспышка!

Доўга знікае горад міргатлівы з вугельчыкаў чырвоных. Вочы сочаць неадрыўна за ясным міргаценнем у змроку вечара. А можа, гэта свеціцца вулкан?

Адыходжу з неахвотай… Салют, Восень!

*26 кастрычніка 2020, субота.*

## Дзівосная гадзіна

Дзівосная гадзіна! Цішыня з лёгкім пацвыркваннем конікаў. Сюд-тут чуваць, як грукае на зямлю жоўтая слiўка наспелай алычы. Адчуванне заканчэння нейкага вельмі важнага этапу. Відаць, нездарма ў нашых продкаў новы год пачынаўся у верасні. Нават пах паветра - свежы, халодны - нагадвае пачатак вясны...

За працаю прыходзіць адчуванне сябе ранейшай, сваіх дзяцей, калі яны былі малыя, удзячнасць да ўсіх, хто калі-

небудзь быў побач са мною...

....Падымаю ад зямлі  галаву, нешта прымушае... У небе - буслы. Іх шмат, налічваю адзінаццаць - мая любімая лічба! Спачатку маладыя птушкі лётаюць невысока, але хутка набіраюць вышыню і робяцца малазаўважнымі, нарэзваючы круг за кругам. Вось іх ужо восем, пяцёра, трое… Разлятаюцца хутка, большасць - у бок Аканоміі, на усход. Адзін буслік - мусіць, самы адказны і старанны, усё працягвае трэніровачны палёт...

Нейкія незнаёмыя птушачкі з тоўстымі дзюбкамі і белай палосачкай на крыле палюбілі мае сланэчнікі. За кожнае зярнятка дзякуюць, гаваркія: "Ці-віць, ці- віць!"

Сапраўды, мусіць, жнівень - час удзячнасці. Адчуваю ў сабе шмат...

*23 жніўня 2021 г.*

* * *

У Наваградку - сонечна! Нябёсы цешаць блакітам. І радасць - пра гэта пісаць. Бо ізноў - хвалюючае завяршэнне Кругу. Ізноў - цурклівая песня шпакоў. Вярнуліся, каб развітацца перад дарогай.

Ізноў - чорны прамакутнік апусцелай зямлі. Спраўляю дакопкі. Вангеркі наспелі, ёсць чым падсілкавацца, адпачыць ад працы.

Дзятлік пярэсценькі прыляцеў, старую грушу па-дакторску выстукаў.

А мяне лечыць Сонца…

*6 верасня  2021 г.*



## *Наталля Кузьміч*

*Кузьміч Наталля Васільеўна нарадзілася ў г.п. Воранава. Выпускніца СШ № 6 г. Наваградка. Закончыла філалагічны факультэт БДУ. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. З 2003 г. - дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі факультэта журналістыкі БДУ. Працавала ў часопісе "Першацвет", на Першым Нацыянальным тэлеканале, у рэдакцыі газеты "Переходный возраст". Удзельнік рэспубліканскага семінара маладых літаратараў у Іслачы (сакавік, 1999 г.).*

*Друкавалася ў часопісах "Роднае слова", "Полымя", "Маладосць", у тыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Аўтар больш за 100 публікацый у навуковых выданнях Беларусі, далёкага і блізкага замежжа (Аўстрыя, Германія, Грузія, Казахстан, Расія, Украіна, Чэхія).*

# Апавяданні Антона Чэхава і Максіма Гарэцкага: спроба тыпалогіі мастацкага свету

Пры супастаўленні вобразаў і ідэй літаратурных твораў некаторых пісьменнікаў выяўляецца, што ў іх нейкім цудоўным

чынам у многім супадаюць філасофска-эстэтычныя погляды, падобная сюжэтна-кампазіцыйная структура твораў, у якой ідэальна рэалізуецца творчая задума. Гэта не выключае адрозненняў, напрыклад, у стылявой манеры, якія з'яўляюцца не чым іншым, як праяўленнем своеасаблівасці канкрэтнай пісьменніцкай індывідуальнасці.

Гаворачы пра мастацкія адметнасці твораў пісьменніка Максіма Гарэцкага на прыкладзе апавядання "Чарнічка", літаратуразнаўца Алесь Адамовіч адзначаў: *"І вось на нас (тайных і раптоўных сведкаў жыцця) ідзе хваля адчуванняў, думак, слоў, рухаў - чалавечае цяпло ці холад, таксама чалавечы... Любілі, умелі гэта асабліва Чэхаў, Бунін, Горкі - "засекчы" жыццёвы рух на нейкай кропцы і, наблізіўшы яго "буйным планам", прыглядзецца, паказаць, а затым "адпусціць", бо жыццё тое, лёс чыйсьці той - аб'ектыўна існуюць, увесь час адчуваеце, што жыццё і за рамкамі апавядання прадаўжаецца, у прасторы, у часе"* [1, с. 20]. Не выпадкова, што першым у пераліку пісьменнікаў названы Антон Чэхаў. Менавіта да яго мастацкага свету ў найбольшай меры блізкая творчая манера Гарэцкага ў апавяданнях.

У апавяданнях двух пісьменнікаў, прадстаўнікоў розных эпох і розных літаратур, класіка рускай літаратуры Антона Паўлавіча Чэхава (1860-1904) і аднаго з яркіх прадстаўнікоў беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя Максіма Іванавіча Гарэцкага (1893-1939), можна знайсці падабенства ў спосабах і прыёмах мастацкай выразнасці, сюжэтабудаўніцтве і кампазіцыйнай будове. Пры дэталёвым разглядзе становіцца відавочным, што ў пісьменнікаў аднолькавы погляд на духоўна-маральную дамінанту: у чалавеку ўсё павінна быць прыгожа; безумоўна, пры разуменні таго, што гэта ў ідэале, што важна, калі дасягаецца як мінімум прамежкавая мэта - хаця б пазначыць шляхі да гэтага ідэалу. Наблізіцца да яго ў рэальнасці, адкінуць пошлае і ганебнае, паступова сцвярджаючы годнасць і самапавагу чалавека, не прэтэндуючы на ісціну ў мастацкіх пошуках, - гэта асноватворная творчая канцэпцыя лепшых апавяданняў пісьменнікаў.

Творчасць А. Чэхава і М. Гарэцкага дастаткова поўна вывучана на сённяшні дзень у літаратуразнаўчай навуцы, але ўсё роўна з'яўляюцца новыя матэрыялы даследаванняў, што сведчыць пра несумненную глыбіню таленту пісьменнікаў і патэнцыял у вывучэнні іх творчай спадчыны. Праблема, звязаная з падобнасцю і своеасаблівасцю мастацкага свету ў апавяданнях названых аўтараў як прадстаўнікоў розных літаратур яшчэ не закраналася ў літаратуразнаўстве, таму дадзены матэрыял уяўляе сабой першую спробу такога даследавання. Пад мастацкім светам літаратурнага твора прынята разумець пераствораную ў ім з дапамогай вымыслу рэальнасць. Сам тэрмін "мастацкі свет твора" абгрунтаваны акадэмікам Д. С. Ліхачовым. Да выяўлення асаблівасцей свету мастацкага твора звярталіся тэарэтыкі літаратуры Л. В. Чарнец, В. Я. Халізеў, зазначаючы, што асноўная ўласцівасць яго - гэта няроўнасць, нятоеснасць першаснай (жыццё) рэальнасці, таму што пры яго стварэнні непазбежны ўдзел вымыслу аўтара. Да найбольш буйных адзінак мастацкага свету адносяць персанажаў, якія звязаны паміж сабой і ўяўляюць сістэму, і падзеі, з якіх складаецца сюжэт.

Нельга не ўлічваць, што А. Чэхаў і М. Гарэцкі працавалі ў розных грамадска-палітычных умовах, у іх герояў не аднолькавы сацыяльна-эканамічны статус, адрозніваецца побытавае асяроддзе. Як адзначаў доктар філалагічных навук, прафесар МДУ У. І. Куляшоў, *"увагу Чэхава прыцягвала жыццё пярэстага "сярэдняга" слоя насельніцтва, займаўшага месца паміж прывілегіраванымі вярхамі… і бяспраўным шматмільённым сялянствам"* [4, с. 5]. У Чэхава прынцыпова іншы ў параўнанні з папярэдняй традыцыяй падыход да адлюстравання чалавека. Яго герой не толькі акружаны тыповымі мастацкімі прадметамі, ён сам - звычайны. *"Сутыкненні герояў - не "падстроеныя" сустрэчы на адпаведным плацдарме. Дзеянні чэхаўскага героя… індывідуальна-непрадказальныя. Герой Чэхава прынцыпова атыповы. Як быццё ў цэлым у Чэхава - царства індывідуальных формаў, так і частка яго, герой, - перш за ўсё індывідуальнасць, з усім адзінкавым*

*свайго кшталту спалучэннем рысаў, індывідуальнасць, уключаная ў выпадковую плыню быцця"* [6, с. 259]. М. Гарэцкі, які паходзіць з вясковай сям'і, добра ведаў сялянскі асяродак, што вызначыла выбар персанажаў, асабліва ў ранні перыяд творчасці, дзе галоўны герой - юнак, які шукае магчымасць выбіцца з вясковай духоўнай цемнаты і непісьменнасці (у 1914-1918 гг. пісьменнік створыць шэраг сваіх лепшых апавяданняў, такіх, як "Літоўскі хутарок", "Хадзяка", "Чарнічка", "На этапе", "Рускі", "Дзёгаць", "Генерал", "Панская сучка"). Зразумела, гэта не магло не адбіцца на адрозненні тэматыкі твораў двух пісьменнікаў, сацыяльна-побытавай праблематыцы і на мастацкай танальнасці. Аднак такія адрозненні, якія маюць аб'ектыўную аснову, не закранаюць здольнасць разумець чалавека ў сутнасным і адлюстроўваць сваё бачанне ў вобразах, якія адказваюць за каштоўнасныя арыентацыі аўтараў.

У апавяданнях М. Гарэцкага і А. Чэхава няма доўгіх уступаў або так званай традыцыйнай экспазіцыі. Як правіла, пачатак у творы звязаны з канкрэтным выпадкам, які адразу ўводзіцца ў сюжэтнае дзеянне. Завязка заўсёды кароткая і энергічная, яна як бы вызначае далейшае развіццё адносін паміж персанажамі, дапускае лаканізм і насычанасць у мастацкім адлюстраванні. Пісьменнікі нібыта спяшаюцца раскрыць мас-тацкі свет, дзе паказаны пачуцці і адносіны герояў у рэчаіснасці. Напрыклад, у М. Гарэцкага ў апавяданні "Дзёгаць" такі пачатак: *"У глухім павятовым горадзе, у цёплы маёвы вечар, гуляюць на бульвары… Сярод увабранага панскага натоўпу гуляе з кавалерамі і Юлечка Пухальская, курносенькая, круглавідзенькая, здаровенькая гімназістачка"* [1, с. 133]. Адчуваецца па эпітэтах, што дзяўчына прэтэндуе на ўвагу з боку юнакоў, маючы прывабную знешнасць, што і пацвярджаецца далейшым ходам падзей. У апавяданні "Рускі" такая ж кароткая завязка: *"А таму хвораму на грудзі салдату-беларусу, што прывезлі з аўстрыйскага фронту, болей выпадае ляжаць у бальніцы для нервовахворых, чым тут, у нас. Ён ляжыць на Саксанавым месцы.*

*Наша палата празвала яго Рускім, бо ён, калі яго забі-*

*рае хвароба, крычыць шмат разоў бесперастанку:*

- *Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!.."* [1, с. 154]. Верагодна, такі пачатак, дзе ёсць элемент нервовасці, прадказвае не зусім звычайнае далейшае яго тлумачэнне. Сапраўды, герой твора на лініі судакранання франтоў пры зацішшы без усялякай прычыны застрэліў аўстрыйскага салдата, які пачаставаў яго гарэлкай; гэта і выклікала парушэнне псіхікі ў Рускага. Таксама ў тэкстах завязкай выступаюць выразныя прыкметы прыроды, яны супадаюць па танальнасці з настроем аўтара ці героя або служаць фонам для падзей, якія маюць асаблівае значэнне. Так, у апавяданні "Чарнічка" М. Гарэцкага ў самым пачатку ствараецца некалькі змрочны фон: *"Над пахмураю, мокраю зямлёю павісла шэра-цёмнае, нуднае восеньскае неба. Пустая вуліца маўчыць..."* [1, с. 137]. На такім фоне, калі не прадказваецца нічога радаснага, распачынаецца гісторыя маладой манашкі.

У А. Чэхава апавяданне "Дом с мезонином" пачынаецца з кароткага паведамлення пра час дзеяння: *"Это было шесть-семь лет тому назад, когда я жил в одном из уездов Т-ой губернии, в имении помещика Белокурова..."* [5, с. 102]. Не зацягваючы, пісьменнік тут жа дае партрэт памешчыка Пятра Белакурава з падрабязнасцямі, якія характарызуюць яго знешнасць, некаторыя звычкі і ствараюць пэўны вобраз *"...молодого человека, который вставал очень рано, ходил в поддевке, по вечерам пил пиво и все жаловался мне, что он нигде и ни в ком не встречает сочувствия"* [5, с. 102], з чаго можна меркаваць, што ў апавяданні пойдзе размова пра не зусім звычайнае; і, сапраўды, гэта своеасаблівая споведзь мастака аб стасунках з сёстрамі, аб дыскусіях пра духоўныя каштоўнасці. У апавяданнях пісьменнік адразу ўводзіць чытача ў кантэкст дзеяння: *"После венчания не было даже легкой закуски; молодые выпили по бокалу, переоделись и поехали на вокзал. Вместо веселого свадебного бала и ужина, вместо музыки и танцев - поездка на богомолье за двести верст"* [5, с. 76] ("Анна на шее"), *"Послышался стук лошадиных копыт о бревенчатый пол; вывели из конюшни сначала вороного Графа Нулина, потом белого Великана, потом*

*сестру его Майку. Все это были превосходные и дорогие лошади. Старик Шелестов оседлал Великана и сказал, обращаясь к своей дочери Маше:*

- *Ну, Мария Годфруа, иди садись. Опля!* [5, с. 10] ("Учитель словесности").

У сюжэтнай пабудове апавяданняў пісьменнікаў пераважна адсутнічаюць нечаканыя павароты, выключаюцца інтрыгі. Размяшчэнне частак (фрагментаў), якія ўтвараюць кампазіцыю, падзеі, з якіх складаецца сюжэтная плынь, ствараюць уражанне рэальнага жыцця. Няма неабходнасці звяртацца да наслаенняў і змяшчэнняў, каб абвастрыць напружанне або штучна правакаваць калізію. Такія мастацкія падыходы, якія не ўскладняюць сюжэтна-кампазіцыйную структуру неабавязковымі элементамі, узмацняюць яе значнасць у развіцці дзеяння, у здзяйсненні мастацкай функцыі герояў, дадаючы яснасці да разумення іх вобразаў. *"Асновай сюжэтаў становіцца не сутыкненне чалавека з грубым сацыяльным асяродкам, а ўнутраны канфлікт яго духоўнага свету"* [3, с. 118], таксама як і кампазіцыйная дынаміка *"звязана не з сюжэтным рухам, а з працэсам унутраных зменаў персанажа, а кампазіцыйная сувязь элементаў твора падмацоўваецца глыбіннай і складанай асацыятыўнай сувяззю ўсіх дэталяў апавядання"* [2, с. 35]. Падобнай у пісьменнікаў выглядае пабудова апавядальнай плыні - гэта апавяданне ў апавяданні, калі аўтар дае магчымасць герою распавесці сваю гісторыю не толькі праз маналог, а перадаючы яго думкі і адчуванні, яго дзеянні, і з дапамогай гэтага праз увесь тэкст апавядання герой нібы сам распавядае пра сябе.

У жыцці няма нічога завершанага і канчатковага, - прызнаючы гэту дыялектыку, пісьменнікі не прымаюць гатовых вывадаў або фіналаў, дзе абавязковы трыумф дабра, а зло пераможана. Рух вобразаў такі, што часцей ствараецца сітуацыя, калі прысутнічае не адзін варыянт для выбару, героям даецца магчымасць без бачнага ўмяшальніцтва аўтараў, якія быццам застаюцца за кадрам, вызначыцца: што далей? Цяжка прадказаць, якое будзе прынята рашэнне або ці ўвогуле яно будзе

прынята. Сумненні, надзеі пераплятаюцца, перарастаючы ў мяккі маральна-этычны канфлікт, які ляжыць ў падтэксце. У гэтым заключаецца адна з асаблівасцей мастацкага свету пісьменнікаў, якая надае яму мастацка-эстэтычную спецыфіку.

Арыгінальны ў сваёй мастацкай ролі прыём замоўчвання ў канцоўках, які дае падставу для разважанняў над вобразамі, і гэты прыём з'яўляецца не ад таго, што ў аўтараў адсутнічае пэўная ідэя або аслаблена ўласцівасць абгрунтаваць маральнае правіла паводзін герояў. Тут дзейнічае прынцып: як у літаратуры, так і ў жыцці няма гатовых рэцэптаў на ўсе выпадкі. Пісьменнікі пакідаюць фінал адкрытым. Напрыклад, у апавяданні М. Гарэцкага "Дзёгаць" Юлечка Пухальская, якая паходзіць з сям'і з невялікім дастаткам, не хацела, каб яе пры ад'ездзе дадому да бацькоў праводзілі знаёмыя гімназісты, паколькі высветліцца, што яе бацька зусім не багаты чалавек, але гімназісты чамусьці прыйшлі без яе згоды. Юлечка збянтэжана і ўсхвалявана; аўтар псіхалагічна тонка перадае стан гераіні: быццам кроплі дзёгцю, якія ўпалі з кола вазка ў пясок, трапілі на яе ўяўленне пра значнасць уласнай персоны. Узнікае пытанне, як далей складуцца адносіны гераіні твора з гімназістамі; і тут пісьменнік завяршае апавяданне так: *"Горад блішчэў адзаду, а наперадзе і з бакоў цягнулася шырока-далёкае меланхалічнае поле. На небасхіле сінеў лес. Жаўранак купаўся ў вышыні, цюрлюрлюкаў сваю песню. Фурманка пыліла…"* [1, с. 137], - пакідаючы месца чытачу для здагадак. У апавяданнях А. Чэхава таксама адкрыты фінал: *"Старик, смущенный, не зная, как и чем объяснить этот странный, неожиданный окрик гостя, не спеша пошел в дом. И сидя тут за столом, он размышлял долго о теперешнем направлении умов, о всеобщей безнравственности, о телеграфе, о телефоне, о велосипедах, о том, как все это не нужно, успокоился мало-помалу, потом закусил не спеша, выпил пять стаканов чаю и лег спать"* [5, с. 189] ("Печенег"), *"И казалось, что еще немного - и решение будет найдено, и тогда начнется новая, прекрасная жизнь; и обоим было ясно, что до конца еще далеко-далеко и что самое сложное и трудное только еще начинается"* [5, с.

255] ("Дама с собачкой"), *"На другой день после этой встречи я выехал из Ялты, и чем кончился роман Шамохина - мне неизвестно"* [5, с. 102] ("Ариадна").

Для пісьменнікаў у жыцці ўсё значнае. Любы выпадак ці здарэнне могуць стаць тэмай для апавядання. Напрыклад, А. Чэхаў з выпадковай сустрэчы ў Ялце Дзмітрыя Гурава і Ганны Сяргееўны разгарнуў драматычны сюжэт, у якім паказаны лёс двух яшчэ нядаўна незнаёмых людзей, якія прынялі ўсвядомленае рашэнне змяніць яго да лепшага (апавяданне "Дама с собачкой"); яны ўжо прайшлі нямала выпрабаванняў, імкнучыся зберагчы свае пачуцці, але наперадзе яшчэ больш сур'ёзныя цяжкасці. А вось старэнькі, худзенькі і чысценькі генерал, камандзір дывізіі, якая доўга стаяла на лініі фронту без руху, не ведаючы, чым займацца, вырашыў ехаць на перадавую, каб узняць дух салдат, згублены без баявых дзеянняў (апавяданне М. Гарэцкага "Генерал"). Па дарозе генерал заязджае да салдатаў, каб пацікавіцца іх побытам, тым самым праявіць удзел і клопат; яму здаецца, быццам яго разумеюць і ўспрымаюць; але вось генерал нечакана ступае на бруствер, каб паглядзець на нямецкія бліндажы, і за ім, як патрэбна, змушана ўзнімаецца камандзір роты, які тут жа падае, забіты куляй з акопа супраціўніка. Вось так звязваюцца адно за другім: паказны клопат пра салдатаў і недарэчная смерць, якую няма чым апраўдаць. Сэнс апавядання пранізвае драматызмам маральна-этычная праблема пра кошт жыцця чалавека на вайне.

Мікалай Іванавіч, малодшы брат героя-апавядальніка, вырашыў забяспечыць сабе спакойнае жыццё ва ўласным падвор'і на вёсцы (апавяданне А. Чэхава "Крыжовник"); для дасягнення мэты абмежаваў сябе ў многім. Дасягнуў свайго, мае тое, пра што марыў: уласнае падвор'е з пабудовамі і, як было задумана, з любімым агрэстам у садзе. *"Везде канавы, заборы, изгороди, понасажены рядами елки, - и не знаешь, как проехать во двор, куда поставить лошадь. Иду к дому, а навстречу мне рыжая собака, толстая, похожая на свинью. Хочется ей лаять, да лень. Вышла из кухни кухарка, голоногая, толстая, тоже похожая на свинью, и сказала,*

*что барин отдыхает после обеда. Вхожу к брату, он сидит в постели, колени покрыты одеялом; постарел, располнел, обрюзг; щеки, нос и губы тянутся вперед, - того и гляди, хрюкнет в одеяло"* [5, с. 213]. Ён цешыўся адпачынкам на фоне прыроды, і яму здавалася, што нарэшце займеў сапраўднае шчасце, бо начамі з задавальненнем еў ягады агрэсту. Але, калі паглядзець глыбей, як настройвае свайго суразмоўцу апавядальнік, старэйшы брат Мікалая Іванавіча, ці ў гэтым заключаецца шчасце, ці не падменена паняцце аб ім ілюзіяй? Гэта - філасофскае пытанне, якое арганічна вынікае з апавядання, падштурхоўвае да разважанняў пра каштоўнасці жыцця.

Варта падкрэсліць, што герояў многіх апавяданняў збліжае яскрава выражаная рыса - імкненне змяніць жыццё, пачаць яго інакш. Атмасфера духоўнай шэрасці і безвыходнасці прыгнятае, героі жадаюць рэалізаваць сябе з карысцю, знайсці мэту і сэнс у сваіх справах. Дасягаюць жаданага тыя, хто мае трывалы духоўны стрыжань. Тут узнікаюць калізіі, яны даюць матэрыял для стварэння вобразаў, у якіх раскрываюцца праблемы, што заключаюць у сабе дыдактычны сэнс. Так, у падзеях, якія набіраюць напружанне або паказваюцца вяла і сумна, праходзяць будні земскага доктара Дзмітрыя Старцава (апавяданне А. Чэхава "Ионыч"). Але толькі да таго часу, пакуль ён не пазнаёміўся з Кацярынай Іванаўнай (Коцікам), дачкой вядомага ў губернскім горадзе С. Івана Пятровіча Туркіна. Быццам святлом асвяціла Кацярына Іванаўна аднастайнае жыццё доктара. Аднак, знішчаны раўнадушшам да сваіх пачуццяў, ён трапіў у маркоту, паступова спаўзаючы ў сваіх інтарэсах і занятках да захапленняў, патрэбных толькі для пустога баўлення часу. Вось ужо стаў заўсёдным наведвальнікам клуба, дзе гуляў у вінт і абавязкова заставаўся на вячэру. *"У него много хлопот, но все же он не бросает земского места; жадность одолела, хочется поспеть и здесь и там. В Дялиже и в городе его зовут уже просто Ионычем... Вероятно, оттого, что горло заплыло жиром, голос у него изменился, стал тонким и резким. Характер у него тоже изменился: стал тяжелым, раздражительным... Он одинок. Живется*

*ему скучно, ничто его не интересует"* [5, с. 231]. Гэта ўжо быў багаты пан, яко спадарожнікі - адзінота, сум і поўная абыякавасць да каштоўнасцей, якія ўзбагачаюць чалавека духоўна.

Нічым не займальны выпадак лёг у аснову апавядання М. Гарэцкага "Чарнічка". Дзве манашкі, старэйшая і малодшая, збіраючы каляду ў вёсцы, спыніліся ў адной хаце, каб паснедаць. Тут і здарылася тое, што можа змяніць жыццё малодшай, чорныя вочы якой з жарсцю і любоўю глядзяць на навакольны свет. Яна бачыць, як маці корміць немаўля, а заўважыўшы цікавасць да сябе маладога хлопца, раптам пачынае з ім размаўляць. Адчуваецца, што больш цёплым робіцца яе погляд, у ім больш радасці і душэўнага святла. Але трэба вяртацца ў манастыр. Сумная дарога, восеньскія палі, калючы вецер. Старэйшая манашка сядзіць у вазку і шэптам прамаўляе малітву. Малодшая весела ідзе па ўскраіне дарогі; яна думае, што ў наступны раз яе не пашлюць у вёску па каляду. І што далей? У паўтонах, лёгкіх да бязважкасці, праглядвае ледзь улоўная, быццам выпадкова прыхаваная ў падтэксце сімпатыя аўтара да маладой манашкі. Зусім верагодна, што яна ўжо гатовая да змен, каб пачаць іншае жыццё: у сям'і, у любові і клопатах.

Як адзначалася, у многім праяўляецца падабенства мастацкай манеры пісьменнікаў, светаадчуванняў і філасофска-эстэтычных прынцыпаў асваення рэчаіснасці; але і адрозненні не толькі не выключаюць, але дапускаюць своеасаблівасць у рашэнні канкрэтных творчых задач. Такая прырода таленту, які заўсёды здольны на індывідуальны погляд і падыход, на імправізацыю. Паказальна, што ў А. Чэхава вобразы дынамічныя ў рэальным часе, яны адзначаны глыбокімі думкамі і ўнутранымі супярэчнасцямі, часам афарбаваны сумным лірызмам. Сюжэт у асноўным лінейны, разгортванне падзей паслядоўнае, дыялог заўсёды актыўны, выконвае часам ключавую ролю ў адносінах персанажаў. Гэтыя адносіны даводзяцца да такой ступені празрыстасці, калі відавочна, што задума рэалізавана, але пісьменнік заўсёды пакідае права для разважання над лёсамі герояў за чытачом. Лепшыя апавяданні М. Гарэцкага багатыя на падтэкст. Складаецца ўражанне, што адбываецца своеасаблівы

самарух вобраза, які, пераадолеўшы замкнёную прастору, працягвае існаваць ва ўяўленні чытача. Для творчай манеры пісьменнікаў характэрна даць апісанне персанажа праз сюжэт, без выкарыстання доўгіх маналогаў і дыялогаў. Яснасць і шырыня погляду на чалавека і жыццё, на звычайныя з'явы, прастата мастацкіх выяўленчых сродкаў у спалучэнні з майстэрствам рэалізацыі задумы, глыбокае пранікненне ў псіхалогію персанажаў - гэта субстанцыя, на якой выбудоўваецца мастацкі свет пісьменнікаў, у якім увасоблена мара пра маральны і духоўны ідэал.

---

1. Гарэцкі, М. Збор твораў, у 4-х т. / М. Гарэцкі // Т . 1. Апавяданні / [Аўт. прадм. А. Адамовіч]. - Мн., Маст. літ., 1984. - 446 с., 4 л. іл., 1 л. партр.

2. Толмачёва, Е. Г. Поэтика рассказов А. П Чехова [Электронный ресурс] / Е. Г. Толмачёва. - Режим доступа: https://nauchkor.ru/pubs/poetika-rasskazov-a-p-chehova-5c1a82947966e104f6f85b7a. - Дата доступа: 03.03.2020.

3. Ходжаева, М. Д. Мир чеховских рассказов / М. Д. Ходжаева // Вестник ТГУПБП. - 2010. - №2 (42). - С. 118-123.

4. Чехов, А. П. Избранное / А. П. Чехов. - Мн., Юнацтва, 1982. - 318 с., 1 л. портр.

5. Чехов, А. П. Сочинения: В 2-х т. / А. П. Чехов // Т . 2. Повести; Рассказы 1894-1903; Пьесы. - М., Худож. лит., 1982. - 480 с.

6. Чудаков, А. П. Поэтика Чехова. Мир Чехова: Возник-новение и утверждение / А. П. Чудаков. - СПб., Азбука, Азбука-Аттикус, 2016. - 704 с. - (Культурный код).

# Паэтыка апавяданняў Кузьмы Чорнага: асаблівасць мадэлі

Уся літаратурная творчасць Кузьмы Чорнага - ад першых апавяданняў, напісаных у маладыя гады, і да раманаў, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне, - гэта мастацкае даследаванне і пазнанне чалавека, яго духоўных і маральна-псі-

халагічных асноў на фоне гістарычных, сацыяльных і грамадскіх падзей. Пісьменнік быў адным з тых, хто пракладваў шляхі развіцця беларускай прозы ў новай рэчаіснасці ў 20-30-ыя гады XX стагоддзя. Гэта была новая літаратура па тэмах і праблемах, прынесеных жыццём, па характары і тыпажы герояў. Як адзначыў пісьменнік, літаратуразнаўца і крытык Алесь Адамовіч, *"К. Чорны заўсёды шукаў у народных глыбінях тую плынь, якую хай і не відно зверху, але ўсё роўна звязаную з усімі морамі і акіянамі чалавецтва. Разам з тым для Чорнага народ - гэта не нешта безаблічнае, не абстрактная велічыня, а тыя Міхалкі, Невады, Волькі, Кастусі, тыя сяляне, краўцы, цесляры, што жылі і жывуць з ім побач і ў яго творах, якія сталі ўжо часткай яго самога і з'яўляюцца і рэальнасцю і яго фантазіяй адначасова. Гэта галоўнае ў Чорным"* [1, с. 187]. Маштабнасць і разнастайнасць мастацкіх задач, якія вырашаў пісьменнік, не маглі не сфарміраваць асаблівую мадэль паэтыкі яго твораў, у тым ліку апавяданняў.

Як зазначаў беларускі пісьменнік і літаратуразнаўца І. Навуменка, які разглядаў раннюю творчасць пісьменніка, *"Кузьма Чорны - пісьменнік-філосаф. Ні ў каго другога з беларускіх пісьменнікаў няма такога размаху творчых пошукаў, іх жыццёвай геаграфіі. Падумайце: "Захар Зынга", "Хвоі гавораць", "Буланы", "Як мы пакінулі хутар", "Пачуцці" - гэта з розных, не падобных адзін на другі пластоў жыцця. Кожны з гэтых твораў напісаны ва ўласцівай яму танальнасці, са сваім рытмам, мелодыкай, музыкай"* [3, с. 43]. Таксама і літаратуразнаўца М. Тычына, які разглядаў асаблівасці сталення творчай манеры пісьменніка, пісаў: *"Кожны твор - этап на шляху пошукаў. Нават той, які з сённяшняга пункту погляду можа здавацца недасканалым у мастацкіх адносінах"* [4, с. 20]. А даследчыца паэтыкі твораў Кузьмы Чорнага А. М. Мельнікава адзначала, што *"…ужо ў першых творах можна заўважыць адзнакі самабытнай чорнаўскай манеры: дакладнасць, канкрэтнасць бачання, увагу да знешнепобытавых рэалій жыцця герояў, падрабязнасць у апісаннях…"* [2, с. 25]. Такім чынам, з першых апавяданняў

Кузьма Чорны шукаў спосабы і прыёмы мастацка-эстэтычнай выразнасці, уласцівыя менавіта яго светабачанню, асаблівасць якога заключалася ў спалучэнні дзвюх роўнавялікіх філасофскіх дамінантаў, што палажылі пячатку на паэтыку ранніх твораў пісьменніка. З аднаго боку, успрыманне рэчаіснасці як усеабдымнага патоку падзей, фактаў, гісторый і здарэнняў у руху; з другога - разуменне чалавека як асобнага сусвету ў яго непаўторнай самакаштоўнасці. Гэтыя дамінанты суадносіліся па сваёй змястоўнай значнасці ў замкнёнай мастацкай велічыні, абмежаванай спецыфікай фармату жанра.

У першых творах пісьменнік яшчэ шукаў уласную мастацкую канцэпцыю. Відавочна, у сілу маштабнасці мыслення лічыў магчымым падаваць з'явы рэчаіснасці, якія ўплывалі на чалавека, і самога чалавека ў непадзельнасці. Таму ў ранніх апавяданнях (1923-1924 гг.) сюжэтна-кампазіцыйная структура разгортвалася шырока, у ёй адлюстроўвалася тая рэальнасць, якая акружала герояў, а гэта: дарога - шырокая, далячынь - неабсяжная, ветры - буйныя, радасць - высокая, інш. Апісанні прыроды даюцца з размахам у фарбах і ў пераменлівасці стану ў метафарычных выразах, у якіх прыкметны налёт пафаснасці (апавяданні "Быльнікавы межы", "Бяздонне", "Ноч пры дарозе", "Радасць жанчыны"). Героі, як правіла, зведваюць душэўнае ўзрушэнне на пераломе свайго лёсу. Напрыклад, у апавяданні "Быльнікавы межы" на фоне ўзвышана-эмацыянальнага апісання восені падаецца вобраз Паўла, які цэпам на таку малоціць снапы збажыны. Героя займаюць думкі пра цяжкую аднаасобніцкую сялянскую долю, а ў яго хаце знаходзіцца начлежнік, чалавек з горада, які гаворыць, што трэба ісці да новага жыцця, дзе няма быльнікавых межаў, што дзеляць людзей і з'яўляюцца прычынай іх беднасці. Увечары, падчас зашывання стаптаных валёнкаў, Павал слухае госця з горада, і ў яго ўзнікае разуменне ўсёй велічы таго, пра што той гаворыць. Аднак вобраз Паўла, нават у тыя мінуты, калі ў яго душы адбываецца ўзрушэнне ад гутарак пра новае жыццё, пададзены невыразна. Адсутнічае псіхалагічная матывацыя перамен у настроі; пачуцці і думкі расплывістыя; яны не даюць стымулу для канкрэтных дзеянняў.

Хаця, напэўна, у сваёй задуме аўтар меў на мэце паказаць паварот Паўла ад бядотнага аднаасобнага жыцця да працы ў грамадзе. Самога Паўла нават знешне цяжка ўявіць - у творы няма партрэтнай характарыстыкі.

Прыкладна тая ж мастацкая невыразнасць у асноўных вобразна-выяўленчых прыкметах і ў вобразу Алёшы з апавядання "Бяздонне". Герой гэтага твора, як і Павал, паказаны на вялікім пераломе: вырываецца з вясковай бядноты ў горад, дзе вечарам вучыцца ў інстытуце і ўдзень працуе. У Алёшы радасныя перажыванні, ён думае пра будучыню. Вобраз захапляе сваёй энергіяй, нацэленасцю на дабро і на заўтрашні дзень, з якім звязвае свае надзеі. Аднак ён у немалой ступені схематызаваны, падагнаны пад канцэпцыю глабальнай узаемазалежнасці чалавека і асяроддзя, якое яго акружае. Квяцістыя апісанні горада і абставін не дадаюць да псіхалагічнага паглыблення душэўных рухаў; хутчэй служаць толькі фонам або аздобай; за імі не стаіць матывацыя дзеянняў Алёшы, які сапраўды хоча перайначыць сваё жыццё, прынесці карысць бацькам, якія засталіся ў вёсцы, і людзям побач. У гэтым апавяданні азначылася і другая сюжэтная лінія. Яна звязана з Андрэем Строніным, у якога заможны сваяк, што прысылае грошы на вучобу. Аўтар чамусьці зыходзіць з таго, што калі Андрэй матэрыяльна забяспечаны, то ў яго не ўзнікае вялікага жадання вучыцца. З пункту гледжання структуры апавядання сюжэтная лінія, звязаная з Андрэем, падаецца ў пэўнай меры надуманай. Яе без урону для вобразу Алёшы, цэнтральнага ў апавяданні, можна зняць. Але ў такім разе, напэўна, развалілася б уся ідэйнатворчая задума - паказаць, што бедны сялянскі хлопец, які выйшаў з нізоў, па маральных якасцях стаіць вышэй за таго, хто з багатай сям'і. Таму і Алёша ўвесь нібы сатканы з радасці і натхнення, Андрэй - абыякавы і пануры, яго інтарэсы ў асноўным абмежаваны сном. З-за наяўнасці ў адной завершанай у жанравым фармаце мастацкай велічыні дзвюх філасофска-эстэтычных дамінантаў драбілася задума; гэта, як відаць, не спрыяла канкрэтызацыі спосабаў і прыёмаў мастацкай выразнасці. У выніку відавочна расплывістасць у абмалёўцы перса-

нажаў; яны не надзелены адметнымі рысамі характару, іх дзеянні не заўсёды вынікаюць з логікі развіцця вобразаў, ім бракуе псіхалагічнай дакладнасці.

Асвойваючы і паглыбляючы тэму чалавека пранікненнем у яго матывацыі, Кузьма Чорны непазбежна прыходзіў да карэкціроўкі сваіх філасофска-эстэтычных поглядаў. У апавяданнях "Вечар", "Парфір Кіяцкі", "На пыльнай дарозе" пісьменнік выводзіць герояў буйным планам; у мастацкай плыні менш маштабных малюнкаў прыроды; пейзажныя замалёўкі пададзены часцей у кароткіх, але насычаных колерамі штрыхах; яны як бы наблізіліся да герояў, сталі больш прадметна-мэтазгоднымі, а таму лепш успрымальнымі ў звязку з думкамі і настроямі, г.зн. ператвараюцца ў элемент, які выконвае эстэтычную функцыю, выяўляючы ўнутраныя перажыванні. Такім чынам, пераадольвалася роўнавялікасць дзвюх філасофска-эстэтычных дамінантаў. Сцвярджалася адна; яна вынікала з канцэпцыі чалавека, якая ставіла яго ў аснову творчых пошукаў пісьменніка ў рэалізацыі задумы твораў. Сарцавіна гэтай канцэпцыі - гармонія чалавека са светам, якая сцвярджаецца тонкім у сваёй чуйнасці ўнутраным космасам героя, які зведвае сваю далучанасць да сусвету.

Без сумнення, у апавяданні "Вечар" паэтыка ўжо ў больш відавочнай меры арыентавана на філасофска-эстэтычную дамінанту, у якой галоўная каштоўнасць - чалавек. Эпічны складнік у апавяданні на другім плане; ён зведзены да эпізоду, калі Віктар ідзе ў клуб, дзе бачыць сталяра Арсеня Грабіча, які хоча пад музыку паскакаць у танцы. Хутчэй за ўсё ў згаданым эпізодзе праглядваецца дапаможная функцыя, якая надае дынаміку дзеянням героя. Без яе ў творы не хапае ўнутранай энергіі; ён выдаваў бы вялым у сюжэтным выяўленні. Акрамя таго, герою трэба было адкрыцца жыццю, каб не стваралася ўражання аўтызму. У асноўным Віктар Зеніч, прыйшоўшы дахаты, у сваім пакоі слухае вечар, успрымае яго шматгалоссе як панараму жыцця насельнікаў шматкватэрнага дома. Віктар хоча гармоніі, каб праз яе зразумець навакольны свет; для яго гармонія - найперш гэта суладдзе з асяроддзем, прычым не безаблічнае,

бо побач розныя людзі. Ён спазнае свет праз чалавека - сябе і суседзяў - на побытавым зрэзе, г.зн. такім, які ён ёсць у сваёй натуральнай сутнасці. У Віктара высноўваецца плыня адчуванняў, успрыманняў і ўяўленняў, яны неаддзельныя ад ацэнак і вывадаў; гэта ідзе ад імкнення ахапіць свет у шматстайнасці праз канкрэтнага чалавека падчас яго думак і разваг. У творы кароткія апісанні і адступленні-каментарыі, пазначаныя аўтарскімі адносінамі; у іх заўважаецца пластыка, якая збліжае героя і апавядальніка, часта ў такой меры, што іх псіхалагічна-эмацыянальны настрой супадае. Такая блізкасць, якая на мяжы этычнай злітнасці, - гэта і ёсць пэўны вынік пошуку гармоніі, якая нараджаецца з розных па сваёй змястоўна-эстэтычнай сутнасці з'яў. У Віктара разам сум і радасць, бура і цішыня, хараство душы і смуродства нораваў, што адкрываюцца ў чалавека, у яго адносінах да сябе і іншых. У патоку падзей і ўяўленняў, якія асэнсоўвае Віктар, усё блізкае і знаёмае ў сваёй бытавой стыхіі; у ёй няма таямніц, якія ляжаць у сферы трансцэндэнтнага, што за межамі практычнага вопыту і ведаў. Спазнанне чалавека ідзе праз канкрэтных персанажаў, такіх, як, напрыклад, суседзі: Арсень Грабіч, які даводзіць да слёз недарэчнымі пытаннямі сваю жонку, і сястра Баляслава Гельца Антаніна, што цудоўна грае на піяніна; яны адкрываюць Віктару новыя грані жыцця ў будзённых праявах. Менавіта ў іх Віктар чэрпае для сябе зачэпкі для роздуму. У апавяданні запаволена і аслаблена сюжэтная дзея. Гэта вынікае з логікі развіцця вобразу галоўнага героя, які адначасова выступае і ў ролі апавядальніка: аўтар хоча даць магчымасць чытачу зразумець яго ўнутраны свет, у якім спазнанне чалавека ідзе праз асобы персанажаў, у якіх адлюстраваліся філасофска-эстэтычныя погляды пісьменніка.

Іншая асаблівасць паэтыкі ў апавяданні "Парфір Кіяцкі", што абумоўліваецца змястоўна-сэнсавай задачай, якую вырашаюць героі. Па-першае, іх некалькі, а гэта азначае, што ў творы не адна сюжэтная лінія, і яны ў пэўнай меры адасобленыя. Па-другое, кожны выведзены як галоўны, што запатрабавала суаднесенасці ў канцэнтрацыі і размеркаванні падзейнага раду.

Аднак у творы няма фрагментарнасці. Сувязь паміж часткамі трымаецца маральна-этычнай пазіцыяй аўтара-апавядальніка. У яго тая ж задача - пранікнуць у псіхалагічна-аналітычныя матывацыі герояў. Усе лірычныя адступленні і аўтарскія апісанні - а яны кароткія па аб'ёме, але ёмістыя па змесце - па прынцыпе своеасаблівай праекцыі ўключаюцца ў сацыяльна-побытавую канву, у якой побыт выступае як звычайны асяродак з пэўнымі ўмовамі для жыцця. Героі не нівеліруюцца ў імкненнях: у кожнага сваё ўспрыманне рэчаіснасці, а з гэтага вынікаюць дзеянні і іх матывацыі. Напрыклад, камуніст Мітрафан ідзе на могілкі падчас пахавання, каб вастрэй адчуць жыццё, яго сэнс і непаўторнасць; ён хоча зразумець дзядзьку Паўла, няўдаліцу і басяка, які цяпер ляжыць у хаце хворы. У глыбокім роздуме раніцай ідзе на агароды Макей Пілат; ён слухае гаману наваколля, у думках перабірае перажытае і супастаўляе яго з рэальнасцю. Парфір Кіяцкі не можа ўцяміць, чаму ў яго як бы нейкая раздвоенасць ва ўспрыманні рэчаіснасці; у сувязі з гэтым ён пачынае спрачацца сам з сабою, потым узнікае канфлікт з жонкай, які прыводзіць да разрыву ў адносінах, а пасля і з верай. У апавяданні відавочны прынцып адлюстравання жыцця ў цякучасці: падзеі суіснуюць як бы ў вольных адносінах, аднак не з'яўляецца адчування хаатычнасці, бо ўвесь "паток" свядомасці асэнсаваны аўтарам-апавядальнікам у дзеяннях канкрэтных герояў.

Паслядоўна Кузьма Чорны вызваляўся ад уплыву маладнякоўскай паэтыкі, яе пафасна-рамантычнай узнёсласці, а разам з гэтым і штучнай эстэтызаванасці вобразаў. Усталёўвалася рэалістычная манера пісьма. Праяўлялася і ўмацоўвалася мастацкая тэндэнцыя да пранікнення ва ўнутраны свет герояў.

У пазнейшых апавяданнях "Хвоі гавораць", "Буланы", "Вераснёвыя ночы" Кузьма Чорны ў мастацкіх пошуках падымаецца на новы ўзровень філасофска-эстэтычнага асэнсавання рэчаіснасці. Да гэтага ўжо ў асноўных рысах сфарміравалася канцэпцыя чалавека, з якой вынікала філасофска-эстэтычная дамінанта творчасці, г.зн. свой вугал і маштаб разумення і асэнсавання падзей, свае адносіны да яе ў святле эстэтычнага

ідэалу, адназначна арыентаванага на чалавека. Склалася сістэма прыёмаў і спосабаў мастацкай выразнасці, якая суадносілася з прынцыпамі рэалізацыі ідэйна-творчай задумы ў рамках рэалістычнай манеры пісьма. Элементы рамантызму выцясняліся на перыферыйную ролю; яны ўжо не неслі змястоўна-эстэтычнай функцыі, а зводзіліся да своеасаблівай акрасы, якая па-свойму ў сюжэтнай дзеі афарбоўвае адносіны персанажаў, часцей закаханых, давалі дэкаратыўную аздобу. Так званы "паток свядомасці" перадаваў адчуванні, успрыманні і ўяўленні герояў падчас іх сузірання з'яў рэчаіснасці ў кантэксце эстэтычных ацэнак для характарыстыкі ўнутранага стану ў пераменлівасці, выкліканай зменай абставін і адносін з іншымі персанажамі.

У пэўным сэнсе этапным у сталым фарміраванні ўласнай паэтыкі, у якой адбіваюцца светаўспрыманне і светабачанне, якія трансфармаваліся праз мастацкія прыёмы і спосабы ў ідэйна-творчай задуме, можна лічыць апавяданне "Хвоі гавораць". Эпічная аснова гэтага твора не багатая на падзеі; яна зведзена галоўным чынам да стасункаў з дзядзькам Язэпам. Адразу прыкметна, што адсутнічае звыклы зачын з агульных фраз, з узнёслых апісанняў прыроды ў маштабных малюнках. Аўтар, ад імя якога ідзе аповед, сядзіць з дзядзькам Язэпам на беразе вузкай і неглыбокай канавы, у якой праглядваецца пясчанае дно. Яны маўчаць у роздуме. А ён хоча ўцяміць, пра што разважае дзядзька ў гэтыя мінуты. Наогул больш ведаць пра яго. А дзядзька не гаворыць, бо наогул нешматслоўны, пра нешта сваё думае. Пранікнуць у свет думак дзядзькі Язэпа, якога паважае і цэніць, - задача, над якой б'ецца аўтар-апавядальнік. Этычная далікатнасць у слове, якое выклікае давер, - гэта галоўны інструмент пазнання. Аўтар, каб адкрыць у дзядзьку сусвет, так, каб груба не парушыць яго душэўную раўнавагу, сутыкаецца з дзядзькам у самых розных сітуацыях: то ў яго перажываннях, схаваных у закутках памяці, па сыну Міхалу, які пасля хваробы памёр далёка ад дома, то падчас майстравання труны па просьбе Тамаша Арлоўскага, у якога раптоўна памерла жонка, то пры вячэрніх прагулках яго дачкі Досі з каморнікам-практыкантам, - у такіх варунках, калі чалавек можа

адкрыць у сабе самае запаветнае. Гэта ўдаецца. Пераход ад адной сітуацыі да другой перацякае ў павольную апавядальную плынь. Без інтрыг у сюжэце, які не перагружаны падзеямі, без пераносаў і сумяшчэнняў у кампазіцыі. Прастата тут хутчэй за ўсё прадстае як праяўленне майстэрства ашчаднымі вобразна-выяўленчымі сродкамі ладзіць мастацкі твор. Да таго ж у апавяданні кампактныя пейзажныя апісанні, іх месца і роля ў мастацкім кантэксце абумоўлены агульнай задумай, фарбы ствараюць настраёвасць, якая адпавядае эмацыйна-псіхалагічнай танальнасці.

У апавяданні "Вераснёвыя ночы", як і ў іншых, што блізка стаяць да яго па часе напісання ("Пачуцці", "Начлег у вёсцы Сінегах", "Буланы"), Кузьма Чорны ўсталёўвае сваю мадэль паэтыкі ўжо ў яе адноснай завершанасці: тут інтэграваны з эвалюцыйнага развіцця прыёмы і спосабы мастацкай выразнасці ў рэалізацыі ідэйна-творчай задумы, выкарыстаныя ў творах ранейшага перыяду. Праз іх своеасаблівы фільтр ішло аддзяленне рамантычных павеваў і лексікі маладнякоўцаў, пераадольвалася штучная эстэтызацыя, якая сцірала індывідуальнасць герояў. Сюжэтна-кампазіцыйная структура разгортвалася, як правіла, лінейна, г.зн. папярэдняя функцыя абумоўлівала ролю наступнай такім чынам, што творы атрымлівалі лагічна-паслядоўнае завяршэнне ў цэласнай мастацкай велічыні. Зачын пачынаўся без так званага ўступу, а з канкрэтнага факта або падзеі, што надавала дынаміку дзеянню; канцоўкі не заўсёды мелі фінал, які вынікаў з факта, ён высноўваўся з мастацкай сутнасці развіцця вобразаў. Пейзаж падаваўся ў стрымана-эмацыйнай танальнасці ў суладдзі з настраёвасцю персанажаў, таму ў агульным кантэксце набываў прадметна-мэтазгоднае значэнне.

Такім чынам устойлівыя ў сваёй эвалюцыі рысы паэтыкі Кузьма Чорны канчаткова сцвердзіў у апавяданні "Вераснёвыя ночы". Цэласнасць яе заключаецца ў адметнасці канкрэтных вобразаў у кантэксце ідэйна-творчай задумы. У працэсе іх узаемадзеяння ствараецца дэтэрмінаванасць, і гэта па сваёй сутнасці мастацка-эстэтычная аснова, якая зближае да такой ступені, калі ўжо нельга парушыць сувязі і адносіны, не разбу-

рыўшы саму дыялектыку мастацкага ўвасаблення. У апавяданні Агата, грубаватая ў побытавай мітусні, у якой топіць свае пачуцці да Асташонка, і ў той жа час пяшчотная, бо так хоча шчасця; гаспадарлівы яе брат Фэлька, у якога памерла жонка, пакінуўшы хлапчука Стасюка; няўдалы кавалер Зыгмусь Чухрэвіч, што без поспеху заляцаецца да Агаты, - кожны з іх шукае сваё простае і недасяжнае шчасце; у кожнага свая непаўторнасць характару, яна можа мець значэнне ў сувязях з тымі, хто побач; менавіта гэта сувязь на штодзённым побытавым зрэзе надае сэнс імкненням герояў. У апавяданні побытавае пададзена так, што становіцца значным, а то і вызначальным (размова Зыгмуся пра вусеняў, што аб'елі яго сад); апісанні і адступленні аўтара нітуюць вобразы і збліжаюць іх у апавядальнай плыні; партрэтны жывапіс кладзе сваю прыкметную пячатку на знешняе аблічча; паўсядзённыя ўзаеміны, у якіх прасочваецца развіццё вобразаў да развязкі задумы, абумоўліваюць сюжэтнакампазіцыйную будову; у той жа час яна завязваецца на падзейным радзе, - гэта не проста набор прыёмаў, за імі стаіць успрыманне і бачанне аўтарам рэчаіснасці, дзе пераменлівасць нясе абнаўленне для герояў у асэнсаванні сябе і свету.

У пазнейшых апавяданнях "Семнаццаць год", "Мураваны скляпок", "Макаркавых Волька" ўжо ўсталяваная мадэль паэтыкі атрымлівае некаторую своеасаблівасць. Яна вынікае з таго, што рэзка ўзмацняецца эпічны пачатак: аўтар бярэ для мастацкага даследавання складаныя людскія лёсы ў перапляценні на фоне маштабных гістарычных працэсаў (першая імперыялістычная вайна, перабудова жыцця на новы лад пасля кастрычніцкага перавароту, яго наступствы падчас ломкі векавога сялянскага ўкладу). Героі прыкметна ўзбуйняюцца ў супярэчлівай повязі ўзаемаадносін; смела ідуць на канфлікты з іншымі і сабою, сутыкаюцца з перашкодамі, якія пераадольваюць цаной вялікіх высілкаў. Такія перамены ў змесце патрабавалі перагляду сістэмы прыёмаў і спосабаў мастацкай выразнасці, каб з найбольшай дакладнасцю рэалізаваць ідэйнатворчую задуму. У сюжэтна-кампазіцыйнай структуры ўзнікае новае: яна ўжо не цалкам лінейная, як у асноўным у ранейшых

апавяданнях, - ствараецца на перастаноўках некаторых эпізодаў падзейнага раду, што выводзіць герояў за межы побытавага часу. Учарашні дзень, як і заўтрашні, набліжаецца; яны становяцца сённяшняй рэальнасцю. У паэтыцы арганічна з'яўляецца адметны дадатковы кампанент, які ўзбагаціў яе новым гучаннем, - гэта аналітычна-псіхалагічныя адступленні і апісанні ад імя аўтара і герояў. Гэта істотна рассунула мастацкі кантэкст: ён насычаецца філасофскім роздумам аб вечных праблемах, якія закранаюць герояў, прычым, як правіла, на рэзкім зломе, што дае ім значную сэнсавую вагу. Напрыклад, як у Пятра Тадаровіча, героя апавядання "Семнаццаць год". У час бою яго лёгка параніла. У героя ёсць выбар: скарыстаўшы момант, збегчы з фронту або прайсці нядоўгае лячэнне, пасля якога, аднак, зноў пагоняць на перадавую. Дапамог выпадак: пасля бою выратаваў параненага палкоўніка, пакінутага па неабачлівасці санітарамі, і той у знак вялікай удзячнасці выбавіў Пятра ад вайсковага абавязку, апрача таго, даў са сваіх уладанняў участак зямлі. Але драма не мінула Пятра: ён страчвае галоўную апору ў жыцці - сям'ю: вайсковы начальнік збіў яго цяжарную жонку так, што яна нарадзіла нежывое дзіця, а потым памерла. Аўтар неаднаразова заглыбляецца ў думкі і перажыванні Пятра; яны перадаюцца з разуменнем псіхалагічных матывацый у дзеяннях героя. Падобныя аўтарскія адступленні паўтараюцца, прычым, у асабліва драматычных сітуацыях.

У апавяданні "Мураваны скляпок" Тоня Базылькевіч, які застаўся сіратою ў дваццаць гадоў, працавіты сялянскі хлопец, ідзе на свядомы абман, каб не трапіць на вайну: падчас прызыву ў армію спускае амаль усю сваю гаспадарку для подкупу знаёмага доктара, які за грошы зрабіў тое, што трэба было. У выніку Тоня з аслабленым зрокам застаецца дома, дзе працягвае майстраваць свой мураваны скляпок. У героя ўзнікаюць напружаныя адносіны з суседам мельнікам Сымонам Бірылам, якому направіў малатарню, і каханай жанчынай Насцяй, наогул ці не ўсёй вясковай грамадою, бо здзічэў у пастаяннай рабоце па гаспадарцы. Гэта аддаліла ад людзей, зрабіла замкнутым і скупым, звузіла свет да такой меры, што мураваны скляпок ака-

заўся адзінай каштоўнасцю.

Цяжка і складана змагаецца Тоня з самім сабою. Сутычкі з Сымонам Бірылам, які не аддае ўсе грошы за рамонт малатарні, няроўныя стасункі з Насцяй, маральныя страты ў зносінах з вяскоўцамі, - усё гэта перадаецца не толькі ў падзеях; Тоня ў роздуме над сэнсам сваіх дзеянняў; паяўляюцца ацэнкі і самааналіз: *"Ён усё часцей і часцей заглядваў у люстэрка, праз кожныя дзён чатыры пачаў брыцца, вечарамі, прыадзеўшыся, выходзіў на вуліцу… Папацёмку ён праходзіў некалькі разоў з канца у канец вуліцу, па шмат разоў спыняўся супроць Насцінай хаты…"* [5, с. 280]. Паволі - эпізод за эпізодам - Тоня вастрэй адчуваў недарэчнасць сваёй зацятасці на гаспадарцы; трэба быць з людзьмі, з імі ладзіць, бо ёсць жа не толькі Бірыла, а добрыя і душэўныя, як Насця. Так на побытавым узроўні адбываўся паварот у каштоўнасных арыентацыях.

З часу вучобы за школьнай партай перасякаліся дарогі Сафрона Дзядзюлі і Волькі, якая прыехала ў вёску з бацькамі-бежанцамі падчас імперыялістычнай вайны. Яна, маладая і энергічная, поўная мараў і надзей, цягнулася да ведаў, хацела пасля школы вучыцца далей. У Сафрона ж былі іншыя планы - узяць Вольку за жонку. Тут і завязаўся канфлікт. Ён не стаўся лакальным: аўтар выводзіць герояў апавядання "Макаркавых Волька" на шырокі грамадскі фон, падае іх у звязку з абстаноўкай таго часу, калі пралетарскія актывісты энергічна дзейнічалі ў дзяржаўных установах дзеля сваіх мэтаў. Аўтар вядзе Вольку праз выпрабаванні на стойкасць; і яна выстаяла; больш таго - стала доктарам. Справядлівасць бярэ верх. У апавяданні ў кампазіцыі - перастаноўкі частак, якія ставяць герояў у складаныя сітуацыі, калі выяўляецца сапраўдная цана чалавека.

Характэрная асаблівасць мастацкіх прыёмаў выразнасці ў апавяданнях ваеннага часу ў тым, што ў іх адсутнічаюць баявыя дзеянні. Перадавая далёка. У тыле людзі змагаюцца за сваю свабоду; не жадаюць скарыцца акупанту. Пісьменнік даследуе тонкую матэрыю - духоўныя ўстоі чалавека. Прыёмы і спосабы мастацкай выразнасці ўзаемадзейнічаюць так, што

працуюць на развязку, дзе рэалізуецца творчая задума. Як правіла, гэта самы драматычны эпізод. У апавяданні "На папялішчы" незнаёмы чалавек разважае сярод астанкаў згарэлых будынін і абсмаленых садоў аб тым, што тут было да вайны. Ён тут жыў, і ён прыйшоў сюды, каб пабачыць свайго сына Косціка. Аповед аб зверствах фашыстаў з вуснаў жанчыны, сустрэтай на папялішчы, скаланае франтавіка прылівам нянавісці, і ён вырывае ў немца, што заблудзіўся тут, з рук вінтоўку і страляе ў яго. У адным эпізодзе, які падрыхтаваны логікай падзей, такая канцэнтрацыя эмоцый, што яны, як выбух, мацнейшы за грукат танка.

У апавяданні "Прасторны дом" звычайны вясковы жыхар Банадысь Татарынчык нішчыць фашыстаў. Ён да вайны зладзіў дзве хаты; апошнюю - прасторную і светлую для ўсёй вялікай сям'і, якую вайна раскідала немаведама дзе. Цяжка перажывае Банадысь. Ён спадзяваўся, што пасля вайны дзеці абавязкова збяруцца ў яго хаце зноў. У самы адказны момант, калі фашысты размясціліся ў хаце Банадыся на начлег, гаспадар прымае рашэнне - спаліць сваё жытло, каб у агні знішчыць ворага. Полымя над роднай хатай, дзе гінуць акупанты, становіцца ачышчальнай сілай для спакутаванага сэрца Банадыся.

У апавяданні "Вялікае сэрца" - у адрозненне ад іншых, што прысвечаны вайне, - паэтыка ўзбагачаецца запамінальнай мастацкай дэталлю. У голлі дуба, што падняўся на сядзібе Пархвена Катлубовіча, у шэрагу эпізодаў, як правіла, драматычных, узнікае сонца. Яно становіцца жывым вобразам, у якім адлюстравалася нязломная сіла такіх людзей, як Пархвен, што біўся да вайны з п'яным пеўнем, і яго дачка Марыля.

Нарэшце ў апавяданні "Маленькая жанчына" непаўнагадовая дзяўчынка, якая пад бомбамі ў натоўпе бежанцаў вядзе на ўсход двух дзетак, ператвараецца ў сімвал. Пісьменнік не дае ёй імя, і гэта заканамерна: дзяўчынка становіцца сімвалам, за якім прачытваецца заўтрашні дзень з вялікай перамогай.

Відавочна, што адмысловыя мадэль паэтыкі ў апавяданнях Кузьмы Чорнага - гэта дынамічная мастацка-эстэтычная з'ява, якая, будучы прыналежнасцю творчага працэсу, мае сваю

спецыфіку. Як сістэма сродкаў мастацкага ўвасаблення ў кожным апавяданні надзяляецца аўтарам адпаведным наборам прыёмаў; яны знаходзяцца ў пастаяннай дыялектычнай сувязі і руху, які вядзе за сабой вобраз, дае яму развіццё і індывідуальнае эстэтычна-псіхалагічнае аблічча. Безумоўна і другое: гэта своеасаблівы ў сваёй самакаштоўнасці абавязковы прадукт суб'ектыўных адносін аўтара да сваіх персанажаў, здольнасці творчым уяўленнем ствараць жыццёвыя абставіны і канфлікты, дзе выяўляецца духоўна-псіхалагічны свет герояў. Яны ўзаемадзейнічаюць у пэўным сацыяльным і грамадскім асяродку, сутыкаюцца з побытавымі праявамі; кожны мае свае інтарэсы і матывацыі, з якіх фарміруецца філасофія будзённых спраў чалавека ў штодзённым шуканні свайго месца ў жыцці. Гэтыя інтэнцыі пісьменнік дакладна перадае сродкамі і спосабамі мастацкай выразнасці. Толькі ў сістэме яны раскрываюць сваё эстэтычнае, псіхалагічнае і эмацыйнае ўздзеянне, якое цалкам ахоплівае ўсё апавяданне, дзе адносіны герояў закончаны ў межых аўтарскай творчай задумы.

---


1. Адамович, А. Собрание сочинений. В 4-х т. Т. 2. - Мн.: Маст. літ., 1982. - 606 с., 4 л. ил.

2. Мельнікава, А. М. Паэтыка твораў Кузьмы Чорнага: манаграфія / А. М. Мельнікава; М-ва адукацыі РБ; Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны. - Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2008. - 188 с.

3. Навуменка, І. Я. Ранні Кузьма Чорны (1923-1929) / І. Я. Навуменка. - Мн.: Беларуская навука, 2000. - 95 с.

4. Тычына, М. А. Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення / М. А. Тычына; Навук. рэд. В. Ул. Івашын. - Мн.: Бел. навука, 2004. - 168 с.

5. Чорны, К. Вераснёвыя ночы: Апавяданні, раман / Кузьма Чорны; Уклад. Т. Грамадчанкі, А. Гурскай. - Мн: Маст. літ. 2003. - 429 с. - (Беларуская проза ХХ стагоддзя).

# Апавяданні Галіны Багданавай: асаблівасці мастацкага часу

У сучаснай беларускай пісьменніцы Галіны Багданавай ёсць шэраг арыгінальных твораў, у якіх расповед вядзецца пра творчых людзей і творы мастацтва (раздзел "Вандроўкі па-за часам" кнігі "Сакрамэнта" (2010). Адпаведна кожны твор прысвечаны самому творцы або герою пэўнага твора мастацтва, што пазначана ў загалоўках (напрыклад, "След Сапфо", "Загадка Леанарда", "Радэнава вакханка", "Белая ружа Гаўдзі", інш.); прычым аўтар згадвае ў апавяданнях не толькі канкрэтныя творы мастацтва, а спрабуе даследаваць псіхалогію творчасці мастака. Варта адзначыць, што кожны тэкст мае свой падзагаловак, які спрычыняецца да сэнсавага і фармальнага планаў твора - напрыклад, апавяданне "Профіль на пяску" мае падзагаловак "Ля вытокаў салярных знакаў", дзе аўтар пазначае пэўны часава-прасторавы пласт, які створаны ў тэксце; "Прыгожая прыйшла" з падзагалоўкам "Тры каханні Неферціці" распавядае пра пачуццёвае жыццё старажытнаегіпецкай царыцы; у падзагалоўку "Гліняны аскепак Парыжа" да твора "Радэнава вакханка" называецца мастацкая дэталь, якая паслужыла штуршком да пераходу аўтарам-апавядальнікам паміж часавымі пластамі; "Загадка Леанарда" пабудавана ў форме дыялогу, што пазначана ў падзагалоўку да апавядання - "Дыялог праз люстэрка", "Белая ружа Гаўдзі" распавядае пра "Дзень у прасторы генія", інш.

Паколькі ў апавяданнях расповед ідзе пра людзей мастацтва мінулых эпох, зразумела, што аўтару трэба было знайсці спосаб сувязі з сучаснасцю, каб паказаць герояў як рэальных асоб; рэалізуючы гэту неабходнасць, пісьменніца, каб надаць больш аб'ектыўнасці расповеду, бярэ на сябе ролю апавядальніка. Гэта дае магчымасць стварыць аптымальную мадэль мастацкага часу, што ў сваю чаргу дазваляе быць відавочцам падзей даўніх дзён, уступаць у прамы кантакт з творцамі, быць іх памочніцай і сяброўкай, нават каханкай (напрыклад, у тэкстах

пра французскага скульптара Агюста Радэна і іспанскага архітэктара Антоніа Гаўдзі) [2].

Праблема мастацкага часу з'яўляецца адной з важных у літаратуразнаўстве. Мастацкі час - гэта форма існавання мастацкага свету; у мастацкім часе адбываюцца дзеянні мастацкага твора; ён не выражае рэальна існуючага часу, гэта пэўная мадэль рэчаіснасці, дзе пераплятаюцца рэальнае і вымысел, што ўтвараецца дзякуючы таленту і фантазіі пісьменніка. Мастацкі час гэта не толькі асобы спосаб пазнання свету і сродак *"мадэлявання віртуальнай рэальнасці мастацкага тэксту, але і спосаб індывідуальна-аўтарскай канцэптуалізацыі часу"* [4, с. 382], адным са спосабаў якой з'яўляецца спалучэнне ў тэксце розных тэмпаральных планаў. У катэгорыі мастацкага часу можна выдзеліць фармальны і змястоўны бакі (план зместу і план выражэння). У плане зместу мастацкі час характарызуецца складанасцю і шматзначнасцю. Ён служыць не толькі для часавай лакалізацыі падзей, але і ўказвае на характар існавання іх у тэксце і выражае суб'ектыўную ацэнку. Такім чынам, катэгорыя мастацкага часу акрамя часавых характарыстык *"здольная выражаць аспектуальныя і суб'ектыўна-мадальныя характарыстыкі адлюстраваных з'яў"* [3, с. 1392].

Апавяданне "Радэнава вакханка" прысвечана аднаму твору вялікага скульптара Радэна, апісанні якога засталіся толькі ва ўспамінах відавочцаў, - гэта скульптура "Вакханка". Аўтар кампануе тэкст і выкарыстоўвае яго элементы такім чынам, што абыгрываецца гісторыя стварэння дадзенага шэдэўра, у якой прасочваецца зварот аўтара да праблем творчай асобы і яе асародку. Аўтар-апавядальнік у часы Радэна аказваецца яго памочніцай Мары-Роз Бёрэ: *"Я цяпер разумею, што разам з тым тварэннем, палкаю глінянаю "Вакханкай" загінула і нашае з ім каханне. Нашае з ім. Чаму я так падумала? Няўжо зноў заблукала ў часе? І гэты акрываўлены гліняны аскепакператварыў мяне ў Мары-Роз Бёрэ?.. А як лёгка крочыла яна, Я, па гэтай брукаванцы, калі мы сустрэліся ўпершыню. Тады Радэн працаваў у іншай майстэрні, да яе адсюль недалёка. Але сустрэліся мы тут"* [1, с. 38]. У

апавяданні сумяшчаецца рознапланавы аб'ектыўны час: сёння, дзе апавядальніца паехала на экскурсію ў Парыж, і даўно мінулы, калі тут працаваў Радэн; час, застаючыся такім, насычаны падзеямі, якія мелі месца ў лёсе персанажаў, стварае эфект непасрэднай аўтарскай прысутнасці. Расповед вядзецца з Парыжа, дзе аўтар-апавядальнік блукае ў пошуках старой брукаванкі і выпадкова натыкаецца на гліняны аскепак, які вырашае ўзяць на памяць. Як потым аказалася, гэта аскепак разбітай скульптуры "Вакханка", створанай Радэнам.

Пераход паміж часавымі пластамі не заўважны: *"Шукала старое, з'езджанае, стаптанае каменне, каб спатыкнуцца, упасці, пабіць, параніць калена... І параніць калена, ды не чым-небудзь, а гліняным аскепкам. Які немаведама як ушчыміўся ў брук. Я выцягнула яго, акрываўлены, са спрасаванага часам пылу. І вырашыла ўзяць на памяць. Паклала на далонь, і аглухла ад цішыні. Яшчэ некалькі імгненняў назад вушы закладала ад звыклага гарадскога шуму, а цяпер - ад цішыні. Зелянелі каштаны, трава прабівалася скрозь брук. І мне здавалася, што я чую, як яна прарастае"* [1, с. 37]. Да ўзроўню сімвала ўзнімаецца мастацка-эстэтычнае значэнне глінянага аскепка скульптуры вакханкі, разбітай Дэга і Манэ падчас перавозкі яе ў новую майстэрню Радэна. Аскепак выконвае важную ролю паміж сувязямі часавых пластоў; гэта і ўчора, у якім працуе Радэн, і сёння, калі апавядальнік блукае па сучаснаму Парыжу, гэта і заўтра, якое захавае працы скульптара і памяць аб ім. І, безумоўна, заўважаецца ў падтэксце: аскепак скульптуры нібы ўяўляе сабой знак таго, што абсалютнага ідэала прыгажосці не існуе [2].

Вось аўтар каля варот майстэрні Агюста Радэна, і ў яго такое ўражанне, што трапляе ў іншы свет, які, аднак, рэальны - як натуральны працяг папярэдняга на брукаванцы. Пераход з сённяшняга ў мінулае практычна не заўважны, трансфармацыя часавай плыні, адлюстраванай у падзеях, адбываецца плаўна, без рэзкіх пераходаў - толькі адчуванні аўтара-апавядальніка, які знаходзіцца нібы ў двух часавых вымярэннях - рэальным,

які вяртае ў эпоху вялікага скульптара, і ў дне сённяшнім, створаным яго ўяўленнем. Падзеі, якія складаюць тэмпаральныя плыні, рухомыя і плаўныя ў развіцці; яны выбудаваны адна адносна другой такім чынам, каб перадаць самыя яркія старонкі жыцця скульптара. Час нібы спыніўся: аўтар хоча пранікнуць ва ўнутраны свет Радэна, каб усвядоміць яго ідэю - стварыць абагулены вобраз жанчыны. *"Я танцавала без музыкі. Я сама пераўтваралася ў музыку. І ён зляпіў, сама не веру, але ён узяў вільготную, мяккую гліну і зляпіў гэты мой танец, маю музыку. І ў той скульптуры, у той вогненнай Вакханцы жыў, пульсаваў кожны дотык ягоных пальцаў. Не паверыце, гліна дыхала. І Манэ, і Дэга былі ў захапленні. Яны паабяцалі, што гэтая скульптура будзе абавязкова экспанавацца на выстаўцы, і што яна будзе мець шалёны поспех. Радэн быў шчаслівы, упершыню за ўсё сваё жыццё ён адчуваў сябе абсалютна шчаслівым. Ён быў прызнаны, і я, нічога не патрабуючы, была побач"* [1, с. 38-39].

Каб стварыць уражанне рэальнасці таго, што адбываецца, пісьменніца выкарыстоўвае ў тэксце рэаліі часавых пластоў: імёны (Манэ, Дэга, Мары-Роз, Каміла Кладэль) людзей, якія былі блізкія да Радэна, падзеі, што адбываліся ў жыцці скульптара (стварэнне скульптуры, пераезд у новую майстэрню, інш.). Адштурхоўваючыся ад скульптуры, а менавіта ад самага працэсу стварэння, аўтар закранае пытанні духоўна-душэўныя, узнімаецца да ўзроўню пачуццяў і адчуванняў. У тэксце прачытваецца своеасаблівая сувязь "чалавек - душа - скульптура": *"Я выношвала нашага сына, а мой танец агню застаўся Вакханцы. Яна забрала маю душу, дакладней, Радэн перадаў ёй маю душу і голас майго цела. Потым, калі ягоныя жанчыны прыходзілі да мяне высвятляць адносіны, я спрабавала растлу-мачыць ім, што Радэн ад іх вяртаецца да мяне не таму, што я яго трымаю, а таму што ён у кожнай з іх забірае душу, голас цела і перадае іх мармуру, гіпсу, бронзе. Ён любіць, кахае тыя свае тварэнні значна больш за жывых жанчын, але яны не верылі мне. Кожная думала, што здолее стаць для яго адзінай. А я ні на вошта не спадзявалася. Ні*

*цяпер, ні тады. Калі мая душа і мой голас засталіся Вакханцы"* [1, с. 39].

Некалькі па-іншаму прадстаўлены мастацкі час у апавяданні "Загадка Леанарда" пра вялікага Леанарда да Вінчы і яго бессмяротную карціну "Джаконда". Па-першае, рух падзей, у якіх заключана часавая прастора, перадаецца ў форме дыялога. Па-другое, гэты дыялог адлюстроўваецца ва ўмоўным люстэрку, з дапамогай чаго рэалізуецца мэта - даць у мастацкай форме аб'ектыўнае ўяўленне пра сутнасць творчасці майстра: просты люстраны адбітак не можа скрывіць суб'ектыўнымі ўяўленнямі рэальны вобраз. Аўтар, пераадолеўшы час, распачынае размову з мастаком. Гэта ў пэўным сэнсе дыскусія, дзе прысутнічаюць элементы спрэчкі, развагі пра свабоду адлюстравання ідэй і думак, залежнасці творцы ад мецэната; згадваюцца норавы эпохі, падаюцца невялікія эпізоды з жыцця творцы, дыялог перапыняецца аўтарскімі адступленнямі, якія разбіваюць структуру твора на фрагменты, але цэласнасць яе захоўваецца сувяззю па лінейнай, прычынна-выніковай і асацыятыўнай залежнасці.

У апавяданні "Белая ружа Гаўдзі" аўтар разбівае тэкст на часткі, якія ўяўляюць сабой перыяды жыцця творцы, у кожным з іх адлюстроўваецца канкрэтная падзея, якая аказала ўплыў на жыццё і творчасць вялікага іспанскага архітэктара Антоніа Гаўдзі. Характэрна, што ў кожным перыядзе ёсць свой сімвал (напрыклад, храм, які марыць узвесці Антоніа, дом без кутоў, пабудаваны ім, белая ружа, якая служыць крыніцай любові); сімвалы ў тэксце ўвасабляюць сабой своеасаблівыя вехі не толькі ў лёсе Антоніа, яны ўспрымаюцца як вяршынныя з'явы архітэктуры канкрэтнага часу, які заключаны ў творы, яны паказваюць адносіны людзей да дзеячоў архітэктуры і мастацтва, а значыць, і да каштоўнасцяў, якія маюць гістарычнае значэнне. Варта адзначыць, што сімвалы не разрозненыя ў плыні падзей; яны не лакалізуюцца; яны звязаны паміж сабой асобай творцы, што дазваляе аўтару стварыць у тэксце своеасаблівую віртуальную экскурсію па ўнутраным свеце і сістэме каштоўнасцяў архітэктара, перастворанай творчым уяўленнем

аўтара. Час разгортваецца так, што вобраз творцы захоўвае цэласнасць, ён раскрываецца ў разнастайнасці праяў характару: гэта і вялікі архітэктар, і закаханы мужчына, і звычайны чалавек. Ад сімвала да сімвала плыве тэмпаральная плынь, створаная з падзей, якія вызначаюць лёс і творчасць архітэктара; іх суаднесенасць і паслядоўнасць знаходзяцца ў межах канцэпцыі, у якой выражаны светаўспрыманне, жыццёвы вопыт і мастацкае мысленне аўтара.

У апавяданні "Прыгожая прыйшла" цікава абыгрываецца гісторыя адкрыцця выяў старажытнаегіпецкай царыцы Неферціці - у творы даецца не проста апісанне бюста Неферціці, але і ствараецца спроба праз адухаўленне яе паказаць пачуцці царыцы як жанчыны, закранаючы факты з яе жыцця, згадкі пра старажытнаегіпецкае мастацтва і міфалогію, гісторыю знаходкі выяў Неферціці. У вобразах дзвюх жанчын (Неферціці і жонкі археолага, які адкрыў выявы царыцы для свету) своеасабліва сутыкаюцца розныя эпохі; сённяшні дзень перацякае ў мінулае, а яно, у свой час, пластычна пераходзіць у заўтра, што дае магчымасць выявіць галоўнае ў лёсе Неферціці, пранікнуць у яе ўнутраны свет, перадаць своеасаблівасць гістарычнай эпохі. Значная частка эпічнай асновы дадзенага твора складаецца з падзей, якія ўтрымліваюцца ў дзённікавых запісах маці пані Магды, чый дзённік сама пані Магда дала аўтару-апавядальніку. Як расказваецца ў адным з запісаў, са скульптурнай выявы, з бюста, які стаіць на стале ў каюце "Тытаніка", па законах мастацтва ўваскрашаецца старажытнаегіпецкая царыца Неферціці; яна, аддаленая ад аўтара стагоддзямі, становіцца яго сучасніцай і ўспрымаецца рэальнай асобай. У структуру аповеду ўключаюцца аўтарскія адступленні, што дазваляе стварыць сітуацыю, калі аўтар і герой выступаюць у ролі сведкі і ўдзельніка іх кароткіх рэплік, што дапамагае бачыць рух часу.

Аўтар у апавяданні выкарыстоўвае розныя сродкі для стварэння максімальнага набліжэння да творцы і яго шэдэўра, для стварэння выключна праўдзівай гісторыі. Можна сказаць, што гэта дасягаецца і за кошт выкарыстоўвання ў тэксце ўласных блізкіх кантэкстаў: паказ свайго ўнутранага свету, элемен-

таў біяграфіі (напрыклад, у размове з работадаўцам на пачатку апавядання згадваюцца рэаліі канца 90-х гадоў XX стагоддзя, журналісцкая адукацыя аўтара, інш.).

Суровая зямная рэальнасць, у якой невыносная спёка змяняецца зімовай сцюжай, і новая рэальнасць, якая адкрылася ў чароўным палацы, які сышоў з карціны мастака, арганічна сумясціліся ў творы "Космас Драздовіча". Аўтар уводзіць чытача ў складаны ўнутраны свет мастака; мастак з дапамогай рэтраспекцыі трапляе ў мінулае, дзе засталіся яго творчыя работы, прысутнічае і ў сённяшнім дні з развагамі пра мастацтва, жывапіс, пра месца беларускай мовы на радзіме і ўвогуле пра лёс Беларусі. Зноў жа варта адзначыць, што тэкст нагадвае своеасаблівую віртуальную экскурсію па карцінах, адчуваннях, перакананнях мастака. А раздваенне ў часе абумоўлена мастацкай арганізацыяй твора, не парушае цэласнасці вобраза мастака, наадварот, ёсць магчымасць лепш асэнсаваць яго творчасць у мінулым, ацаніць яго значэнне для заўтрашняга дня.

Варта адзначыць, што аўтар у апавяданнях для сувязі тэмпаральных пластоў выкарыстоўвае нейкую дэталь творчага свету мастака (напрыклад, аскепак скульптуры Радэна, адбітак далоні Сапфо, бюст Неферціці, выявы з карцін Драздовіча, інш.). Гэтая дэталь служыць штуршком для злучэння часавых патокаў, якія выбудаваны такім чынам, каб перадаць самыя яркія і драматычныя старонкі жыцця творцы або героя твора мастацтва. Напрыклад, у апавяданні "След Сапфо" адбітак далоні Сапфо звязаны з адчуваннем цяпла, цяпло дорыць мармур, цяпло дорыць сонца: *"Мармур быў не шурпатым і не халодным. Ён быў гладкім і цёплым... Сонца садзілася за далягляд і ўжо з-за мора, з самае далечыні пасылала мне, ці можа, не мне, а Ёй? Вядома ж, Ёй, Ёй Сонца пасылала свой апошні, ружовы, з зеленаватым водсветам вострый промень"* [1, с. 26]. Таксама варта дадаць, што, як правіла, у творах час рэальны і мастацкі (створаны ўяўленнем аўтара-апавядальніка) маюць падобную структуру: падзеі, што адбываюцца з героем, падобныя да таго, што адбываецца з аўтарам-

апавядальнікам, або апавядальнік згадвае сваё "ўчора-сёння-заўтра" і герой твора таксама або прыгадвае, або паказаны ў кантэксце яго ўласнага "ўчора-сёння-заўтра". Напрыклад, у творы "Профіль на пяску" кампазіцыя пачынаецца і завяршаецца эпізодам з сённяшняга часу аўтара-апавядальніка, асноўная частка апавядання будуецца ва ўяўным часе, дзе апынаецца аўтар-апавядальнік, толькі ў іншай іпастасі. У часе сённяшнім і ў часе даўно мінулым прысутнічае нібы адна жанчына, тут і там у жанчыны ёсць сын, у адной частцы ён толькі нарадзіўся, у другой - ужо падлетак. А пераход з аднаго часавага вымярэння ў другое адбываецца праз пераход-сон ва ўяўленні апавядальніцы: *"Пакуль што мяне змусілі забыцца, заснуць,ператварыцца ў бязвольную знямелую субстанцыю. Мяне паглынула бязважкасць, бяздонны калодзеж у нікуды. Ён зацягваў мяне, ці ўжо й не мяне… І там, у глыбіні, у часавай бездані я зноў была аслеплена сонцам…"* [1, с. 5]. У часе ўяўным таксама ёсць падзел на тэмпаральныя фрагменты, у якіх гераіня знаходзіцца ў дадзены момант, таксама ў сваім менш аддаленым і больш аддаленым мінулым, і прасочваюцца намёкі на тое, што, магчыма, яшчэ можа адбыцца. Вяртанне ў гістарычны для апавядальніцы час адбываецца падобным чынам, як і знікненне з яго: *"…я зноў падыйшла да ракі, зайшла ў ваду. Нахінулася, прыгледзелася і… патанула ў сваім адбітку, у імклівай плыні часу"* [1, с. 12]. Таксама падобная фрагментацыя ў часе гераінь ёсць у апавяданні "Прыгожая прыйшла": пані Магда і Неферціці з пункту гледжання часавых напластаванняў прадстаўлены падобна, у кожнай з іх паказана ў тэксце мінулае разам з адчуваннямі і сённяшні час, які ствараецца ў тэксце.

Відавочна, па сваёй насычанасці падзеямі, якія мелі месца ў розныя часы, па іх эмацыянальна-каштоўнаснай значнасці і месцы ў сюжэтна-кампазіцыйнай структуры твора мастацкі час ў апавяданнях Галіны Багданавой дастаткова разнастайны, але заўсёды звязвае сённяшні дзень аўтара-апавядальніка і сёння героя твора (г.зн. той час, калі герой жыў і ствараў свае лепшыя творы). Фрагментацыя тэкставай структуры адбываецца ў

адпаведнасці з задумай, бачна ключавая роля сімвалаў, таксама выкарыстоўваюцца розныя віды сувязі паміж падзеямі, і гэта, як і іншыя тэмпаральныя элементы, вызначаецца творчымі задачамі ў канкрэтным тэксце.

________________________

1. Багданава, Г. Сакрамэнта: апавяданні, аповесці / Г. Багданава. - Мінск: Медысонт, 2010. - 308 с.

2. Кузьмич, Н. В. Модель художественного времени и концепция литературного произведения / Н. В. Кузьмич // European Science review. - 2014. - № 2 (March-April) / Vienna, OR: "East West" Association for Advanced Studies and Higher Education GmbH. - С. 157-159.

3. Нестерик, Э. В., Мухатаева, А. А. Художественное время как литературная и текстовая категория / Э. В. Нестерик, А. А. Мухатаева / / Молодой учёный. - 2015. - № 9(89). - Часть XIII. - С. 1391-1393.

4. Широкова, Е. Н. Полиаспектность художественного времени как средство индивидуально-авторской концептуализации времени / Е. Н. Широкова // Вестник Нижегородского университета им. Н.И. Лобачевского. - 2012. - № 2(1). - С. 381- 385.



# *Галіна Кавальчук*

***Галіна Кавальчук*** *нарадзілася ў 1960 годзе на Нясвіжчыне. Закончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт па спецыяльнасці філасофія. Працяглы час (1999-2021) працавала ў Навабградскім гістарычна-краязнаўчым музеі на пасадах галоўнага захавальніка фондаў і навуковага супрацоўніка музея. Займаецца даследаваннем гісторыі Наваградчыны. Друкавалася ў зборніках навуковых канферэнцый "Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы" (Да 600-годдзя Грудвальдскай бітвы), Мінск, 2010; "Людзі і ўлада Навагрудчыны: гісторыя ўзаемадзеяння" (Да 500-годдзя надання Навагрудку Магдэбургскага права), Мінск, 2013 г.; часопісе "Наша гісторыя", іншых рэспубліканскіх і рэгіянальных СМІ. Даследуе тэмы "Тапаніміка Навагрудчыны", "Сталінскія рэпрэсіі на Навагрудчыне", збірае ўспаміны ў мясцовага насельніцтва па тэме "Паўсядзённая гісторыя".*

## Лёс храмаў Навагрудчыны ў другой палове XX стагоддзя

Напярэдадні Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Навагрудчыны знаходзіліся Сабор Святога Мікалая, царква Барыса і Глеба, касцёл Святога Міхаіла, касцёл Перамянення

Пана (Фарны), касцёл Святога Казіміра ва Уселюбе, каталіцкія капліцы на могілках у Навагрудку і ў Мількавічах, капліцы ў вёсках Сулятычы і Несутычы, яўрэйскія сінагогі ў Навагрудку, Уселюбе і Любчы, татарскія мячэці ў Навагрудку і Лоўчыцах, праваслаўныя цэрквы ў Любчы, Шчорсах, Уселюбе, Вераскаве, Лаўрышаве, Ваўковічах і інш.

Адразу пасля заканчэння вайны мясцовыя ўлады ўзялі курс на навядзенне парадку ў справе рэлігійнага веравызнання. Пачаўся жорсткі пераслед каталіцкага і праваслаўнага духавенства. Зачыняліся касцёлы і цэрквы, многія з іх былі ператвораны ў склады зерня, мэблі, спартыўныя залы, архівы, жылыя памяшканні і інш.

Пачаткам адліку барацьбы з рэлігійным жыццём на тэрыторыі Навагрудчыны можна лічыць сакавік 1946 года, калі было прынята рашэнне Навагрудскага райвыканкама аб пераводзе Навагрудскага дома інвалідаў у мястэчка Уселюб, у дом, дзе раней пражываў ксёндз. А ў 1950 годзе Уселюбскі касцёл перададзены раённай нарыхтоўчай канторы для размяшчэння ў ім складоў пад зернесховішча, а годам пазней пад склад Навагрудскай ільнонасеннай станцыі. Затым касцёл быў прыстасаваны пад фізкультурную залу. А ў 1960-ыя гады, у час пажару, завяршэнне вежы, дах і сістэма перакрыццяў асноўнага аб'ёму, прэсбітэрыя, паўночная сакрыстыя, а таксама ўсе элементы інтэр'еру былі знішчаны.

15 жніўня 1946 года Наваградскі райвыканкам прымае рашэнне адносна лёсу сінагогі ва Уселюбе. Рашэнне зацвярджаецца Уселюбскім сельвыканкамам, і будынак былой сінагогі перадаецца Уселюбскаму спіртзаводу для прыёмкі і засыпкі зерня.

У 1948 годзе райкультпрасветаддзелу пад дом піянераў быў перададзены будынак Навагрудскай мячэці, а ў 1949 годзе пустуючы будынак мячэці перадалі Добраахвотнаму таварыству садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту (ДТСААФ). Пазней Навагрудская мячэць была прыстасавана пад жылыя памяшканні.

З пачатку 1950-х гадоў пачалося масавае закрыццё малітоўных будынкаў. Прымаецца цэлы шэраг рашэнняў адносна

лёсу навагрудскай сінагогі, будынак якой размяшчаўся адразу за касцёлам Святога Міхаіла. У 1950 годзе Навагрудскі гарвыканкам прымае рашэнне, згодна з якім цагляная каробка былой сінагогі перадаецца Навагрудскаму райспажыўсаюзу пад матэрыяльна-тэхнічную базу раённай нарыхтоўчай канторы. А ў кастрычніку 1951 года для павелічэння пляцоўкі пад будаўніцтва зернесховішча мельзаводу №15 Навагрудка было адведзена 0.14 га тэрыторыі яўрэйскіх могілак.

Асобна хочацца расказаць пра пасляваенную гісторыю касцёла Святога Міхаіла, які знаходзіцца на перакрыжаванні вуліц Міцкевіча і Савецкай. У 1948 годзе, нягледзячы на супраціўленне прыхаджан, касцёл быў зачынены і ператвораны ў зернесховішча. Некалькі абразоў, у тым ліку і абраз Арханёла Міхаіла, цудам удалося выратаваць прыхаджанам. Ён доўгі час знаходзіўся ў адной з капліц Фарнага касцёла. Абразы Езуса Хрыстуса і Маці Божай захоўваліся ў сястры Малгажаты, адной з дванаццаці сясцёр каталіцкай кангрэгацыі Найсвяцейшай сям'і з Назарэта, якая пасля вайны вымушана была жыць у сакрыстыі Фарнага касцёла.

Астатняя маёмасць касцёла ўзята на ўлік райфінаддзела. Па акту вопісу маёмасці, у касцёле было канфіскавана 378 прадметаў рэлігійнага культу, у тым ліку абразы, скульптуры, партрэты, перасоўныя алтары, кленчнікі для малення, распяцці, крыжы, падсвечнікі, званочкі, падносы, мэбля і многае іншае. Канфіскаваная маёмасць часткова рэалізоўвалася праз сетку крамаў райспажыўсаюза, Навагрудскі райунівермаг і Уселюбскае сельскае спажывецкае таварыства, часткова перадавалася розным арганізацыям і ўстановам на іх патрэбы. Так, у снежні 1951 года, раённы выканаўчы камітэт выдзеліў мясцоваму харчкамбінату для вытворчасці карамельных вырабаў чатыры мармуровыя пліты з касцёла Св. Міхаіла.

У 1953 годзе нарыхтоўчая кантора "Заготзерно", размешчаная ў касцёле, перадала Дому-музею Адама Міцкевіча бронзавы бюст паэта з плітой з чорнага граніту. Бюст быў зроблены ў Варшаве ў 1898 годзе да 100-годдзя Адама Міцкевіча і таемна ўстаноўлены ў касцёле ў 1903 годзе дачкой паэта,

Марыяй Гарэцкай. Сёння ён знаходзіцца ў Доме-музеі Адама Міцкевіча ў Навагрудку.

У 1950-я гады ў райвыканкаме часта разглядаліся пытанні пра выкарыстанне будынка касцёла Святога Міхаіла ў якасці кінатэатра, бібліятэкі, музея. Дзеля гэтай мэты памяшканні касцёла нават ачысцілі ад рэшткаў зерня, а скляпенні ад солі. Але з-за адсутнасці сродкаў ні адно з рашэнняў не было выканана. І тады касцёл прыстасавалі пад мэблевы склад і краму. У 1976 годзе, пасля таго як склад мэблі быў ліквідаваны, касцёл згарэў. У руінах ён прастаяў да 1986 года.

У 1951 годзе рашэннем райвыканкама быў зачынены касцёл "Перамянення Пана" (Фарны). Прычыны закрыцця касцёла: *"адсутнасць ксяндза і малая колькасць прыхаджан рым-ска-каталіцкага веравызнання"*.

З канца 1950-х гадоў меры дзяржавы па абмежаванню дзейнасці каталіцкага і праваслаўнага духавенства ўзмацніліся. Забаранялася праводзіць асабістую работу з дзецьмі, выязджаць для суправаджэння нябожчыкаў на могілкі, а таксама ездзіць па населеных пунктах (за выключэннем споведзі цяжка хворых), займацца зборам грошай і харчоў па-за межамі цэркваў, калядаваць, асвячаць жыллё і гаспадарчыя пабудовы вернікаў.

Пачатак 1960-х гадоў адзначыўся наступным, яшчэ больш жорсткім ціскам дзяржавы на царкву. Праваслаўныя, каталіцкія і іншыя культавыя пабудовы масава здымаліся з рэгістрацыі і зачыняліся, а многія з іх проста знішчаліся.

Так, у 1961 годзе ў Навагрудку была зачынена Барысаглебская царква. У абгрунтаванні рашэння гаварылася, што *"У Навагрудку маюцца дзве праваслаўныя цэрквы, якія знаходзяцца на адлегласці 200 метраў. Колькасць вернікаў, якія наведваюць цэрквы, малое, таму іх патрэбы могуць быць забяспечаны адным малітоўным будынкам"*. У сувязі з гэтым патрыярхальнае ўпраўленне аб'яднала два Навагрудскія прыходы ў адзін. Барысаглебская царква была зачынена. Сабор Святога Мікалая застаўся адзіным у горадзе праваслаўным храмам. З усіх храмаў Навагрудка толькі Барысаглебская царква з'ўлялася помнікам архітэктуры XII ст., таму ў ёй спачатку

хацелі адчыніць краязнаўчы музей, але калі гэта не атрымалася, размясцілі архіў, які знаходзіўся тут да 1996 года.

Пасля прыняцця ў лістападзе 1961 года Саветам Міністраў СССР пастановы "Аб узмацненні кантролю за выкананнем савецкага "Заканадаўства аб культах" паўсюль быў праведзены ўлік рэлігійных аб'яднанняў, малітоўных будынкаў і царкоўнай маёмасці. Пры выканаўчых камітэтах ствараліся камісіі, задачай якіх быў кантроль за выкананнем святарамі "Заканадаўства аб культах". Духавенству забаранялася правядзенне рэлігійнай адукацыі, асабліва сярод непаўнагадовых, а выпадкі знаходжання іх на рэлігійных службах і святах разглядалася як парушэнне заканадаўства. У 1963 годзе такая камісія была створана і пры Навагрудскім райвыканкаме. У яе склад увайшлі намеснік старшыні выканкама, загадчык парткабінета, загадчык райфінаддзела, загадчык аддзела адукацыі, загадчык аддзела культуры, галоўны ўрач бальніцы, дырэктары школ.

У пачатку 1960-х гадоў пачалі праследавацца і здымацца з уліку сельскія рэлігійныя абшчыны. У вёсцы Ваўковічы прытчавы дом быў перададзены сельсавету, зямельныя ўладанні царквы часткова перайшлі да калгаса "Перамога". Пачаўся праслед праваслаўнай грамады і яе святара Іаана Губарэвіча. У чэрвені 1963 года прымаецца рашэнне райвыканкама: Ваўковіцкую царкоўную граамаду зняць з рэгістрацыі ў сувязі з яе "распадам"; будынак царквы перадаць калгасу "Прагрэс" пад зернесклад. Пазней драўляная царква Успення Прасвятой Багародзіцы ў вёсцы Ваўковічы была разабрана, а з яе матэрыялу пабудавалі школу ў Амневічах.

У 1961 годзе была знята з рэгістрацыі царква Святой Троіцы "Падліпка", пабудаваная ў XIX стагоддзі. У ёй знаходзіўся цудатворны абраз Маці Божай (Падліпскай). Кожны год на трэці дзень Святой Троіцы (Сёмухі) да царквы ішлі людзі пакланіцца цудатворнаму абразу Божай Маці Падліпскай.

21 снежня 1961 года Падліпскую прыходскую царкву абследавала камісія і склала акт аб тым, што будынак царквы стары, драўляныя канструкцыі, балкі, страпілы, сцены, падлога амаль поўнасцю прыйшлі ў непрыгоднасць. Аднак па нейкай

прычыне царкву тады не разабралі. А ў жніўні 1962 года дырэктар Навагрудскага завода  масла і сухога малака звярнуўся да старшыні райвыканкама з просьбай прадаць Падліпскую царкву для выкарыстання яе матэрыялаў на будаўніцтва культурна-бытавых памяшканняў завода. З бярвенняў царквы была пабудавана прахадная Любчанскага сырзавода.

Пасля прыняцця ў студзені 1962 года рашэння райвыканкама аб спісанні цэркваў і перадачы іх на баланс Навагрудскага райкамунгасу на Навагрудчыне пачалося масавае знішчэнне драўлянай храмавай архітэктуры. Цэрквы спісваліся актамі, падпісанымі прадстаўнікамі мясцовай улады. У 1962 годзе, адным актам камісіі быў вырашаны лёс адразу 9 праваслаўных храмаў: Асташынскай могілкавай царквы, Нянькаўскай могілкавай царквы, Загор'е-Сенненскай могілкавай царквы, Вераб'евіцкай прыпісной царквы, Нягневіцкай могілкавай царквы, Купіскай прыпісной царквы, Вераскаўскай прыпісной царквы, прыпісной царквы ў Вялікай Ізве, прыпісной царквы ў Сянежыцах. Усе спісаныя цэрквы выкарыстаны райкамунгасам як будаўнічы матэрыял, а большай часткай, як паліва.

У 1963 годзе была закрыта царква Святога Дзмітрыя Салунскага ў Шчорсах, пабудаваная яшчэ ў XVIII стагоддзі. Яе перадалі калгасу імя Шчорса і прыстасавалі спачатку пад фізкультурную залу, а затым пад зернесховішча, у выніку чаго царква была амаль разбурана.

У чэрвені 1964 года было прынята рашэнне райвыканкама "Аб правядзенні ўзрыўных работ па абрушэнні каробкі былой сінагогі ў Навагрудку". У рашэнні гаварылася, што будынак сінагогі (XVII ст.) не з'яўляецца помнікам архітэктуры і замінае жылой забудове. Узарваць сінагогу было запланавана да 1 жніўня 1964 года. Дзеля гэтага камунгас заключыў дамову з Ленспецупраўленнем трэста "Саюзвыбухпрам" на правядзенне ўзрыўных работ. Выбух павінен быў адбыцца  2 ліпеня 1964 года ў 18 гадзін. Домакіраўніцтву было даручана выселіць жыльцоў з дамоў № 4,5,7 па вуліцы Савецкай за межы небяспечнай зоны. У размешчаных блізка ад месца ўзрыву дамах і кінатэатры "Радзіма" прадпісвалася ў момант падрыву адчыніць насцеж

вокны. Аддзелу міліцыі даручалася ачапіць небяспечную зону ў радыусе 100 метраў і забяспечыць вывад грамадзян з небяспечнай зоны. На час падрыўных работ была адключана электрычнасць. Будынак сінагогі быў узарваны 2 ліпеня 1964 года ў 2 гадзіны дня. Пра падрыў сінагогі ўспамінае жыхар Навагрудка Гурын Аляксандр Міхайлавіч. *"Я добра памятаю, у якім годзе была ўзарвана сінагога, таму што якраз тады я вярнуўся з арміі, гэта быў 1964 год. Сінагога стаяла ў цэнтры горада, дзе цяпер стаянка насупраць Дома быту. Я ў дзяцінстве чуў ад дарослых, што пры паляках сінагога працавала, а пасля прыходу саветаў яе закрылі, і яна ўжо не працавала да самага разбурэння. Помню, ішоў я недзе па сваіх справах, бачу недалёка каля будынка натоўп людзей, тэхніка розная стаіць. Пад'язджае да сінагогі кран з вялікай "грушай" і пачынае біць ёю ў сцену. А сцены тоўстыя былі, недзе метар, а можа і больш. Білі доўга, я справіўся з усімі сваімі справамі, вярнуўся назад, а "груша" ўсё біла ў сцену. Калі былі разбураны сцены, у падмуркі і рэшткі сцен сінагогі заклалі ўзрыўчатку і ўзарвалі яе. Потым некалькі дзён вывозілі цэглу машынамі, а людзі ўсё лазілі па каменнай звалцы, некаторыя нават нешта адтуль цягнулі дамоў, цэглу ці яшчэ што."*

Менавіта ў 1940 -1960-я гады храмы Навагрудчыны панеслі найбольшыя страты, большая частка цэркваў, прыдарожных капліц і крыжоў, капліц-пахаванняў былі цалкам знішчаны. Сярод іх вялікая колькасць драўлянага дойлідства, якая была страчана назаўсёды.

У канцы 1980-х палітыка дзяржавы ў адносінах да рэлігіі пачала паступова мяняцца. Пачалі ўзнікаць і рэгістравацца новыя рэлігійныя грамады, аднаўляцца закінутыя і паўразбураныя храмы, будавацца новыя. У 1988 годзе быў вернуты праваслаўнай царкве і адноўлены храм Дзмітрыя Салунскага ў Шчорсах. У 1991 годзе адрамантаваны храм у вёсцы Купіск, пабудавана новая драўляная царква ў вёсцы Малыя Вараб'евічы і мураваная царква ў вёсцы Вялікія Вараб'евічы. Адбудаваны і ў 1991 годзе асвечаны касцёл Святога Казіміра ва Уселюбе. У

1992 годзе на падмурках старой царквы ў вёсцы Загор'е Сенненскае была пабудавана новая. З 1986 па 1996 гады вяліся работы па аднаўленню касцёла Святога Міхаіла ў Навагрудку. У 1996 годзе была вернута праваслаўным вернікам Барысаглебская царква. У 1997 годзе каля месца, дзе знаходзілася Падліпская царква і стаяла ліпа, быў пастаўлены памятны крыж, а пазней пабудавана капліца. Перададзены вернікам і пасля ўзнаўлення дзейнічаюць мячэці ў Навагрудку і Лоўчыцах. Адрамантаваны сямейныя капліцы-пахаванні знакамітага ірландскага роду О'Руркаў, якія спачываюць ва Уселюбе, Брахоцкіх у Вераскаве, адноўлены сямейны склеп роду Карповічаў у Чамброве (каля Валеўкі).

Пасля перыяду працяглых рэпрэсій і ціску на вернікаў розных канфесій наступіў час, калі можна свабодна выказваць свае адносіны да рэлігіі, наведваць храмы, узносіць словы малітвы да Бога, вучыцца прабачаць.

# З М Е С Т



**Стольны град.** Наваградскі літаратурны альманах. № 2. На беларускай мове. 2022. 208 с. Гарнітура - Times. Папера офісная. Фармат А-5. Друк RISO. 150 асобнікаў.

